◂ № 49 (321) ◂ 21 снежня ◂ 2012 г.
www.novychas.info

# Новы Час






ISSN 2218-2144

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**НАСТУПНЫ НУМАР ГАЗЕТЫ «НОВЫ ЧАС» ВЫЙДЗЕ 11 СТУДЗЕНЯ**

▸ З НАГОДЫ

## 2012 — НЕПЕРААДОЛЕНЫ БАР'ЕР

Вольга ХВОІН

**Калі развіталіся з 2010 годам, было горка за няспраўджаныя спадзяванні і страшна за будучыню. Провады 2011-га — як пераправа праз бурлівую раку: пасля мусіць быць лягчэй. Напрыканцы 2012-га становіцца зразумела, што ўсё — і адмоўнае, і пазітыўнае — у Беларусі яшчэ наперадзе.**




Пачыналі гэты год на хвалі эмоцый ад раптоўнага эканамічнага абвалу. І, хаця эксперты канстатуюць, што насельніцтва Беларусі збяднела (чытайце больш падрабязна на стар. 4), напрыканцы снежня стала вядома, што ў сярэднім па краіне атрымалася вярнуць заробкі на ўзровень канца 2010 года. Так, міністр працы і сацыяльнай абароны Беларусі Марыяна Шчоткіна на днях заявіла, што ў рэспубліцы па выніках года сярэдняя заработная плата дасягне вызначанага Лукашэнкам узроўню ў 500 долараў у эквіваленце. Мантра «па пяцьсот», як бачым, працуе. Канешне, не трэба забывацца пра сярэднюю тэмпературу па бальніцы. Тым больш, гэта пацвярджае вывучэнне патэнцыйных заробкаў з базы вакансій — прапановы заробку да 2,5 мільёнаў беларускіх рублёў для рэгіянальных гарадоў надзвычай пашыраныя, і ад запаветных «усім па пяцьсот» гэта далёка.

На наступны ж год падрыхтаванае новае закліканне: не так даўно міністр эканомікі Беларусі Мікалай Снапкоў заявіў, што ў новым 2013 сярэдняя зарплата беларусаў дарасце да 700 долараў. Кіраўнік Мінэканомікі выказаў упэўненасць, што заяўлены ў якасці прагназнага параметра ў 2013 годзе рост сярэдняй зарплаты па краіне да 700 долараў у эквіваленце будзе выкананы, рэзервы для гэтага ёсць. Асабліва цікава гэтая гонка за лічбамі выглядае на фоне прыгоннага Дэкрэта №9 і запужваючых візітаў «справядлівага цара» на прадпрыемствы рэальнага сектару эканомікі.

Апроч эканамічных тэмаў, якія, безумоўна, кранаалі розум і душу большасці насельніцтва, цягам года ў Беларусі былі падзеі, цікавыя больш вузкай аўдыторыі. На жаль. Так, у сакавіку былі прыведзеныя ў выкананне смяротныя прысуды Дзмітрыю Канавалаву і Уладзіславу Кавалёву, якіх Вярхоўны суд прызнаў вінаватымі ў арганізацыі выбуху ў мінскім метро ў красавіку 2010 года. Справа была неадназначнай, назіральнікі апелявалі да шматлікіх нестасовак, супярэчнасцяў у доказнай базе. Тым не менш прысуд быў выкананы, і рэакцыя на яго была такой жа: адны ўхвалілі пакаранне, другія неслі партрэты Улада Кавалёва да мемарыяла побач з уваходам у метрапалітэн.

Напрыканцы года беларускія праваабарончыя арганізацыі назвалі праваабаронцам года Любоў Кавалёву — маці Уладзіслава, якая ўвесь гэты час змагалася за свайго сына, і працягвае гэта рабіць цяпер. Толькі ўжо ў спробах аднавіць яго добрае імя. Негатыўнай была рэакцыі і з боку Еўрапейскага саюза, адкуль прыйшло паведамленне, што «смяротнае пакаранне ў любых абставінах разглядаецца як жорсткае і бесчалавечнае пакаранне, якое перастае быць сродкам стрымлівання і ўяўляе сабой недапушчальнае адмаўленне чалавечай годнасці і недатыкальнасці».

На канец года ў Беларусі, паводле ацэнак праваабаронцаў, ёсць 12 палітзняволеных. Сярод іх і былы кандыдат на пасаду прэзідэнта Мікалай Статкевіч. «19 снежня 2010 года — дзень выбараў прэзідэнта — дата, якая стала кропкай незвароту, калі масавыя затрыманні, катаванні ў турмах і бяспраўе з боку сілавікоў стала ўвайшлі ў жыццё беларусаў», — эмацыйна пішуць праваабаронцы ў другую гадавіну падзей у дзень выбараў. Усе пералічаныя аспекты ўвайшлі ў жыццё беларусаў, але беларусы ў адказ на гэта пастараліся максімальна сысці ў свой свет, абстрагаваны ад палітыкі. Дом, сям'я, праца, пошук сродкаў на жыццё, эміграцыя (палітычная і эканамічная) — 2012 год стаўся годам абывацеля, калі на першы план выступілі патрэбы і зацікаўленасці з першых прыступак знакамітай піраміды Маслоў.

О, спорт! Ты — мір! З дзяцінства ў нас выхоўваюць адносіны да спорту як да здаровага і выключна пацыфічнага занятку. Але ў Беларусі цяпер, што ні дзейнасць, то бітва — з ахвярамі і стратамі. Пасля Алімпіяды–2012 на галовы нашых атлетаў абрынулася мора зняваг, абвінавачванняў у сабатажы. І не ад калег па мячу ці штанзе, а ад чыноўнікаў, якім невыкананы перад Лукашэнкам план па медалях папсаваў кар'еру.

«Па асобных спартсменах маецца непацверджаная інфармацыя аб магчымым сабатажы спаборніцтваў, калі атлеты свядома не паказвалі высокія вынікі. Прычыны гэтага цяпер высвятляюцца. Я як міністр падзяляю адказнасць за правал на Алімпіядзе. Але яе са мной павінны дзяліць і кіраўнікі на месцах. Часам даводзілася літаральна ўпрошваць спартсменаў паказаць на Алімпіядзе свой лепшы вынік», — заявіў постфактум цяпер ужо былы міністр спорту і турызму Алег Качан.

Да скандалу з невыкананнем плана па медалях (але варта прызнаць, што беларуская зборная выступіла ўсё ж годна: 13 медалёў у 7 відах спорту; з іх 3 залатыя, 5 сярэбраных і 5 бронзавых) крыху пазней дадалося расчараванне ў сувязі зануляваннем перамогі штурхальніцы ядра Надзеі Астапчук — яе абвінавацілі ў прымяненні допінгу і забралі залаты медаль.

Тым не менш напрыканцы года ў беларусаў была нагода для гонару: ФК «БАТЭ» стаў чэмпіёнам у дзявяты раз і сёмы запар. Акрамя таго, у гэтым годзе БАТЭ выключна выступіў у Лізе чэмпіёнаў — каманда Віктара Ганчарэнкі атрымала перамогі над французскім ФК «Ліль» і нямецкай «Баварыяй». Гэта той выпадак, калі без загадаў зверху прадстаўнікі Беларусі дасягаюць поспеху. Застаецца верыць, што не за гарамі дзень, калі добрая воля і адчуванне ўласнай свабоды, а не пагрозы адправіцца на нары за нявыкананыя разнарадкі зверху, будуць падштурхоўваць нашых суайчыннікаў да перамог і трыумфаў ва ўсіх сферах, і на тэрыторыі сваёй дзяржавы.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ГОМЕЛЬ. ЖЫХАРАМ НАГАДАЛІ ПРА ДРУГУЮ ГАДАВІНУ ПЛОШЧЫ

Актывісты ініцыятывы «Голы кароль» распаўсюдзілі ў Гомелі ўлёткі, у якіх нагадалі пра сумную для беларускай гісторыі дату — 19 снежня 2010 года.

Ва ўлётках было напісана, у прыватнасці, пра тое, што пасля «крывавай нядзелі» сітуацыя ў Беларусі толькі пагаршаецца: нацыя співаецца і вымірае, падае жыццёвы ўзровень, а чыноўнікі загразлі ў карупцыі і беззаконні.

Таксама аўтары ўлётак нагадваюць пра нядаўнія падзеі: увядзенне «прыгоннага права» па Дэкрэту прэзідэнта № 9 і пра маўчанне дзяржаўных суб'ектаў, якія могуць заявіць пра неадпаведнасць нормам Канстытуцыі апошніх рашэнняў і заяваў прэзідэнта.

### СЛОНІМ. МЕДЫКАЎ ПРЫМУСОВА ПАДПІСВАЮЦЬ НА «СЛОНІМСКІ ВЕСНІК»

Галоўны ўрач Слонімскай цэнтральнай раённай бальніцы Юрый Пяцельскі загадаў усім загадчыкам аддзяленняў бальніцы выпісаць раённую газету «Слонімскі веснік» на 2013 год — па пяць асобнікаў на аддзяленне.

Загадчыкі аддзяленняў думалі, дзе ўзяць грошы на выкананне гэтага загаду. І не знайшлі іншага спосабу, як пайсці ў складчыну — загадчыкі аддзяленняў, дактары і малодшы медперсанал цяпер збіраюць грошы на падпіску. Такім чынам, са студзеня на кожнае аддзяленне бальніцы паштальён будзе прыносіць па пяць асобнікаў «Слонімскага весніка». Тым часам на незалежную «Газету Слонімскую» падпісацца немагчыма, бо яна па-ранейшаму не ўключана ў рэспубліканскі падпісны каталог «Белпошты».

### ВІЦЕБСК. ЗАТРЫМАНЫХ АБВІНАВАЧВАЮЦЬ У «НЕЦЭНЗУРНАЙ ЛАЯНЦЫ»

Актывістаў БХД затрымалі каля 11 раніцы, але суду над затрыманымі так і не было. Абодвух змясцілі ў ізалятар часовага ўтрымання прынамсі на бліжэйшую ноч.

Супрацоўнікі ДАІ спынілі машыну, якой кіраваў Станіслаў Лаўрэнаў, але чамусьці сталі правяраць дакументы і ў Аляксея Кішчука. У яго не было пры сабе пашпарта, і хлопца павезлі ў міліцыю, каб спраўдзіць асобу. Але там адразу склалі пратаколы, нібыта абодва «лаяліся матам», а Станіслаў Лаўрэнаў нібыта не падпарадкоўваўся патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі.

«Нічога такога не было. Мы ехалі набываць падарунак сябру на дзень народзінаў. Машыну спынілі, сталі правяраць дакументы Станіслава, потым мае. Потым на ягонай машыне ён паехаў у пастарунак з супрацоўнікамі міліцыі, а мяне павезлі асобна. У Першамайскім РАУС нас трымалі больш за тры гадзіны, потым павезлі ў Першамайскі райсуд, каб судзіць за хуліганства. Але суду не было, нас завезлі ў ізалятар часовага ўтрымання, і ніхто не кажа, на якой падставе нас тут трымаюць», — распавёў Аляксей Кішчук.

Тацяна Севярынец, каардынатарка аргкамітэту па стварэнні партыі БХД, мяркуе, што затрыманне хлопцаў звязана толькі з тым, што дзейнасць прыхільнікаў БХД у Віцебску апошнім часам актывізавалася: «16 снежня ў горадзе былі вывешаны бел-чырвона-белы сцяг і банэр «Свабоду палітвязням». А за некалькі дзён да таго па Віцебску ездзіў тралейбус з прымацаваным бел-чырвона-белым сцягам, і гэтую акцыю таксама зладзілі прыхільнікі стварэння БХД. Сёння 19 снежня, угодкі Плошчы, і міліцыянты яўна апасаюцца, што нехта можа зладзіць яшчэ нейкую палітычную акцыю».

**Матэрыялы падрыхтаваны паводле сайта spring96.org**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# СТАТКЕВІЧУ НЕ АДДАЮЦЬ ГАЗЕТУ

Вольга ХВОІН

**Палітвязень Мікола Статкевіч цягам года не атрымлівае газету «Новы час». Хаця наша выданне аформіла падпіску на імя вязня і мае афіцыйную рэгістрацыю ў Мініфармацыі.**



Адміністрацыя папраўчых установаў спасылаецца на адсутнасць выдання ў каталогу «Белпошты». У лістападзе галоўны рэдактар газеты Аляксей Кароль звярнуўся з афіцыйнай скаргай на гэты конт у Дэпартамент выканання пакаранняў (ДВП) МУС, Упраўленне ДВП па Магілёўскай вобласці, пракуратуру Магілёўскай вобласці і магілёўскую турму №4, дзе ўтрымліваюць Міколая Статкевіча. Рэдактар прасіў знайсці вінаватых у парушэнні правоў на карэспандэнцыю Статкевіча Мікалая Віктаравіча.

Службоўцам з пенітэнцыярнай сістэмы паведамлялі, што газета «Новы час» — афіцыйна зарэгістраванае выданне, і ні Крымінальна-выканаўчы кодэкс Рэспублікі Беларусь, ні Правілы ўнутранага распарадку не ўтрымліваюць абмежаванняў на атрыманне выданняў, аформленых выключна па каталогу «Белпошты». А пералік забароненых для атрымання і распаўсюду ў месцах зняволення выданняў (арт. 89 ч. 2 Крымінальна-выканаўчага кодэксу) уключае ў сябе толькі газеты, што «прапагандуюць вайну, распальванне расавай, нацыянальнай, рэлігійнай варажнечы, гвалт і жорсткасць, выданні парнаграфічнага характару».

Адказ на свае запыты рэдакцыя атрымала з магілёўскай турмы і з Упраўлення Дэпартамента выканання пакаранняў (УДВП) па Магілёўскай вобласці (Магілёўская пракуратура і МУС перанакіравалі скаргу ў тое ж УДВП).

Начальнік турмы № 4 і А. Дзмітроў адказаў, што Статкевіч «падпісваецца на друкаваныя СМІ, якія атрымлівае ў поўным аб'ёме і ва ўстаноўленыя тэрміны». А «па пытанні афармлення падпіскі на газету «Новы час» да адміністрацыі турмы не звяртаўся». Дастаўка ж «можа быць арганізавана ў выпадку афармлення падпіскі ў адпаведнасці з патрабаваннямі часткі 1 арт. 89 КПК РБ і пункту 275 Правілаў унутранага распарадку папраўчых устаноў».

Начальнік УДВП па Магілёўскай вобласці У. Скамарох 7 снежня адказаў, што «індывідуальная падпіска асуджаных на перыядычныя выданні арганізуецца праз адміністрацыю ўстановы», а Статкевіч з просьбамі наконт «Новага часу» да адміністрацыі турмы №4 не звяртаўся.

Рэдакцыя «Новага часу» рэгулярна дасылае на адрас папраўчых установаў, дзе знаходзіўся Мікола Статкевіч, асобнікі газеты, але яны вяртаюцца назад у рэдакцыю.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

# МЯСА Ў АБМЕН НА НАФТАПРАДУКТЫ

Вольга ХВОІН

**Польшча падтрымае Беларусь у выпадку ўступлення яе ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. Пра гэта паведаміў кіраўнік аддзела садзейнічання гандлю і інвестыцыям амбасады Польшчы ў Беларусі Веслаў Пакладэк.**

«Польшча падтрымлівае ўступленне Беларусі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю (СГА). Гэта станоўча адаб'ецца на таваразвароце паміж Польшчай і Беларуссю, таму што тыя бар'еры, якія цяпер выкарыстоўваюцца, не будуць тады існаваць. СГА прымушае да зняцця такіх бар'ераў. Яе роля ў тым, каб стымуляваць развіццё гандлю», — адзначыў прадстаўнік польскай дыпламатычнай місіі. Разам з тым Веслаў Пакладэк заўважыў, што Польшча не настроена аптымістычна з нагоды ўступлення Беларусі ў СГА ў бліжэйшы час. На думку Пакладэка, уступленне Расіі ў СГА станоўча адаб'ецца на таваразвароце паміж Польшчай і Беларуссю, але ў доўгатэрміновай перспектыве — не раней 2017 года, калі ў Расіі ўступяць у сілу ўсе правілы СГА. «Я думаю, і Беларусь павінна выкарыстоўваць той факт, што Расія адкрываецца», — сказаў ён.

Тавараабарот паміж Польшчай і Беларуссю па выніках 2012 года можа захавацца на ўзроўні 2011 года. «Калі нам удасца захаваць узровень тавараабароту каля 2–2,5 мільярда долараў, гэта будзе добра. Мы разлічваем на 2,5 мільярда долараў, паводле беларускім ацэнак. Паводле польскіх разлікаў, павінна быць каля 3 мільярдаў долараў», — паведаміў Веслаў Пакладэк. Прадстаўнік амбасады Польшчы адзначыў: «Палітычныя адносіны не маюць прамога ўплыву на гандлёвыя сувязі, гэта хутчэй тычыцца адміністратыўных працэдураў. Адзінае, я думаю некаторыя інвестары баяцца палітычных працэсаў, якія тут адбываюцца і тармозяць свае рашэнні прыйсці сюды».

Сярод гандлёвых партнёраў Польшчы Беларусь займае 21-е месца па экспарту і 27-е — па імпарту.

Калі разглядаць тавараабарот паміж Беларуссю і Польшчай у 2004–2011 гадах, то пік росту быў у 2008 годзе — тады тавараабарот склаў 2,9 мільярда долараў. Потым у сувязі з эканамічным крызісам назіралася падзенне. У 2011 годзе тавараабарот склаў 2,4 мільярда долараў, з іх на экспарт прыпала 1,3 мільярда долараў, на імпарт — 1,12 мільярда долараў, паводле ацэнак міністэрства эканомікі Польшчы. За 9 месяцаў 2012 года назіраецца мінус 10% ад папярэдняга аб'ёму тавараабароту.

Між іншым, Рэспубліка Польшча — адзін з асноўных гандлёвых партнёраў Беларусі. Яна займае сёмае месца ў беларускім экспарце і пятае ў беларускім імпарце.

Польскі экспарт у Беларусь па секцыям таварных груп выглядае так: 19,3% — машыны, электратэхнічнае абсталяванне, 9,6% — прадукты жывёлагадоўлі, 9,6% — пластмасы, каўчук і вырабы з іх, 7,8% — прадукцыя хімічнай прамысловасці, 7,7% — прадукцыя раслінаводства. Пры гэтым 8,2% ад усяго экспарту ў Беларусь складае свініна, 5,2% — свежыя яблыкі і грушы.

З Беларусі ў Польшчу экспартуюцца ў асноўным сыравінныя рэсурсы: 44,4% мінеральныя прадукты, 20% хімічныя прадукты. 8% драўніна і вырабы з дрэва. Ад усяго аб'ёму імпарту нафтапрадукты складаюць 27,4%, звадкаваны газ 17%, таксама ў лідарах паставак калійныя ўгнаенні, казеін, кабельная прадукцыя.

Па інфармацыі амбасады Польшчы, цягам апошняга года найбольшую дынаміку мелі такія таварныя пазіцыі: тлушчы жывёльнага ці расліннага паходжання, скура і скураныя вырабы, прамысловыя тавары, вырабы з камню, цэменту, керамічныя вырабы, шкло, інструменты, вымяральная тэхніка, прадукцыя жывёльнага паходжання. Па словах Веслава Пакладэка, гэты спіс тавараў дэманструе перспектыўныя кірункі для гандлёвых арганізацый.

ЭКСПАНСІЯ

# РУСКІЯ ІДУЦЬ

**Расія вядзе «прадуктыўныя перамовы» па пытанні аб'яднання «Гомсельмаша» і «Ростсельмаша».**

Надзвычайны і паўнамоцны пасол Расіі ў Беларусі Аляксандр Сурыкаў паведаміў журналістам, што па пытанні магчымага аб'яднання «Гомсельмаша» і «Ростсельмаша» ўжо пачаліся перамовы.

«Мы лічым, што прыватызацыя прадпрыемства — гэта прыход інвестара. Мы ставімся станоўча. Вядома, гэта цяжка, але нам удалося пасадзіць за стол перамоваў кіраўніцтва і «Гомсельмаша», і «Ростсельмаша». Яны досыць плённа папрацавалі, наступная іх сустрэча, напэўна, будзе ў студзені. Па крайняй меры, з непрымірымых канкурэнтаў яны пачалі ператварацца ў партнёраў», — адзначыў расійскі дыпламат.

Разам з тым, паводле яго слоў, неабходных рэсурсаў на набыццё актываў аднаго з бакоў няма ні ў «Ростсельмаша», ні ў «Гомсельмаша». «Праўда, і незалежных ацэнак кошту абодвух прадпрыемстваў няма», — канстатаваў Аляксандр Сурыкаў.

Апроч таго, ужо ў першым квартале 2013 года беларускі МАЗ і расійскі КамАЗ аб'яднаюцца ў холдынг «Росбелавто», паведамляе БелаПАН.

«Прадпрыемства будзе мець адзіную вытворчую і збытавую палітыку. Пад гэтым не маецца на ўвазе спыненне выпуску МАЗа або КамАЗа, будуць дзве маркі выпускацца, а адзіная дылерская сетка, павышэнне канкурэнтаздольнасці», — сказаў пасол Расіі ў Беларусі. Беларусь мае намер унесці ў холдынг «Росбелавто» 75% акцый МАЗа мінус адна акцыя.

Рынкавы кошт МАЗа ацэнены ў 1,1 мільярда долараў. Рынкавы кошт КамАЗа склаў 1,6 мільярда долараў.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ЗНОЎ ВАЙНА, А МЫ СТАМІЛІСЯ...

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Ну чаму, як толькі наступае зіма, нас клічуць у зямлянкі? Чаму б не заклікаць летам ці напачатку восені? Чаму вайна раптам надыходзіць узімку? Нелагічна ж, ведаючы нашыя зімы, камусьці на нас нападаць у гэты час!**



Вось і Аляксандр Рыгоравіч, як толькі наступілі халады, распачаў звыклую песню пра вайнушку. «Вы павінны працаваць, як у ваенны час. Я вам даў выразны сігнал, больш за тое — узяў на сябе вялікую адказнасць, падпісаўшы адпаведны дэкрэт, за што мяне малоцяць, пачынаючы ад Амерыкі і заканчваючы Расіяй. Таму я нікому не дарую. Працаваць вы павінны дзень і ноч. Настаў час напружыцца. Таму тэрміны нават не падвяргайце сумненню», — заявіў Лукашэнка падчас наведвання 14 снежня ААТ «Віцебскдрэў».

Сапраўды, дэкрэт № 9 выклікаў шмат пытанняў і шмат крытыкі. Адной з галоўных прэтэнзій крытыканаў было тое, што прымусовая праца дазволеная толькі ва ўмовах ваеннага часу ці надзвычайнага становішча. Пытанне: з кім мы збіраемся ваяваць? Ці не азначаюць словы прэзідэнта, што надзвычайнае становішча неўзабаве будзе?

Бадай, усё гаворыць пра тое, што Лукашэнка імкнецца перавесці краіну на вайсковыя рэйкі. Не ў сэнсе вайны, а ў сэнсе працы. Наведаўшы камвольны камбінат у Мінску, Лукашэнка звольніў кіраўніка гэтага прадпрыемства Святлану Стрыжак, генеральнага дырэктара канцэрна «Беллегпрам» Генадзя Вырко і яго намесніка Андрэя Мытніка.

Кіраваць ААТ «Камволь» Лукашэнка, не выходзячы з месца, прызначыў галоўнага інжынера прадпрыемства Віктара Гаўрыленку. Ён таксама даручыў да новага года ўнесці прапановы па кандыдатуры новага кіраўніка канцэрна «Беллегпрам».

Звяртаючыся да Віктара Гаўрыленкі, кіраўнік дзяржавы адзначыў, што гэта яго шанс аднавіць прадпрыемства. «Не зробіш — пасаджу! Прабач, што я так кажу, але выбару няма. Але я не хачу, каб ты сядзеў. Ты мне патрэбны тут як дырэктар, і ты павінен зрабіць гэта прадпрыемства, павінен па-гаспадарску разабрацца, як будзе ісці мадэрнізацыя», — сказаў Лукашэнка.

Ён таксама зрабіў папярэджанне ўраду. «Вам з Мясніковічам — гэта апошні званок, — заявіў кіраўнік дзяржавы, звяртаючыся да першага віцэ-прэм'ера Уладзіміра Сямашкі. — Мне вашы апраўданні не патрэбныя! Я сюды не па апраўданні прыехаў. Я добра ведаю, што адбываецца на «Камволі». «Тое, што я тут убачыў, — гэта злачынная безадказнасць. Ну як жа так — разбіта шкло і жанчыны працуюць? Тут і Ладуцька хадзіў, і Сямашка, і Мясніковіч. Гэта злачынства! І яно каральнае».

Здаецца, Рыгоравіча ў чарговы раз «занесла». Каб «пасадзіць» — трэба крымінальнае злачынства, а не загад прэзідэнта. Трэба пракуратура і суд, а не Лукашэнка.

А разбітае шкло на «Камволі», дзе працуюць жанчыны, — гэта максімум адміністрацыйнае правапарушэнне для таго, хто яго разбіў, а не для галоўнага інжынера прадпрыемства. І на месцы галоўнага інжынера я б адмовіўся прыймаць такое незаконнае прызначэнне. Бо захоп пасады па словах аднаго «левага» для «Камволя» чалавека — у гэтым, падаецца, і можа быць склад крымінальнага злачынства.

Такі стыль кіравання сапраўды можа быць апраўданы толькі ў ваенны час, калі трэба прымаць тэрміновыя рашэнні і расстрэльваць дэзерціраў без суда і следства. Але ў нас да расстрэлаў яшчэ не дайшло. Пакуль што толькі здымаюць з пасадаў.

«Апошняе папярэджанне ўраду» за разбітае шкло таксама вельмі прыкольнае. Ну, звольніць Лукашэнка ўрад, адправіць у адстаўку. Але з каго ён сфарміруе новы? Зноў з Сідорскага? Дык таму някепска і ў калегіі па прамысловасці і аграпрамысловым комплексе Еўразійскай эканамічнай супольнасці, тым больш, што там ён мае ранг міністра. Пракаповіча? Дык Пётр Пятровіч і зараз дарадца прэзідэнта па эканамічных пытаннях, і, лічы, сам адказны за правалы ў галіне вытворчасці. Уладзіміру Ярмошыну някепска і на пасадзе дырэктара «Знешэканамбуда», які пабудаваў «Славянскі квартал» ды «Мінск-Арэну». Генадзь Навіцкі з былых прэм'ераў яшчэ застаўся, але чым ён вызначыўся на гэтай пасадзе, ніхто не памятае.

Можа быць, прэм'ерам прызначаць міністра эканомікі Мікалая Снапкова? Бо ён у прамой лініі ў газеце «Рэспубліка» заявіў, што ў наступным годзе зарплата будзе 700 долараў «без праблем». Але ж у той час, калі мы яшчэ на 500 не выйшлі, такога прэм'ера давядзецца звальняць праз паўгода. Віцэ-прэм'ер краіны Анатоль Тозік? Ён больш заклапочаны, як навучыць дзетак плаваць. «У нас у краіне не павінна быць дзяцей, якія не ўмеюць плаваць. Гэта неад'емны кампанент здаровага ладу жыцця і наогул абароны жыцця падрастаючага пакалення», — заявіў Тозік падчас сходу Федэрацыі плавання.

«Мы абавязаны павярнуць насельніцтва да плавання — выдатнага віду спорту, які налічвае 34 алімпійскія дысцыпліны. І гэта ўсё пры адносна невялікіх капіталаўкладаннях», — сказаў Тозік.

Гэта я да таго, чым займаюцца віцэ-прэм'еры ў працоўны час. Плаваннем, а не мадэрнізацыяй прадпрыемстваў.

А вось надзвычайнае становішча сапраўды можа быць абвешчанае. І чарговая вайна можа быць, як звычайна, з Расіяй, і, як звычайна, з-за нафты. Дзесяць дзён да Новага года, праходзіць канец свету, а кантракту на пастаўку нафты на будучы год дагэтуль няма.

Але не ўсё ў Беларусі патыхае нафтай. 18 снежня ў Мінску прайшла прэзентацыя духмянасці «Белая Русь», якую стварыла парфумер з сусветным імем Сафія Гройсман, ураджэнка Беларусі.

Сафія Гройсман брала ўдзел у стварэнні духмянасцяў «Yves Saint Laurent», «Calvin Klein», «Lancome», «Estee Lauder». «Белая Русь» — гэта рабочая назва духмянасці. Сама Гройсман назвала водар «Жаданне прахалоды».

Паводле слоў парфумера і дырэктара Асацыяцыі вытворцаў парфумерыі і касметыкі Уладзіслава Ракунова, духмянасць спачатку здаецца «саладкаватай, але праз некалькі хвілін становіцца паветранай, лёгкай. Гэта пах свабоды, лёгкасці і лунання».

Што тычыцца свабоды, лёгкасці і лунання, то гэта дакладна не пра Беларусь. Таму, здаецца, назва гэтай парфумы ўсё ж будзе аўтарская.

Так што да Новага года аніякіх пературбацыяў не намячаецца. А вось адразу пасля яго могуць быць сюрпрызы. Будзем чакаць, якія, і спадзявацца, што гэта будзе не дэвальвацыя, як у 2009-м.

**Не ўсё ў Беларусі патыхае нафтай. У Мінску прайшла прэзентацыя духмянасці «Белая Русь», якую стварыла парфумер Сафія Гройсман, ураджэнка Беларусі**

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### ВІКТОРЫЯ АЗАРАНКА

Першая ракетка свету беларуска Вікторыя Азаранка ўвайшла ў спіс прэтэндэнтак на званне найлепшай спартсменкі года па версіі Міжнароднай асацыяцыі спартыўнай прэсы (AIPS). Галасаванне будзе доўжыцца да 28 снежня.

За званне найлепшай спартсменкі года Азаранка змагаецца з 13-ю канкурэнткамі, сярод якіх дзве тэнісісткі: Сэрэна Уільямс і Марыя Шарапава.

Вікторыя Азаранка завяршае сезон на першым радку жаночага сусветнага тэніснага рэйтынгу. Сёлета яна ўстанавіла новы рэкорд Жаночай тэніснай асацыяцыі па колькасці прызавых, зароблених за адзін сезон. У 2012 годзе Вікторыя выйграла шэсць турніраў, зарабіла 7 923 920 долараў. Усяго ж за прафесійную тэнісную кар'еру Вікторыя Азаранка зарабіла 16 857 277 долараў прызавых.

У мужчынаў на тытул найлепшага спартоўца года прэтэндуюць Усэйн Болт (бег), Фернанда Алонса, Себасцьян Фетэль (Формула–1), Андрэс Ін'еста, Крыштыяну Раналду (футбол), Новак Джокавіч (тэніс), Уладзімір Клічко (бокс), Майкл Фэлпс (плаванне) ды іншыя.

### АЛЕГ СІЛЬВАНОВІЧ



Гендырэктар «Беларусьфільма» адной з галоўных праблем беларускага кінематографа назваў выхад на ўнутраны рынак, паведамляе БелаПАН.

«Выпуск беларускага кантэнту ў беларускі кінапракат з'яўляецца пытаннем прысутнасці на рынку і прэстыжу, але не эканамічнай выгады. Эканамічны сэнс для «Беларусьфільма» мае праца на чужы рынак, перш за ўсё на расійскі», — сказаў Сільвановіч на прэс-канферэнцыі 18 снежня. Паводле яго слоў, праца з калегамі з Расіі дазваляе кінастудыі атрымліваць фінансы, якія потым яна можа ўкласці ў праекты нацыянальна-мастацкага значэння.

Выказваючы сваё меркаванне пра ўнутраны рынак краіны, Сільвановіч падкрэсліў важнасць супрацоўніцтва з беларускімі тэлеканаламі. Ён паведаміў, што ў 2012 годзе «Беларусьфільм» сумесна з «Белтэлерадыёкампаніяй» выпусціў кінаверсію серыяла «Выкрасці Бельмандо», а з тэлеканалам АНТ у стадыі мантажу знаходзіцца чатырохсерыйны праект «Сляды апосталаў». Аднак работу з расійскімі тэлеканаламі гендырэктар «Беларусьфільма» лічыць больш выгадный з фінансавага пункту гледжання. За прэм'ерны кінапаказ у Расіі, прызнаўся Сільвановіч, можна атрымаць да мільёна долараў, тады як у Беларусі — каля 10 мільёнаў рублёў.



### АЛЕГ АЛКАЕЎ

Былы начальнік мінскага СІЗА № 1, аўтар кнігі «Расстрэльная каманда» — працягвае весці сваё расследаванне пра зніклых беларускіх палітыкаў. Алкаеў упэўнены ў існаванні відэазапісу пакарання зніклага былога міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі. «Я хачу падкрэсліць, што гэтыя справы замяцьне атрымаецца, таму што яны не маюць тэрміну даўнасці. І адказнасць за папушчальніцтва пры расследаванні такога роду злачынстваў таксама бестэрміновая. Нагадаю, што ў 1999–2000 гадах у Беларусі зніклі палітычныя праціўнікі Аляксандра Лукашэнкі — экс-кіраўнік МУС генерал Юры Захаранка, былы намеснік старшыні Вярхоўнага савету Віктар Ганчар, бізнэсовец Анатоль Красоўскі і журналіст Зміцер Завадскі. Я звяртаю ўвагу на тое, чаму больш за 10 гадоў не прасоўваецца следства па гэтых справах», — сказаў Алкаеў у інтэрв'ю «Deutsche Welle».

«Прынята лічыць, што асноўная віна ляжыць на кіраўніцтве краіны. Але нельга выключаць і адказнасці работнікаў следчага апарата, якім матэрыялы перадаваліся з рук у рукі, а расследаванне так і не зрушылася з месца. Напрыклад, чаму следчы Святлана Байкова, якая першыя два гады вяла справа аб знікненні Захаранкі, ведаючы ўсе абставіны, адводзіла следства ў бок? Яна шукала Юрыя Захаранку ў Германіі, дзе ён нібыта хаваўся. Па беларускім тэлебачанні нават паказвалі кадры дома, дзе «пасяліўся» зніклы генерал. Але ж следчы выдатна разумела, дзе трэба шукаць яго цела. Віна ляжыць не толькі на ёй, я назаву і іншыя імёны», — сцвярджае Алкаеў. Алкаеў таксама не лічыць, што яго цікавасць хтосьці можа выкарыстоўваць і адвесці па лжывым следзе. «Як мяне можна выкарыстоўваць? Я проста цікаўлюся тым, чым абавязаны былі цікавіцца следчыя пракуратуры, і збіраю факты для новай кнігі. Я мог бы апрацаваць існуючы матэрыял і выдаць новую, добра чытаную кнігу. Але ў будучыні следству па гэтых справах спатрэбяцца не эмоцыі, а факты», — адзначыў Алкаеў, які цяпер мае статус палітуцекача ў Германіі.

ВЫСНОВЫ

# ГАЛЕЧА ПАДКРАДЗЕЦЦА НЕПРЫКМЕТНА

Вольга ХВОІН

**Эканамічны крызіс 2011 года адчувальна пагоршыў матэрыяльнае становішча насельніцтва Беларусі. Але паратунку нашы суайчыннікі шукаюць не ў дзяржаўнай дапамозе, а найперш у працоўнай міграцыі.**



Эканамісты Аляксандр Чубрык і Глеб Шыманскі каментуюць вынікі даследавання

Эканамісты даследчага цэнтру Інстытута прыватызацыі і менеджменту падрыхтавалі агляд «Беднасць і сацыяльная ізаляцыя ў Беларусі», у якім аналізуюцца наступствы эканамічнага крызісу 2011 года: хто ў выніку пацярпеў найбольш моцна і ці сапраўды Рэспубліка Беларусь — сацыяльна арыентаваная дзяржава.

Адзначаецца, што ў 2011 годзе эканоміка Беларусі перажывала валютны крызіс, і гэта быў другі за апошнія чатыры гады эканамічны крызіс. Ён быў абумоўлены назапашанымі за мінулыя гады знешнімі дысбалансамі разам з мяккай манетарнай і фіскальнай палітыкай.

Хаця рэстараны краіны не пустуюць (і пра гэта нават згадваюць высокія чыноўнікі, калі разважаюць пра дабрабыт беларусаў), крызіс усё ж адчувальна пагоршыў матэрыяльнае становішча насельніцтва, — адзначаюць даследчыкі. У большай ступені ад яго пацярпелі адносна забяспечаныя групы насельніцтва, у той час як найменш забяспечаныя групы насельніцтва былі часткова абаронены эканамічнай палітыкай па павелічэнні мінімальнай заработнай платы і захаванню занятасці. У выніку крызіс прывёў да невялікага росту абсалютнай беднасці і зніжэння адноснай беднасці, выроўнівання ў прыбытках насельніцтва. Моцна павялічылася зона рызыкі, то бок праслойка людзей, чые даходы не надта моцна перавышаюць лінію абсалютнай беднасці.

Пры гэтым рысу беднасці даследчыкі з ІПМ разлічвалі для кожнай хатняй гаспадаркі зыходзячы з індывідуальных бюджэтаў пражытачнага мінімуму яго ўдзельнікаў на аснове сярэднегадавых дадзеных. Рыса адноснай беднасці была вызначаная на ўзроўні 60% ад сярэдняга даходу.

Найбольш пацярпелі ад леташняга эканамічнага крызісу людзі ва ўзросце старэй за працаздольны, жыхары сельскай мясцовасці, хатнія гаспадаркі, якія складаюцца з аднаго чалавека, і няпоўныя сем'і. Узровень абсалютнай беднасці сярод пенсіянераў застаўся невысокім, але зніжэнне пенсій у рэальным выражэнні рэзка пагоршыла іх становішча адносна іншых груп насельніцтва. Асабліва гэта тычыцца адзінокіх пенсіянераў. «Пенсіі дазваляюць выжываць, але не дазваляюць адчуваць сябе камфортна на фоне іншых слаёў грамадства», — адзначае эканаміст Глеб Шымановіч.

Цікавая рыса беларускай нястачы: да 2011 года гендэрнага разыходжання ў партрэце беднасці не было. Але крызіс паказаў, што жанчыны больш уразлівыя, у тым ліку і з прычыны ранейшага сыходу на пенсію, занятасці ў бюджэтнай сферы, дзе праводзіцца больш жорсткая фіскальная палітыка. Па-ранейшаму, у лідарах тых, хто апынаецца за рысай беднасці, знаходзяцца беспрацоўныя і студэнты.

Эканамісты ацанілі эфектыўнасць сацыяльных ільгот і дапамог і робяць выснову, што цягам апошняга года доля сацыяльных даплатаў у даходах найменш забяспечаных слаёў насельніцтва скарацілася на фоне больш жорсткай фіскальнай палітыкі, павялічылася адраснасць сацыяльных выплат, самымі эфектыўнымі застаюцца грашовыя дапамогі на дзяцей, але разам з тым эфектыўнасць сістэмы сацыяльнай абароны ў Беларусі моцна адстае ад краін Заходняй і Цэнтральнай Еўропы.

Калі ж ацэньваць уражлівасць да эканамічных пертурбацый паводле месца жыхарства, то традыцыйна найбольш праблемаў маюць людзі з сельскай мясцовасці, малых гарадоў. Але цікавую выснову робяць даследчыкі: у часе апошняга крызісу менавіта невялікія гарады і пасёлкі палепшылі свае паказчыкі дабрабыту. Мяркуецца, што нагода хаваецца ў павелічэнні занятасці. Праўда, не ў Беларусі, а за яе межамі.

Яшчэ ў апытанні 2009 года практычна 20 працэнтаў рэспандэнтаў сказалі, што хацелі б з'ехаць за мяжу, бо гэта дае магчымасць палепшыць свой матэрыяльны дабрабыт, за мяжою лепшая сістэма сацыяльнага забеспячэння, а таксама больш магчымасцяў для кар'ернага росту.

«Фактары, якія выштурхоўваюць людзей з Беларусі: высокая рызыка беднасці сярод беспрацоўных і эканамічна неактыўных людзей, магчымасць палепшыць свой дабрабыт, рызыка галечы сярод беспрацоўных, эканамічна неактыўных. Страта працы ў Беларусі — моцны падштурхоўваючы фактар да працоўнай эміграцыі. І Расія, і Еўрасаюз для беларусаў прывабныя з пункту даходаў. Але з пункту ўзроўню жыцця больш прывабная Еўропа», — адзначае эканаміст Аляксандр Чубрык.

Разам з тым ён падкрэслівае, што, на жаль, у Беларусі дагэтуль не было ніводнага паўнавартаснага даследавання на тэму працоўнай міграцыі. Цяпер падобную працу робіць Белстат і, магчыма, у наступным годзе будуць апублікаваныя яго вынікі.

Працоўная міграцыя з'яўляецца адной з найбольш эфектыўных стратэгій пераадолення цяжкасцяў. Хаця пра гэта і не гавораць чыноўнікі, але працоўная міграцыя можа забяспечыць частковае фінансаванне дэфіцыту бягучага рахунку і падтрымаць спажыванне тавараў працяглага карыстання ўнутры Беларусі. Вядома, што працоўная міграцыя дазваляла некваліфікаваным работнікам хутчэй знайсці добрую працу, аднак у сувязі з працяглымі праблемамі ў беларускай эканоміцы пошукі лепшай долі вядуць да адтоку кваліфікаваных кадраў.

Эканамісты з Інстытуту прыватызацыі і менеджменту адзначаюць, што сітуацыя са зб'ядненнем і актыўным пошукам працы за мяжою будзе характэрная для Беларусі і ў наступныя гады, бо няма крыніцы для росту заробкаў, сацыяльных выплат. «Ёсць рызыкі паўтарэння 2011 года, — гавораць эканамісты. — У 2013 годзе па аптымістычным сцэнары рост эканомікі замарудзіцца да 3,3% і мінус 0,6% — пры горшым варыянце развіцця падзей. І ў выпадку дадатковых эканамічных шокаў, напрыклад, знешніх, варта чакаць пагаршэння дабрабыту насельніцтва».

ЛІЧБЫ І ФАКТЫ

# БЕЛАРУСЬ–2012: П'ЕМ, ВЫМІРАЕМ, ЗАБІВАЕМ…

Андрэй РАСІНСКІ

**Нацыянальны статыстычны камітэт Беларусі выдаў серыю штогоднікаў. Сухія лічбы абвяргаюць застарэлыя ўяўленні пра стан краіны. Вось цікавосткі, узятыя з сайту статыстычнага камітэту.**

**1. Беларусы — не вяскоўцы**

Хаця ганаровым святам у краіне застаюцца «Дажынкі», беларусы ўжо даўно не вяскоўцы. Яшчэ з сярэдзіны 1970-х горад пануе над вёскай. У 2012 годзе ў горадзе жыло 75,8% ад усяго насельніцтва.

**2. Гараджанкі цнатлівейшыя за сялянак**

Ад 1970 і да 2011 года адсотак дзяцей, народжаных па-за шлюбам, вырас з 7,3 да 19%. Звычайна мяркуецца, што на вёсцы лепей захавалася традыцыйная мараль — але сучаснай беларускай вёскі гэта, верагодна, не тычыцца. У пазашлюбнай цяжарнасці рэй — год за годам — вядуць менавіта сялянкі. У 2005 годзе на сяле, увогуле, трэціна ўсіх народжаных дзяцей — пазашлюбная.

**3. Мужчыны тут доўга не жывуць**

З 1993 года ў Беларусі пачалося вылюдненне. У 1999 годзе пенсіянераў сталася болей за дзетак. А тры гады таму пачалося і натуральнае змяншэнне людзей працаздольнага веку. І хаця з 2003 года сумарны каэфіцыент нараджальнасці вырас, яго хапае толькі, каб ледзьве аднавіць тры чвэрці насельніцтва.

Што да чаканай працягласці жыцця, то яна дасягнула піку — 72,9 гадоў у сярэдзіне далёкіх 1960-х — і з таго часу не расла. А найбольшая чаканая працягласць жыцця беларускага мужчыны была ўсяго 68,9 гадоў — і тое амаль паўстагоддзя таму. Надалей сітуацыя толькі пагоршылася: у 1999 годзе беларусы жылі ўсяго 62,2 гады. Да 2011 года гэтая працягласць крыху падрасла на 2,5 гады — але сярод краінаў СНД Беларусь фатальная рэкардсменка: жанчыны жывуць на 12 гадоў болей за мужчынаў — і гэта паталагічная розніца.

Найверагоднейшая прычына такога стану — беларускае п'янства.

**4. Самыя пачэсныя алкаголікі**

Стэрэатып, што болей за ўсіх п'юць рускія, — няпраўда. Беларусы іх у гэтым яўна пераплюнулі. Колькасць упершыню пастаўленых на ўлік беларускіх алкаголікаў (на 100 тысяч чалавек) амаль у тры разы перавышае колькасць алкаголікаў расійскіх. У 2011 годзе такіх было 287.

Затое ў Беларусі прапіваецца найболей грошай — з усяго СНД. Ані Украіна, ані Расія не здольныя пахваліцца і 2%, што выдаткоўваюцца з сямейнага бюджэту на алкаголь. Беларусь — 2,2%.

Адпаведна, колькасць памерлых ад выпадковых атручванняў алкаголем у краіне расце. Паводле міліцэйскай статыстыкі, толькі з 2007 да 2011 года іх лічба вырасла на траціну.

**5. Срэбра — за злачынствы**

З усіх краінаў СНД Беларусь займае другое месца па колькасці зарэгістраваных злачынстваў на кожнага жыхара. У гэтым спісе Беларусь саступае толькі Расіі: у 2011 годзе ў Расіі здзяйснялася па 1 682 злачынствы на 100 тысяч чалавек, у Беларусі — 1 394. А калі браць абсалютную колькасць забойстваў (дый замахаў на забойствы) еўрапейская Беларусь не вельмі розніцца ад азіяцкага Кыргызстану: у 2011 годзе ў Беларусі былі 404 такія выпадкі, у Кыргызстане — 467.

Злачыннасць мае выразную геаграфію: на ўсходзе краіны крыміналу болей. Самыя бандыцкія раёны — Бабруйскі і Аршанскі.

**6. Да нас усё яшчэ едуць**

Нягледзячы ні на што, Беларусь выглядае папулярнай для мігрантаў. Статыстыка пакуль не ўлічвае працоўных, якія ўцякаюць у Расію, — калі тыя пакідаюць за сабой беларускую прапіску. Затое, згодна з пашпартнымі звесткамі, у краіну дасюль едуць ахвотней, чым з яе бягуць. У 2011 годзе міграцыйны абмен павялічыў насельніцтва Беларусі на 9 900 чалавек.

Краіны ўцёкаў — заходнія і высокаразвітыя (сярод іх і паспяховая Чэхія).

Паказальна, што міграцыя ў Германію ўжо пераважае міграцыю ў Ізраіль.

А адкуль едуць да нас?

Найболей едуць у Беларусь з Расіі і Украіны. Увогуле, усе краіны-суседкі, дадаюць Беларусі людзей. Беларусь вабіць людзей з краінаў, што ўваходзілі калісьці ў Савецкі Саюз, дый з'явіліся і іншыя гульцы. Сама яскравы — Кітай. У 2011 годзе ён дадаў Беларусі 140 чалавек, апярэдзіўшы Арменію, Кыргызстан, Таджыкістан і Эстонію.

Цікава, што, згодна з перапісамі, колькасць кітайцаў расла ў Беларусі хутчэй за ўсе іншыя групы. За дзесяць гадоў, з 1999 да 2009, яны павялічылі сваю прысутнасць амаль у 22 разы (з 75 чалавек да 1642). Амаль столькі ж у краіне арабаў, але за той жа прамежак часу іх пабольшала ўсяго ў 2,7 разу.

**7. Беларуская культура амаль як англійская**

За 2011 год беларускія цыркі — Беларускі дзяржаўны цырк, што ў Мінску, і Гомельскі — далі 408 прадстаўленняў. Іх наведалі 602,4 тысяч чалавек. У гэты ж год фестываль народнай творчасці «Вянок дружбы», што праходзіў у Бабруйску, — сабраў на 4 тысячы гледачоў болей за сталічны фестываль «Лістапад». У кінафэсту было ўсяго 25 тысяч цікаўнікаў.

Але ўсіх мусіць пераплюнуць галоўная культурніцкая падзея — «Славянскі базар у Віцебску»: 150 000 гледачоў.

У краіне, што называецца Рэспубліка Беларусь, на беларускай мове друкуецца ўсяго 8,5% кнігаў; і ледзьве адна беларуская кніга прыпадае на 10 000 чалавек. Беларускамоўных кнігаў, брашураў, неперыядычных друкаваных адзінак выдаецца ўсяго ў два разы болей, чым кніг на англійскай мове.

У Беларусі за год з'яўляецца колькі дзясяткаў аддрукованак на нямецкай, французскай, іспанскай і нават лацінскай мове. Ёсць асобнікі на мове кітайскай і італьянскай. Але асноўная маса кніжак — пад дзесяць тысяч з адзінаццаці — пакідаюць тыпаграфію з мовай усходняй суседкі на вокладцы.

У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, пабудаванай за Лукашэнкам, доля ўсіх дакументаў на беларускай мове не перавышае і 3,3%.

СВЯТА

# СВЯТЫ МІКАЛАЙ ІДЗЕ З ПАДАРУНКАМІ

Аляксей ХАДЫКА

**Мікола і Варвара ноч урвалі… Так, змясціўшыся з-за хібаў юльянскага календара бліжэй да дня зімовага сонцавароту, свята Міколы Зімовага адлюстравалася ў народным фальклоры.**



Труна св. Мікалая ў Бары



Св. Мікалай, абраз майстра М.В. 1751 г. з Нацыянальнага мастацкага музея

Праваслаўныя хрысціяне Беларусі адзначаюць яго 19 снежня, у той час іх адзінаверцы заходняга абраду шануюць памяць епіскапа з Міраў Лікійскіх 6 снежня.

З Жыццяў святых, пераказаных у X стагоддзі па загадзе імператара візантыйскім пісьменнікам Сімяонам Метафрастам, што ўтрымліваюць жыццяпіс Міколы, найбольш папулярная гісторыя пра бядотнага бацьку, які збіраўся выправіць трох дачок з дому змагацца з галечай старажытным вулічным рамяством. Святы Мікалай дапамог няшчасным, падкінуўшы тры мяшэчкі з золатам, чым выратаваў іх ад ганьбы і забяспечыў годны пасаг. Адсюль па Еўропе пашырылася завядзёнка рабіць на дзень св. Мікалая падарункі дзецям — класці пад падушку альбо ў пакінутыя пры ложку вялікія панчохі.

У часы Рэфармацыі і змагання з культам святых на Захадзе час раблення падарункаў перасунуўся на Каляды, але ў Галандыі, адкуль пайшло імя Санта Клаўса (Sinte Klaas), як і даўней, малыя атрымоўваюць сюрпрызы ў абодва святы. У сваёй жа сучаснай форме культ спадкаемцы св. Мікалая — Санта Клаўса трансфармаваўся і аброс новай святочнай міфалогіяй у знакамітым галандскім паселішчы ў Амерыцы — Нью-Ёрку.

Паводле звестак старажытных аўтараў, св. Мікалай нарадзіўся ў Малой Азіі ў Лікіі ў горадзе Патарах каля 270 года познім дзіцём у заможнай сям'і, якая доўга не мела дзяцей, і атрымаў імя, якое значыць «пераможца народа» — Мікалай. Немаўлём ён выявіў надзвычайныя рысы — стаяў на ўласных ножках у хрысцільнай купелі, у посныя сераду і пятніцу адмаўляўся ад матчыных грудзей. Сталеючы, па парадзе дзядзькі звярнуўся да вывучэння Святога Пісання і зрабіўся святаром, выяўляючы дабрачыннасці міласэрнасці і спагады разам з надзвычайнай сціпласцю. А пазней зрабіўся епіскапам у горадзе Міры.

На яго рахунку мноства цудаў: апраўданне несправядліва асуджаных трох грамадзян Міры, калі ён у апошні момант выхапіў меч з рук ката, некалькі эпізодаў збаўлення ад скону караблёў у буру, выратаванні палонных і нават гратэскны выпадак ажыўлення трох шкаляроў, разрэзаных злым гаспадаром пастаялага двара і засоленых у кадцы ў час голаду. Нястомны епіскап праславіўся змаганнем з паганствам, зруйнаваўшы храм Дыяны, калі хрысціян падтрымаў імператар Канстанцін, і з ерэтыкамі: на Першым царкоўным саборы ў Нікеі ў 325 годзе ім пабіты блюзнер Арый. На правільны шлях св. Мікалай наставіў нават у сне, з'явіўшыся купцу з Палерма, загадаў весці карабель з правіянтам у Міры, каб спыніць голад.

У Беларусь культ св. Міколы прыйшоў разам з верай з хрысціянскага Усходу, дзе велічны храм у яго гонар у VI стагоддзі ўзвёў у Канстанцінопалі імператар Юстыніян, а ў наступныя стагоддзі дзень епіскапа з Міраў знайшоў месца ўжо ва ўсіх свяцтах грэцкай традыцыі.

Але ў пашане да святога не адставаў і Захад: у 1087 годзе, ратуючы мошчы Мікалая ад няверных, іх перавезлі з Міраў у паўднёваітальянскі горад Бары маракі. Дзень прыбыцця святыні 9 мая ўсталяваны як дзень «веснавога Міколы», у саборы яго імя пахаваная знакамітая каралева Польшчы і княгіня ВКЛ італьянка Бона Сфорца, тут усталяваныя алтары для вернікаў заходняга і ўсходняга абрадаў, апошні з праваслаўным абразом, падараваным у XIV стагоддзі сербскім князем Урашам.

Агульнасць шанавання вернікамі абодвух абрадаў прыводзіць да таго, што ў сталіцы ВКЛ Вільні ў XIV стагоддзі амаль адначасова ўзводзяцца прысвечаныя Міколу касцёл і царква, апошняя абнаўляецца пасля 1514 года Канстанцінам Астрожскім у гонар гістарычнай перамогі войскаў ВКЛ пад Воршай.

Само імя Мікалая папулярнае не толькі ў простанародным і дробнашляхецкім асяродку, сваіх першынцаў называюць Міколамі некаранаваныя каралі Літвы Радзівілы. Нават царкоўная унія 1596 года заключаецца ў Мікольскім саборы ў Брэсце.

Як сведчанне пашаны да святога, у некалькіх спісах XVI–XVII стагоддзяў існуе Сказанне пра цуды св. Мікалая ў Літоўскай зямлі. Іх здзяйсняў, даруючы вернікам аздараўленне ад розных хвароб, абраз святога, перанесены ў Лукомль на Віцебшчыне ў 1397 год у часы Вітаўта манахамі з Жыдзічынскага манастыра пад Луцкам, якія ратаваліся ў глыбіні беларускіх земляў ад татарскіх набегаў з поўдня. Але ў Беларусі вобраз мірлікійскага епіскапа пашырыўся раней: каменныя разьбяныя абразкі XII–XV стагоддзяў індывідуальнага ўжытку археолагі знаходзяць у раскопках Навагрудка, Мінска, Турава. Папулярнасць святога настолькі вялікая, што яго адлюстраванні можна сустрэць не толькі ў іканапісе, але і ў паўнамаштабнай скульптуры, не тыповым для праваслаўнай традыцыі відзе мастацтва.

Сярод лепшых ікон св. Мікалая — твор 1751 года з Маладзечна, падпісаны манаграмістам М.В., які захоўваецца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Велічны епіскап у кананічным абліччы — пурпуровым сакасе, белым падрызніку, аздобленым крыжамі амафоры і мітры, з кнігаю ў левай руцэ і складзенай у благаслаўленні правай стаіць на беразе рэчкі. За ім — краявід з храмамі, камяніцамі, пагоркамі, аблокамі.

Скіраваны да вернікаў жэст дабрыні і спагады, як заклік увайсці ў новы астранамічны і літургічны год з любоўю і святлом у сэрцы. І не забыцца пра падарункі малым, што, як і раней, у даўнія часы, дапаможа зрабіць не безаблічны Дзед Мароз, а добры святы Мікалай.

ПАМЯЦЬ

# ПАМЯЦЬ РАССТРАЛЯНЫХ КАТАЛІЦКІХ МАНАШАК

Сяргей ЧЫГРЫН

**70 гадоў таму — 19 снежня 1942 года — у Слоніме гестапаўцамі былі расстраляныя каталіцкія манашкі Ева Наішэўская, Марта Валоўская і ксёндз Адам Старк.**



Валоўская Марта



Наішэўская Ева

Благаслаўлёная сястра Ева Наішэўская нарадзілася 24 чэрвеня 1885 годзе ў Асанішках, што на Віленшчыне. З адзнакаю закончыла рускую гімназію, а таксама медыцынскія курсы ў Пецярбургу. Пасля таго, як распачалася Першая сусветная вайна, Ева Наішэўская пачала працаваць у лазарэтах і розных шпіталях, якія сталі для яе полем апостальскай дзейнасці.

У 1919 годзе Ева Наішэўская ўступіла ў супольнасць Сясцёр Беззаганнага Зачацця НПМ (непакалянак). Апошні этап свайго жыцця яна распачала ў Слоніме, будучы настаўніцай сярэдняй школы, якою кіравалі сёстры непакалянкі, а завяршыла яго як пакутніца.

Калі немцы акупавалі Слонім, Ева Наішэўская адразу пачала працаваць у шпіталі і паліклініцы, лячыла людзей прыватна, спяшалася з дапамогай да кожнага, найбольш дапамагала габрэям. Сёстры ўкрывалі габрэяў на паддашшы кляштара, у аранжарэі і ў гумне, хоць і ведалі добра, што за гэта ім пагражае смерць.

Блаславлёная сястра Марта Валоўская нарадзілася 12 кастрычніка 1879 годзе ў Любліне (Польшча). У 1900 годзе была паклікана Богам да законнага жыцця, уступіла ў кляштар супольнасці Сясцёр Беззаганнага Зачацця НПМ у Язлоўцы. Пасля прыехала ў Слонім. Менавіта тут яна разгарнула сваю апостальскую, дабрачынную і экуменічную дзейнасць.

У жніўні 1939 года св. Марта Валоўская была прызначана кіраўніком манаскай пляцоўкі ў Слоніме. Калі распачалася Другая сусветная вайна, яна шырока адчыніла дзверы слонімскага кляштара для тых, каму патрэбна была дапамога. Нягледзячы на небяспеку і страх, што паралізуюць чалавека, сястра Марта рашуча аказвала дапамогу асобам, якіх пераследавалі немцы, наведвала вязняў і дапамагала іх сем'ям. На тэрыторыі кляштара ўкрывала габрэяў. Яе неаднаразова выклікалі ў гестапа на допыты, але яна не адмовілася дапамагаць бліжнім нават тады, калі ведала, што ўжо занесена ў спіс асуджаных на смерць і што за ёю сочаць. Менавіта ў той час выявілася яе гераічная любоў да бліжніх і бязмежны давер да Бога. Яна была гатова прыняць пакутніцкую смерць, пра якую разважала яшчэ шмат гадоў таму.

Арыштавалі сясцёр Марту Валоўскую і Еву Наішэўскую ў ноч з 18 на 19 снежня 1942 года. Сясцёр разам з кс. Адамам Старкам прывезлі ў гестапа, дзе над імі здзекаваліся, зневажалі і білі. Адзін з паліцаяў, які прысутнічаў пры катаванні, прапанаваў сёстрам уцячы, але яны адмовіліся. Расстралялі іх на Пятралевіцкай гары каля Слоніма. Месца смерці стала іх магілаю. Сведкі тых падзей сцвярджаюць: «Увесь горад аплакваў смерць сясцёр, якія рабілі столькі дабра людзям і загінулі за свае міласэрныя ўчынкі».

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА




# ДВА ГАДЫ ПАСЛЯ ПЛОШЧЫ

**Праваабаронцы канстатуюць, што сітуацыя з правамі чалавека ў 2012 годзе «стабільна кепская».**

Тэндэнцыя прыціскання грамадзянска-палітычных правоў, адміністратыўны і крымінальны пераслед у адносінах да апанентаў рэжыма працягваецца.

19 снежня 2010 года — дзень выбараў прэзідэнта — дата, якая стала кропкай незвароту, калі масавыя затрыманні, катаванні ў турмах і бясправе з боку сілавікоў стала ўвайшлі ў жыццё беларусаў.

Пасля прэзідэнцкіх выбараў і масавых затрыманняў на плошчы Незалежнасці праваабарончы цэнтр «Вясна» выступіў з заявай адносна парушэння правоў чалавека як падчас затрымання людзей, так і пасля — у судах і следчых ізалятарах ды турмах. Прапаноўваем вашай увазе асноўныя тэзісы.

19 снежня ў 20 гадзінаў не менш за 30 тысяч удзельнікаў мірнай акцыі пратэсту прайшлі ад Кастрычніцкай плошчы ў Мінску ў бок плошчы Незалежнасці да Дому Ураду. Кандыдаты ў прэзідэнты правялі мітынг. Невядомымі асобамі, дзеянні якіх былі асуджаны кандыдатамі, была ўчынена спроба выламаць дзверы ў будынку Дому Ураду, разбітае шкло. Гэта дазволіла спецназаўцам у шлемах са шчытамі і дубінкамі выкарыстаць празмерную сілу і жорсткасць дзеля разгону мірных дэманстрантаў. Удзельнікаў акцыі збівалі, наносячы ўдары па галаве і твары. Шмат удзельнікаў акцыі шпіталізавана, больш за 600 чалавек затрымана і пазней асуджана да адміністрацыйнага арышту альбо штрафу па арт. 23.34 КаАП — парушэнне правілаў парадку і арганізацыі масавага мерапрыемства.

У ліку затрыманых аказаліся кандыдаты ў прэзідэнты А. Санікаў, Р. Кастусёў, В. Рымашэўскі, М. Статкевіч, іх давераныя асобы, палітыкі, журналісты, вядомыя грамадскія дзеячы, а таксама старшыня БХК, каардынатар кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» Алег Гулак.

Дзеянні органаў міліцыі пры разгоне дэманстрацыі мелі відавочна непрапарцыйны характар. Ужыванне фізічнай сілы і спецсродкаў прывяло да вялікай колькасці параненых удзельнікаў мірнай акцыі пратэсту.

Уначы офіс ПЦ «Вясна» падпаў нападу з боку міліцыі, у выніку чаго былі затрыманыя 10 супрацоўнікаў. Пазней праваабаронцаў адпусцілі. Аднак з офісу была канфіскаваная ўся кампутарная тэхніка, іншыя носьбіты інфармацыі. Таксама ўначы быў праведзеныператрус на офісе «Хартыі'97». Усю ноч адбываліся затрыманні ў кватэрах лідараў апазіцыі.

З улікам адпушчаных, дастаўленых у медустановы і змешчаных у СІЗА па крымінальных справах, колькасць затрыманых на Плошчы перавышала 700 чалавек.

Распачацце КДБ крымінальнай справы па ч. 1 і 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса (масавыя беспарадкі) было выкарыстана выключна для праціглай ізаляцыі лідараў апазіцыйнага дэмакратычнага руху, а таксама ў мэтах ціску і запалохвання ўсёй незалежнай грамадзянскай супольнасці краіны, незалежных журналістаў і СМІ, праваабаронцаў, а таксама ўсіх іншадумцаў у краіне. Колькасць палітычных вязняў у краіне дасягнула рэкорднай за перыяд 16-гадовага кіравання Лукашэнкі колькасці. На сёння пяцёра з іх па-ранейшаму застаюцца за кратамі: Мікалай Статкевіч, Павал Севярынец, Зміцер Дашкевіч, Эдуард Лобаў, Васіль Парфянкоў. Іншыя палітвязні, якія выйшлі на волю, былі вымушаныя напісаць прашэнне аб памілаванні на імя Лукашэнкі. У турмах яны падвяргаліся фізічным і псіхалагічным катаванням.

Дзясяткі еўрапейскіх арганізацыяў асудзілі дзеянні беларускіх уладаў. 20 снежня адкрыты зварот да прэзідэнта Беларусі з заклікам вызваліць сотні дэманстрантаў, журналістаў, палітыкаў, затрыманых за мірнае выказванне сваёй думкі, падпісалі арганізацыі Сеткі Дамоў правоў чалавека. Са зваротамі выступілі праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя», Міжнародная федэрацыя правоў чалавека (FIDH), Міжнародная федэрацыя журналістаў, Праваабарончая арганізацыя «Freedom House», старшыня Еўрапарламенту Ежы Бузек, урады краінаў ЗША і Еўрасаюзу.

У Мінску пачаў працу Камітэт міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі. Утварыць яго паставіла кааліцыя няўрадавых арганізацый краін АБСЭ. У Камітэт увайшлі каля 30 міжнародных арганізацый, сярод іх: Міжнародная грамадзянская ініцыятыва для АБСЭ (ICI OSCE), Маскоўская Хельсінкская група — МХГ (Расія), Міжнародная сетка «Свабода, законнасць і правы ў Еўропе» (FLARE), Міжнародны моладзевы праваабарончы рух (МПД).

Пачынаючы з 19 снежня 2010 года ў краіне назіраецца рэзкае павелічэнне хвалі палітычна матываваных рэпрэсіяў і фактаў парушэння правоў чалавека. Назіраецца вяртанне ўладаў Беларусі да жорсткіх і рэпрэсіўных метадаў уздзеяння на структуры палітычных партый, грамадзянскай супольнасці, незалежных СМІ.

**Паводле spring96.org**

ЮБІЛЕЙ

# БАРЫКАДЫ ВЯЧАСЛАВА СІЎЧЫКА

**Марат ГАРАВЫ**

**У найноўшую гісторыю Беларусі Сіўчык увайшоў як першы (разам з Юрасём Хадыкам) беларускі постсавецкі палітвязень.**

Вячаслаў Сіўчык нарадзіўся ў Мінску 18 снежня 1962 года ў сям'і навукоўцаў. Скончыў сталічную школу № 50 з матэматычным ухілам і геаграфічны факультэт БДУ. Працаваў геолагам у Грузіі і Беларусі, вывучаў праблемы экалогіі і наступствы Чарнобылю ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. З 1989 па 2003 года быў сябрам Беларускага народнага фронту, займаў у ім розныя кіруючыя пасады.

Вячаслаў вядомы як заяўнік і арганізатар шэрагу вулічных акцый дэмакратычнай апазіцыі, у тым ліку Дня Волі і Чарнобыльскага шляху, як ініцыятар стварэння розных грамадскіх арганізацый, у тым ліку «Маладога Фронту», Руху салідарнасці «Разам» (абедзве зарэгістраваныя ў Чэхіі) і мемарыяльнай секцыі Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. У знак пратэсту супраць крымінальнай справы ў адносінах БНФ вясною 1996 года правёў трохтыднёвую галадоўку. Быў арганізатарам перакрыцця сталічнага праспекту імя Францішка Скарыны ў 1998 і 1999 гадах, калі Аляксандр Лукашэнка і Барыс Ельцын падпісвалі пагадненні пра стварэнне Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі.

Пасля падзей 19 снежня 2010 года на сталічнай Плошчы Незалежнасці Сіўчык пакінуў Беларусь. На Украіне ён стварыў Беларускі цэнтр для правядзення акцый салідарнасці з беларускімі палітвязнямі і аказання дапамогі палітычным уцекачам з Беларусі.

Пра Вячаслава распавядае самы блізкі чалавек, маці Галіна Васільеўна Сіўчык:

— Слава быў першым і самым любімым унукам сваіх бабці Любы і дзеда Васіля. У нашым доме заўсёды шанаваліся кнігі, у першую чаргу творы класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы, Якуба Коласа, Янкі Маўра, Уладзіміра Караткевіча і Васіля Быкава, і сын з гадоў чатырох навучыўся чытаць і пісаць, а з шасці год прызвычаіўся спачатку да шахмат, дзякуючы высілкам дзеда Васіля, а пазней — да футболу. Дарэчы, з маім бацькам у Славы былі вельмі цёплыя і прыязныя адносіны, паколькі хлопчыка цікавілі баявыя прыгоды дзеда Васіля, каторы любіў пагутарыць з сваім унукам не толькі пра вайну…

Я, як і ўсе прадстаўнікі пакалення 1940-х, прайшла цяжкі шлях да Беларусі, аднак з пачатку 1980-х стала свядомай беларускай і стварыла ў школе, дзе вучыліся мае дзеці, беларускі культурна-асветніцкі клуб «Спадчына». Так што сын фармаваўся ў інтэлігентным асяродку, дзе шанаваліся нацыянальныя і дэмакратычныя традыцыі, дзе паважалася любое меркаванне, спрэчкі і дыскусіі былі нормай і паўсядзённым сродкам пошуку шляхоў да ісціны, дзе да іншадумства і любога друкаванага слова былі крытычныя, але не варожыя, а цярпімыя адносіны.

Калі мой старэйшы брат з'ехаў на працу і сталае жыццё на грузінскі курорт Піцунду і да яго пераехалі мае бацькі, мы сталі наязджаць да іх кожнае лета, а Слава нават жыў цэлы год на ўзбярэжжы Чорнага мора. Ён палюбіў горы і мора, навучыўся плаваць і з вялікім імпэтам даваў нырца ў вялізныя і грымучыя хвалі прыбою… Памятаю, як аднойчы мы адпраўлялі яго аднаго самалётам з Мінска, а паколькі квіткоў на рэйс ужо не было, пілоты без грошай забралі хлопчыка ў сваю кабіну, і потым ён з захапленнем распавядаў пра прыгажосць чароўнага нябеснага краявіду…

Дарэчы, ён рос рамантыкам, што разам з нашай сямейнай традыцыяй па бацькоўскай лініі ўрэшце і вырашыла прафесійны выбар сына. Яму было гадоў сем, калі Славу ўпершыню пабіў грузінскі хлопчык за тое, што сын беларус. І тады ён пачаў разумець, што людзі розняцца па сваёй этнічнай прыналежнасці. У школе Славу вельмі любіў настаўнік матэматыкі за хуткі розум і настаўніца гісторыі за тое, што хлопчык глыбока цікавіўся старасвеччынай. Паколькі сын вельмі сціплы чалавек, каторы нікога ніколі не абвінавачвае і ўмее ўважліва слухаць, у яго заўсёды было шмат сяброў — прадстаўнікоў розных нацыянальнасцяў.

Увогуле, ён мяккі і спачувальны, нават калі хтосьці робіць нейкі непрыстойны ўчынак, Слава шкадуе яго, а не ганьбіць. Ён заўсёды імкнецца зразумець іншага і паразумецца з ім, а калі патрэбна — дапамагчы. Нягледзячы на ўсе ахвяры, што прыносіць мой сын дзеля Беларусі, я ганаруся ім, бо ён чалавек сумленны, годны і высакародны, які прыстойна паводзіць сябе ў любой сітуацыі. Да пары яму і ягоная жоначка Ганна — спадзвіжніца, каторая ніколі не папракае мужа за яго няпросты жыццёвы выбар і пастаянныя матэрыяльныя нястачы. Падтрымліваюць бацькоў і сыны — будучыя хімік Васіль і гуманітарый Вітаўт.

У дзень 50-годдзя Славы я хачу пажадаць яму моцнага здароўя і хутчэйшага вяртання ў Беларусь, бо добра ведаю, як яму цяжка без сям'і і без Радзімы…



Вячаслаў Сіўчык

*Рэдакцыя «Новага Часу» далучаецца да гэтых віншаванняў і зычыць юбіляру здзяйснення яго мар аб вольнай і незалежнай Беларусі.*

7

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ TV

## 24 СНЕЖНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

**1 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Вакол планеты.
**11.25** Журналісцкае расследаванне.
**12.10** Меладрама «Спакуса» («Беларусьфільм»).
**14.00** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Мультфільм.
**15.45** «Новы касмічны адлік». Дакументальны фільм (Белтэлерадыёкампанія).
**16.15** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі « (Украіна).
**17.15** Музычная камедыя «Тры мушкецёры» (Украіна).
**19.15** Лірычная камедыя «Зімовы раман» (Расія-Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.40** Святочная Калядная Імша. Прамая трансляцыя.
**23.55** Калядная служба з Ватыкана. Прамая трансляцыя.
**00.55** Камедыйная меладрама «Мая мамавеста» (Расія).
**02.10** Дзень спорту.

**ОНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здорава!».
**11.20** «Легенды Нясвіжскага замка». Дакументальны фільм.
**12.15** Фільм «Завея».
**13.45** Камедыя «Мы з джазу».
**15.25** «Зваротны адлік».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Навагодні перапалох». Шматсерыйны фільм.
**20.30** Нашы навіны.
**20.45** Навіны спорту.
**20.50** Фільм «Чароўнае нараджэнне».
**22.45** АНТ прадстаўляе: «Геніяльныя мелодыі на АНТ».
**00.30** Камедыя «Жаніх напракат».

**СТВ**

**06.00** Фільм «Граф Монтэ-Крыста». Італія-Францыя, 1961 г.
**09.00** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**10.10** Фільм «Дачка майго боса». ЗША, 2003 г.
**11.50** «Прошаная вячэра».
**12.50** «Вялікі горад».
**13.30** Фільм «Шукайце жанчыну». СССР, 1982 г.
**16.20** «Наша справа».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Прошаная вячэра».
**17.35** «Турэцкі гамбіт». Серыял.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** СТБ прадстаўляе: цырымонія ўзнагароджання пераможцаў «Нацыянальная музычная прэмія».
**23.20** Фільм «Гусарская балада». СССР, 1962 г.

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.10** Камедыйная меладрама «Службовы раман» (СССР). 1-я і 2-я серыі.



**09.55** Тэлебарометр.
**10.00** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**11.10** Навіны надвор'я.
**11.45** Жаночая ліга.
**12.15** Фільм-казка «Пітэр Пэн» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**14.45** Школа рамонту.
**15.50** Пад грыфам «Вядомыя».
**16.25** Містычная меладрама «Прадчуванне» (ЗША).
**18.25** Камедыйная меладрама «Службовы раман» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Жаночая ліга.
**21.55** Камедыйная меладрама «Есці пададзена!» (Украіна).



**23.45** Авертайм.
**00.15** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Агляд тура.

**РОССИЯ**

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Карціна свету».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Пакой смеху».
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.15** «Пра самы галоўны». Ток-шоў.
**16.05** «Шукальнікі».
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Весткі. Дзяжурная частка.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Даярка з Хацапетаўкі-3».
**22.25** Тэлесерыял «Сваты-5».

**НТВ**

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** «Праграма максімум».
**09.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**11.10** «Да суду».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Дэтэктыўны серыял «Легавы».
**23.15** Сёння. Вынікі.
**23.40** Дэтэктыўны серыял «Вярнуць на дасведаванне».

**EUROSPORT**

**00.00** Снукер: Мастэрс. Шанхай - Фінал.
**01.00** Конны спорт. Агляд тыдня.
**01.15** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - Фінал.
**02.15** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Фіналы.
**10.30** Тэніс: Турнір Вялікага Шлема. Адкрытае першынство Аўстраліі – Фінал. Мужчыны.
**11.30** Тэніс: «Матс пойнт».
**12.00** Усе віды спорту.
**12.30** Усе віды спорту.
**13.00** Усе віды спорту.
**13.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**14.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**15.00** Футбол: Класіка Лігі Чэмпіёнаў УЕФА.
**16.00** Футбол: Класіка Лігі Чэмпіёнаў УЕФА.
**17.00** Біятлон: Кубак свету. Хахфільцэн – Спрынт. Жанчыны.
**18.00** Біятлон: Кубак свету. Хахфільцэн – Спрынт. Жанчыны.
**19.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**19.45** Футбол.
**20.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**20.45** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**21.45** Усе віды спорту.
**22.15** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**23.15** Усе віды спорту.
**23.45** Усе віды спорту: Вось дык так!!!

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** «Дыягназ: Бісмарк», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**07.25** Зона «Свабоды».
**07.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.05** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.35** Дакументальная гадзіна: «Забытая флатылія», дак. фільм, 2005 г., Польшча.
**17.50** «Ажаню ўсю вёску», дак. фільм, 2010 г., Сербія–Чарнагорыя.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Каляды ката Філімона».
**19.15** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**19.30** Невядомая Беларусь: «Дом Сабілы», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**20.05** «Тутэйшыя», тэлеспектакль: ч. 1.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** «Шапэн. Прага кахання», біяграфічны фільм, 2002 г., Польшча.
**23.20** «Раство ў Сібіры», дак. фільм, 2006 г., Германія.
**00.05** «Каляды, Каляды», святочны канцэрт: ч. 1.
**00.30** «Ноч святога Мікалая», маст. фільм, 2000 г., Польшча.
**01.30** Сімфанічны канцэрт: ч. 1.

## 25 СНЕЖНЯ, АЎТОРАК

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.50** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.50** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Мультфільм.
**09.20** Лірычная камедыя «Зімовы раман» (Расія-Украіна).
**11.00** Прэм'ера. «Беларускі балет. Гісторыя». Дакументальны фільм.
**12.15** Трагікамедыя «Той самы Мюнхгаўзен» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Мультфільмы.
**15.50** Мюзікл «Папялушка» (Украіна).
**18.05** Канцэртная праграма.
**19.10** Меладрама «Дні Надзеі» (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.35** Меладрама «Каханне і іншыя акалічнасці» (ЗША).
**23.30** Музычная камедыя «Тры мушкецёры» (Украіна).
**01.20** Дзень спорту.

**ОНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Пра Чырвоны Капялюшык». Мастацкі фільм.
**13.00** «Дванаццаць месяцаў». Мультыплікацыйны фільм.
**14.15** Камедыя «Дзіця напракат».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Фільм «Пенелопа».
**18.05** «Песні маёй краіны». Фінал.
**20.30** Нашы навіны.
**20.45** Фільм «Мой хлопец-анёл».
**22.40** «Здабытак Рэспублікі».
**00.50-02.45** Камедыя «Крутая кампанія».

**СТВ**

**06.30** Фільм «Шукайце жанчыну». СССР, 1982 г.
**09.10** «Вялікі сняданак».
**09.50** Фільм «Гусарская балада». СССР, 1962 г.



**11.35** «Прошаная вячэра».
**12.25** «Турэцкі гамбіт». Серыял.
**14.20** Фільм «Кафэ». ЗША, 2010 г.
**16.10** «Аўтапанарама».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Прошаная вячэра».
**17.35** «Турэцкі гамбіт». Серыял.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** Фільм «Рэальнае каханне». Вялікабрытанія-ЗША-Францыя, 2003 г.
**22.30** Фільм «Шчаслівых Калядаў». Францыя-Германія-Вялікабрытанія-Бельгія, 2005 г.
**00.30** «Глядзець усім!».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.05** Таямніца душы.
**07.30** Камедыйная меладрама «Есці пададзена!» (Украіна).
**09.15** Тэлебарометр.
**09.20** «Baby Cup». Міжнародны дзіцячы турнір па мастацкай гімнастыцы.
**11.00** Жаночая ліга.
**11.30** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Агляд тура.
**12.25** Авертайм.
**12.55** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**13.50** Казка «Папялушка» (СССР).
**15.30** Трансляцыя з Ватыкана.
**16.15** Прыгодніцкі фільм «Д'Артаньян і тры мушкецёры» (СССР). 1-я, 2-я і 3-я серыі.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Жаночая ліга.
**22.00** «Імперыя песні». Музычна-забаўляльнае караоке- шоў.
**23.10** Рамантычная камедыя «Закахацца ў нявесту брата» (ЗША).



**РОССИЯ**

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Сваты. Жыццё без грыму».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Апэратыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.15** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**16.05** «Пакой смеху».
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Весткі. Дзяжурная частка.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Даярка з Хацапетаўкі-3».
**22.25** Тэлесерыял «Сваты-5».

**НТВ**

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Прэм'ера. Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.05** «Да суду».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Дэтэктыўны серыял «Легавы».
**23.15** Сёння. Вынікі.
**23.40** Дэтэктыўны серыял «Вярнуць на дасведаванне».

**EUROSPORT**

**00.45** Усе віды спорту.
**01.15** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**02.15** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**03.15** Футбол.
**10.30** Тэніс: Турнір Вялікага Шлема. Адкрыты Чэмпіянат Францыі – Фінал. Мужчыны.
**11.30** Біятлон: Кубак свету. Хахфільцэн – Спрынт. Жанчыны.
**12.30** Біятлон: Кубак свету. Хахфільцэн – Спрынт. Жанчыны.
**13.15** Конны спорт. Агляд тыдня.
**13.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**14.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**15.00** Футбол: Класіка Лігі Чэмпіёнаў УЕФА.
**16.00** Футбол: Класіка Лігі Чэмпіёнаў УЕФА.
**17.00** Біятлон: Кубак свету. Паклюка – Спрынт. Мужчыны.
**18.00** Біятлон: Кубак свету. Паклюка – Спрынт. Жанчыны.
**19.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**20.00** Футбол.
**21.00** Футбол.
**22.00** Футбол.
**23.00** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Еўра-2012 – Фінал.

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Каляды ката Філімона».
**07.40** Казкі для дзетак: «Паміж снегам і сёмым небам».
**08.10** «Каляды, Каляды», святочны канцэрт: ч. 1.
**08.35** Невядомая Беларусь: «Дом Сабілы», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**08.55** «Ноч святога Мікалая», маст. фільм, 2000 г., Польшча.
**09.50** «Ажаню ўсю вёску», дак. фільм, 2010 г., Сербія–Чарнагорыя.
**10.50** «Тутэйшыя», тэлеспектакль: ч. 1.
**11.40** «Раство ў Сібіры», дак. фільм, 2006 г., Германія.
**12.25** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**12.40** «Шапэн. Прага кахання», біяграфічны фільм, 2002 г., Польшча.
**14.45** Сімфанічны канцэрт: ч. 1.
**15.15** «Жоўты шалік», маст. фільм, 2000 г., Польшча.
**16.15** «Таемны свет ўэлнэсу: старажытная Індыя», дак. фільм, 2007 г., Германія–Аўстрыя.
**17.10** «Каляды, Каляды», святочны канцэрт: ч. 2.
**17.35** Беларусы ў Польшчы.
**17.55** «Таемны свет ўэлнэсу: старажытны Кітай», дак. фільм, 2007 г., Германія–Аўстрыя.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Пра хохлікаў і Каляды».
**19.20** «Калядныя вітрыны», дак. фільм, 2003 г., Францыя.
**20.15** «Тутэйшыя», тэлеспектакль: ч. 2.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.20** Вагон (святочнае выданне праграмы).
**21.50** «Гэта я, злодзей», дэтэктыўная драма, 2000 г., Польшча.
**23.30** «Таемны свет ўэлнэсу: старажытны Рым», дак. фільм, 2007 г., Германія–Аўстрыя.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 26 СНЕЖНЯ, СЕРАДА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Мультфільм.
**09.20** Трагікамедыя «Той самы Мюнхгаўзен» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**12.10** Меладрама «Дні Надзеі» (Украіна).
**13.55** «Новы касмічны адлік» (Белтэлерадыёкампанія).
**14.20** Прэм'ера. Дакументальны серыял «Цуды прыроды» (Германія) 1-я серыя.
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**16.20** Каробка перадач.
**16.55** Заўтра - гэта мы!
**17.25** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**18.25** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.50** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія- Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**23.05** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША- Канада).
**00.25** Дзень спорту.
**00.40** Мюзікл «Папялушка» (Украіна).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**15.00** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Адлюстраванне».
**00.05** «Палонны». Шматсерыйны фільм.
**01.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Гадзіна суду».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Турэцкі гамбіт». Серыял.
**15.45** «Жывая тэма».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Слава». ЗША, 2009 г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Дабро пажаліцца».
**00.15** «Загадкі Сусвету».

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** Наперад у мінулае.
**10.50** Цела чалавека.
**11.25** Жаночая ліга.
**11.50** Рамантычная камедыя «Закахацца ў нявесту брата» (ЗША).
**13.50** Пад грыфам «Вядомыя».
**14.25** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).
**15.25** Прэм'ера. Дэтэктыў «Дом-фантом у пасаг» (Украіна). 1-я серыя.
**16.40** Беларуская часіна.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Меладрама «Дунечка» («Беларусьфільм»).
**20.50** Жаночая ліга.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Дэтэктыў «Дом-фантом у пасаг» (Украіна). 1-я серыя.
**22.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'erліга. Прамая трансляцыя.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Сваты. Жыццё без грыму».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Мястэчка». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела. Ян і Інь».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Пакой смеху».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Даярка з Хацапетаўкі-3».
**22.25** Тэлесерыял «Сваты-5».
**00.20** Навіны - Беларусь.
**00.30** Тэлесерыял «Сваты-5». Працяг.

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Прэм'ера. Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Развод па-руску».
**11.10** «Да суду».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Дэтэктыўны серыял «Легавы».
**23.15** Сёння. Вынікі.
**23.40** Дэтэктыўны серыял «Вярнуць на дасьледаванне».

### EUROSPORT

**01.00** Аўта і матаспорт.
**01.15** Футбол: Класіка Лігі Чэмпіёнаў УЕФА.
**02.15** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый.
**10.30** Тэніс: Турнір Вялікага Шлема. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі – Фінал. Мужчыны.
**11.30** Біятлон: Кубак свету. Паклюка – Спрынт. Мужчыны.
**12.30** Біятлон: Кубак свету. Паклюка – Спрынт. Жанчыны.
**13.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**14.30** Усе віды спорту.
**15.00** Футбол: Класіка Лігі Чэмпіёнаў УЕФА.
**16.00** Футбол: Класіка Лігі Чэмпіёнаў УЕФА.
**17.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Куусама - HS 142 Камандныя спаборніцтвы.
**18.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Куусама - HS 142.
**19.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**20.00** Футбол.
**21.00** Футбол.
**22.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**23.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**23.30** Алімпійскія гульні.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** «Калядныя вітрыны», дак. фільм, 2003 г., Францыя.
**07.55** Вагон.
**08.25** «Тутэйшыя», тэлеспектакль: ч. 2.
**09.05** «Каляды, Каляды», святочны канцэрт: ч. 2.
**09.35** Аб'ектыў.
**17.55** «Дзень, калі памёр Тыто», дак. фільм, 2009 г., Сербія.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Экспедыцыя прафесара Губкі».
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**19.25** «7 разоў Масква», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**20.00** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**20.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**20.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.30** «Піянеры зменаў. Канада», дак. фільм, 2009 г., Францыя.

## 27 СНЕЖНЯ, ЧАЦВЕР

### 1 Беларусь

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія-Ўкраіна).
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.25** Патрабуецца.
**10.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**10.55** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**12.15** Канцэртная праграма.
**13.25** Культурныя людзі +.
**14.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША- Канада).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Мультфільм.
**15.35** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**16.35** Перазагрузка.
**17.20** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Ўкраіна).
**18.25** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.50** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія -Ўкраіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**23.05** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША- Канада).
**00.25** Дзень спорту.
**00.40** Меладрама «Каханне і іншыя акалічнасці» (ЗША).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**15.00** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Адлюстраванне».
**00.05** «Палонны». Шматсерыйны фільм.
**01.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Не хлусі мне!».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Слава». ЗША, 2009 г.
**15.40** «Якія людзі!».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Француз». Расія, 2004 г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Загадкі Сусвету».

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** Вышэй за дах.
**10.50** Страсці па культуры.
**11.30** Жаночая ліга.
**11.55** Меладрама «Дунечка» («Беларусьфільм»).
**13.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**14.25** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).
**15.25** Дэтэктыў «Дом-фантом у пасаг» (Украіна). 2-я серыя.
**16.40** Беларуская часіна.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Жаночая ліга.
**21.55** Дэтэктыў «Дом-фантом у пасаг» (Украіна). 2-я серыя.
**23.10** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).
**00.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'erліга. Агляд тура.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Сваты. Жыццё без грыму: Таццяна Кравчэнка».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Пакой смеху».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Даярка з Хацапетаўкі-3».
**22.25** Тэлесерыял «Сваты-5».
**00.20** Навіны - Беларусь.
**00.30** Тэлесерыял «Сваты-5». Працяг.

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Прэм'ера. Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Следства вялі.».
**11.10** «Да суду».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Дэтэктыўны серыял «Легавы».
**23.15** Сёння. Вынікі.
**23.40** Дэтэктыўны серыял «Вярнуць на дасьледаванне».

### EUROSPORT

**01.00** Алімпійскія гульні: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Цырымонія адкрыцця.
**02.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шлема. Адкрытае першынство Аўстраліі - Фінал Мужчыны.
**10.30** Конны спорт. Агляд тыдня.
**10.45** Біятлон: Кубак свету. Паклюка – Спрынт. Жанчыны.
**11.45** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Куусама - HS 142 Камандныя спаборніцтвы.
**12.30** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Куусама - HS 142.
**13.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**14.30** Усе віды спорту.
**15.00** Футбол.
**16.00** Футбол: Класіка Лігі Чэмпіёнаў УЕФА.
**17.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Сочы.
**18.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Сочы.
**19.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**20.00** Футбол.
**21.00** Футбол.
**22.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**22.30** Баявыя мастацтвы.: Байцоўскі клуб.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар (паўтор).
**07.25** «7 разоў Масква», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.00** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар (паўтор).
**08.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**17.55** «Справа Фэрўэла: шпіён веку», дак. фільм, 2009 г., Францыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Аблавушак».
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**19.25** Без рэтушы: «Фядора, якая лечыць», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**19.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.00** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**20.25** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.30** «Піянеры зменаў. Аргенціна», дак. фільм, 2010 г., Францыя.

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №12 (76)
(снежань)

www.lit-bel.org www. novychas. info

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


**Анонс**



ПОГЛЯД

## «ГОД КНІГІ»

**Два полюсы сучаснай чалавечай свядомасці: павышаная агрэсіўнасць і прагрэсуючая апатыя. І ўсё гэта «не проста так» узнікла…**

Сямнаццатае стагоддзе было стагоддзем жывапісу, васямнаццатае — музыкі, дзевятнаццатае — літаратуры. А дваццатае — найжорсткіх дыктатур, сусветных войнаў і глабальных катастроф. У дваццаць першае стагоддзе чалавецтва ўвайшло з каласальным досведам, а дамінуюць у ім агрэсія ды абыякавасць. Большасць жа думае як? Так, я несумленны, маладушны, нясмелы, крывадушны, — бессаромны, вульгарны... Але хіба я ў гэтым вінаваты? Час такі і свет такі, ды і ўсе вакольныя паводзяць сябе гэтак жа.

А можа быць, усё-ткі не ўсе? Калі б усе, было б значна горш, проста невыносна.

У чым каштоўнасць добрай літаратуры? Гэта самы надзейны і трывалы сродак змены чалавечай свядомасці ў пазітыўным кірунку.

Працэс, вобразна гаворачы, інтымны, сам-насам. Ні ТБ, ні інтэрнэт, ні кіно, ні тэатр не здольныя на гэта ў такой ступені, як кніга. Яны больш прызначаны дзеля прапаганды і забаўкі, а таксама дзеля фармавання свядомасці ў нейкім спецыфічным кірунку, аж да яе разбурэння. Той, хто з дзяцінства чытаў правільныя кнігі і досыць глыбока засвоіў іх сэнс (гэта галоўнае!), здольны больш адэкватна, удумліва ацэньваць рэчаіснасць, яго цяжка замбаваць. Ён выразна адрознівае праўду і фальш, праўдзівыя і ўяўныя каштоўнасці. І гэта — назаўсёды. Складанасць сучаснага свету для былых савецкіх людзей у тым, што ў іх з'явіліся інтарэсы і спакусы, якія апынуліся вышэй логікі і нават вышэй праўды.

Два дэманы валодаюць сучасным чалавекам: спакуса і сродак яе задавальнення. А тэма ж не новая. Яна распрацавана і ў Бібліі, і ў класічнай літаратуры. Але прышчэпку ад спакусы большасць грамадзян з былой «самай чытацкай краіны ў свеце» так і не атрымала. Раней быў дэфіцыт тавараў шырспажыву, але быў сэнс: мы з захапленнем будавалі «самае перадавое грамадства». Цяпер дэфіцыту тавараў няма, але адным бракуе грошай, іншым — сэнсу. Бо тое, што можна з'есці, выпіць, паслухаць і апрануць на сябе, не можа быць сэнсам, — яно прыносіць толькі часовае задавальненне. А далей што?



Сапраўдная літаратура заўсёды прапаноўвала грамадству лячэнне ад многіх сацыяльных хваробаў. Але большасць людзей аддае перавагу не сур'ёзнаму лячэнню, а абязбольвальным уколам: выпіўцы, наркотыкам, забаўляльным ток-шоў... І няма каму разарваць гэтае заганнае кола. Уладу такі стан цалкам задавальняе, а голас сапраўднага пісьменніка «танчэй піску»…

Без аўтарытэту сур'ёзнай літаратуры не можа быць маральнага грамадства, без маральнасці не можа быць сацыяльнай справядлівасці, законнасці, правапарадку.

Назваўшы 2012 год Годам Кнігі, нехта пытае кожнага з нас: а вы з гэтым згодныя ці наогул не хочаце думаць пра гэта?

**Віктар Філатаў, «ІП»**

ДРУК

## «ДЭЛЬФІНЫ ЖЫВУЦЬ ЛЕПЕЙ ЗА НАС!»

**Анка УПАЛА**

**Я вырашыла, што нічога не раскажу пра прэзентацыю часопіса «Паміж» (№ 10, «Анатомія»). Хай гэты экзістэнцыйны досвед застанецца падзеленым, як яблык, паміж тымі, хто быў там.**

Але магу дадаць трохі ўласных рэфлексій.

Нядаўна да мяне прыйшла ідэя, як можна прэзентаваць літаратуру ў Беларусі. Трэба пачаць супрацоўнічаць з тымі, хто балатуецца на выбарах. Даўно (ужо 18 гадоў як) вядомы факт: у Беларусі больш няважна, што прамаўляюць кандыдаты на тэлебачанні ў адведзены ім па законе час. Гэта ні на што не ўплывае і нічога не змяняе.

Як інтуіт-пазітывіст я бачу ў гэтым магчымасці і патрэбную платформу. Палітычныя прамовы трэба ператвараць у мастацкія




акцыі, у перфомансы. Замест бессэнсоўных выступаў пачаць чытаваць літаратуру, якая пакуль не мае медыйных каналаў сувязі з беларускімі чытачамі. Чытач — ён жа і выбаршчык.

Для перфомансу на беларускім тэлебачанні прыдасца ўсялякая літаратура: класіка і сучасная, беларуская і перакладная, добрая і кепская. Найлепш — правакацыйная. Я ўпэўненая, што выбаршчык як мінімум прачнецца, калі Анатоль Лябедзька з добрай артыкуляцыяй палымяна прачытае з тэлеэкрана верш Андрэя Адамовіча «Мае яйцы» і праўдзівыя, як лязо катаны, «Пераклады з японскай». Больш кандыдату не трэба дадаваць нічога…

Падчас мінулых парламенцкіх выбараў кандыдат ад партыі БНФ у эфіры дастаў з кішэні каўбасу. Але каўбаса не можа быць сэрцам нацыі. Сэрца нацыі — гэта культура, яе віраванне, прысабечванне яе людзьмі паспалітымі. Праўда, Дзіма Плакс? А нашае сэрца вынятае з цела і звязваецца з ім рэдкімі тэлеграмамі, з якіх даходзяць не ўсе.

Я была б радая, калі б кандыдат з каўбасой не казаў таго, што ён сказаў, але агучыў мой верш «Жэншчына з вядром на галаве». Я адчувала б, што зрабіла для краіны нешта карыснае.

У «Паміжы» № 10 змешчаная ідэальная прамова для Рыгора Кастусёва. Гэта эсэ Сяргея Календы «Мозг». Дазволю сабе працытаваць:

«Мазгі... чалавек ніколі не адрозніваўся колькасцю і вагою мазгоў ад млекакормячых... але з'явіўся Паўлаў — другая сігнальная сістэма — і мы ўжо ўсе "вянцы Тварэння", рэжам свінняў, ямо мазгі, пішам вершы, молімся... па сутнасці, дэльфіны жывуць лепей за нас... малпы, дзікі, каровы — усе яны ходзяць з тым самым мозгам, а кашалот нават мае самы вялікі й цяжкі на нашай планеце, але з іншага боку, наўрад ці ён здольны хаця б на простае дзяленне ў слупок».

Уявіце: строгі касцюм кандыдата, чырвоны гальштук, вусы.

— Чалавек ніколі не адрозніваўся колькасцю і вагою мазгоў ад млекакормячых! — кулаком па трыбуне.

— Рэжам свінняў! — рашучы жэст рукой.

— Ямо мазгі! — зноў рашучы жэст.

— Пішам вершы!..

— Молімся! — паправіць прычоску.

На кожным шматкроп'і — цвёрды позірк у камеру.

Цытату «Дэльфіны жывуць лепей за нас» я б змясціла на расцяжкі і зрабіла б лозунгам выбарчай кампаніі партыі.

Для прамовы можна абраць і сусветную класіку. Калі ласка, на выбар у «Паміжы» № 10: Эразм Дарвін — верш пра анатомію кракадзіла ў перакладзе Ганны Янкута з каментарамі; Ўолт Ўітмэн — верш «Пахкі траваstой маіх грудзей» у перакладзе Юлі Цімафеевай; Платон — урывак з дыялогу «Федон». Хочаце Хармса? Іх ёсць у нумары.

Ці сучасны беларускі аўтар: Ігар Кулікоў з падборкай мовазнаўчых тэкстаў «Істамова» + верш «Самавіт». Ну, хто пажадае зарабіць сабе рэпутацыю палітыка-інтэлектуала? Аляксандр Мілінкевіч? Чаму б не.

Маргарыта Аляшкевіч напісала літаратуразнаўчы артыкул «Болевыя кропкі літпрацэсу». Я ведаю, што яго амаль ніхто не прачытае, пакуль ён прышпілены да паперы. Між тым, яе леташні артыкул «Дзевяць прычын не любіць беларускую літаратуру» дагэтуль трымаецца ў топе наведванняў на сайце часопіса «ПрайдзіСвет». Давайце агучым.

Пакуль што дэльфіны жывуць лепей за нас. Але гэта не значыць, што мы не можам выправіць сітуацыю.

САЮЗ

# СІМАНАЎ І МАГІЛЁЎ

**У Магілёве адбыліся IX Міжнародныя Сіманаўскія чытанні, прысвечаныя памяці вядомага расійскага пісьменніка Канстанціна Сіманава, які ўславіў подзвіг абаронцаў Магілёва ў ліпені 1941 года.**



**Сябра Саюза пісьменнікаў Расіі Надзея Драбышэўская ўручае ўзнагароду Міколу Яцкову**

У рамках гэтага форума ў магілёўскім Беларуска-Расійскім універсітэце адбыўся круглы стол «Шчырая размова аб сучаснай літаратуры і месцы пісьменніка», у якім прынялі ўдзел пісьменнікі з Масквы, Бранска, Смаленска, Мінска, Гомеля, Віцебска і Магілёва, навукоўцы, прадстаўнікі Пасольства Расіі ў Беларусі і грамадскіх арганізацый.

У ходзе размовы было адзначана, што пісьменніцкі корпус дзвюх краін павінен супрацьстаяць выклікам сучаснасці, спрыяць рознабаковаму і якаснаму развіццю літаратуры, выхоўваць людзей у лепшых гуманістычных традыцыях. У асобнай рэзалюцыі была звернута ўвага на тое, што вырашаць згаданыя пытанні можна толькі аб'яднаўшы намаганні ўсіх творчых саюзаў і суполак Расіі і Беларусі.

Ганаровымі дыпломамі «Перамога» праўлення Маскоўскай гарадской арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі і Саюза пісьменнікаў-баталістаў і марыністаў за ўнёсак у ваенна-патрыятычнае выхаванне моладзі і літаратурную спадчыну народаў Расіі і Беларусі былі ўзнагароджаны сябры Магілёўскага аддзялення ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» Тамара Аўсяннікава і Мікола Яцкоў, а таксама літаратурны клуб «Святліца» Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі «Агат».

**Ул. інф.**

ЮБІЛЕЙ

# У ПОШУКАХ НОВАЙ ЗМЯСТОЎНАСЦІ

**5 снежня Алесю Разанаву споўнілася 65 гадоў.**



Яго імя ў беларускай літаратуры ўжо даўно стала сімвалам нястрымнага творчага пошуку, эксперыментатарства. І сваю славу наватара паэт падмацоўвае кожнай новай кнігай. Уведзеныя ім новыя паэтычныя формы (квантэма, версэт, пункцір, вершаказ ды інш.) не толькі зрабілі нашу паэзію больш разнастайнай, але і паўплывалі на характар яе далейшага развіцця, зрабіўшыся візітнай карткай новай генерацыі пісьменнікаў.

Аднак рэфарматарства Алеся Разанава выяўляецца не толькі ў аднаўленні літаратурнай формы. У першую чаргу яно звязана з пошукамі новай змястоўнасці, стварэннем новай паэтычнай канцэпцыі свету і чалавека.

З вершамі ў друку паэт выступіў у 1961 годзе, з таго часу выдаў шэраг кніг паэзіі і перакладаў. У 1970-м пабачыў свет першы зборнік Алеся Разанава «Адраджэнне». Нягледзячы на тое, што ў выданне не ўвайшлі некаторыя ўжо вядомыя па ранейшых публікацыях вершы, кніга атрымала шырокі грамадскі рэзананс, выклікаўшы шматлікія водгукі крытыкаў, якія адзначалі не толькі змястоўную глыбіню паэзіі маладога аўтара, але і майстэрскае валоданне вершаванай тэхнікай.

Пазней пабачылі свет зборнікі паэзіі «Назаўжды» (1974), «Каардынаты быцця» (1976), «Шлях-360» (1981), «Вастрыё стралы» (1988), «У горадзе валадарыць Рагвалод» (1992), «Паляванне ў райскай даліне» (1995), «Рэчаіснасць» (1998) і іншыя. З апошніх кніг слаўтага творцы, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы — «З апокрыфа ў канон: гутаркі, выступленні, нататкі» (2010), «І потым нанава пачаць: квантэмы, злёсы, вершы» (2011).

Творы Алеся Разанава перакладзены больш чым на 20 моў; асобнымі выданнямі выйшлі кнігі ў Грузіі, Германіі, Балгарыі, Польшчы.

### На гэтай зямлі

**Алесь РАЗАНАЎ**

*Хто пытаецца ў мяне дарогу на ўсход,*
*хто — дарогу на захад...*

*Нібы раздарожжа, я паказваю ўсім, куды*
*ісці, а сам застаюся на месцы —*
*на гэтай зямлі, пад гэтым небам,*

*занадта лёгкі для глыбіні,*
*занадта цяжкі для вышыні,*
*занадта цэласны, каб падавацца*
*ў які-небудзь бок...*

*Вось мая левая рука, вось — правая...*
*Я кладу зерне ў дол — і яно вырастае*
*ў дрэва:*

*на адной галіне ў яго сонца,*
*на другой — месяц,*
*рознагалосыя птушкі з усіх канцоў свету*
*спяваюць на ім свае песні і ладзяць гнёзды...*

*Тут мой захад, і тут — усход.*

**Прэсавая служба СБП**

## ПАЛІЦА

БУДЗЬМА КНІЖНЫМІ!

**Распачалася «шалёная акцыя» Саюза беларускіх пісьменнікаў, кампаніі «Будзьма беларусамі!» і выдавецтва «Кнігазбор»: набывай сучасныя беларускія кнігі — і атрымлівай падарункі!**




Шаноўнае чытаючае спадарства ў Берасці, Магілёве і Віцебску! Толькі цяпер для вас дзейнічае адмысловая прапазіцыя: пры набыцці адной кнігі вы атрымліваеце ў падарунак набор мастацкіх паштовак, за дзве кніжкі — хітовы музычны дыск, за тры кніжкі — набор паштовак плюс дыск!

Атрымаць падарункі пры набыцці кніжак можна ў наступных кропках:

- Берасце, кнігарня «Іскра», вул. Пушкінская, 4
- Магілёў, кнігарня «Думка», пр-т Міра, 10
- Віцебск, кнігарня «Веды», вул. Леніна, 54

Таксама кніжкі выдавецтва «Кнігазбор» можна набыць:

- Гародня, кнігарня «Кнігі і канцтавары», вул. Савецкіх Памежнікаў, 96
- Гародня, крамка беларускамоўнай і краязнаўчай літаратуры, вул. К.Маркса, 11. Уваход праз арку.
- Віцебск, кнігарня «Светач», вул. Кірава, 10
- Бабруйск, кнігарня «Букіність», вул. Ульянаўская, 49
- Маладэчна, кнігарня «Спадчы-

ПАЛІЦА

# КАРОЛЬ ФЕЛЬЕТОНАЎ

**У серыі «Галасы Айчыны» мінскага выдавецтва «Лімарыус» пабачыла свет літаратурная спадчына Лявона Савёнка — аўтара, чый шлях скончыўся ў эміграцыі.**

У айчынную літаратурную прастору вяртаюцца найперш цікавыя тэксты міжваеннага і ваеннага часу, адметныя непаўторным аўтарскім гумарам.

Лявона Савёнка называлі каралём фельетонаў. Ён нарадзіўся 26 чэрвеня 1897 годзе ў вёсцы Вялец (сёння Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.), вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. У 1920-х працаваў у «Савецкай Беларусі», адкуль быў звольнены за беларускі нацыяналізм. Менавіта тыя гады былі асабліва плённыя на фельетоны.

У 1929-м выйшаў адзіны зборнік на радзіме «Чароўная іголка», падпісаны псеўданімам Леанід Свэн. Творы з гэтага зборніка, а таксама іншыя публікацыі з перыёдыкаў, склалі аснову новага выдання.

У 1933 годзе Лявон Савёнак быў арыштаваны па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра», высланы на шэсць гадоў у Сібір, а пазней у Комі АССР. Сям'я ж перабралася ў Крычаў. У 1939-м журналіст вярнуўся ў Беларусь, настаўнічаў на Крычаўшчыне. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у «Беларускай газэце». Прыкладна ў гэты час ён напісаў сваю сатырычную аповесць «Запіскі эмігранта (Дзённік Ів. Ів. Чужанінава)», якая дасціпна адлюстроўвае жыццё шэраговага беларуса пад акупацыяй.

Летам 1944 года сям'я Савёнкаў выехала на эміграцыю. У паваенн ай Нямеччыне Савёнак настаўнічаў, быў дырэктарам Беларускай гімназіі ў Остэргофене, стаў адным з ініцыятараў аднаўлення Рады БНР (пазней пакінуў Раду праз канфлікт з Міколам Абрамчыкам). У 1948 годзе ўвайшоў у кансісторыю аднойленай БАПЦ. Менавіта Лявон Савёнак быў адным з ініцыятараў заснавання газеты «Бацькаўшчына» ў Нямеччыне.

У 1950 годзе ён выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Памоне (Нью-Джэрсі), дзе займаўся сельскай гаспадаркай. Памёр 21 лютага 1974-га.

На эміграцыі ён амаль не пісаў. У 1998 годзе БІНіМ выдаў зборнік літаратурнай спадчыны Савёнка-Крывічаніна «Беларусізацыя пад №...».

Новае ж мінскае выданне, складзенае сумесна Лявонам Юрэвічам і Ціханам Чарнякевічам ды грунтоўна пракаментаванае апошнім, значна паўнейшае за папярэдняе. На сёння гэта самы поўны збор літаратурнай спадчыны Лявона Савёнка.

Кніга пабачыла свет дзякуючы падтрымцы сям'і Кіпеляў (Зора Кіпель была дачкой Лявона Савёнка). Успаміны Вітаўта Кіпеля, прысвечаныя Лявону Савёнку, пададзеныя ў прадмове да выдання. У дадатку змешчаныя ўспаміны Апалоніі Савёнак, якія ўтрымліваюць цікавыя згадкі пра беларускае літаратурнае жыццё ў Менску ў 1920-х гадах, а таксама ўнікальныя здымкі з сямейнага архіва.

**Паводле hardzin.livejournal.com**

КАЛЕЙДАСКОП

## МОЖНА РУКАПІС ПРАДАЦЬ

У снежні на аўкцыёне «Bonhams» у Нью-Ёрку за 56 тысяч даляраў быў прададзены рукапіс верша Восіпа Мандэльштама «Пецярбургскія строфы» (1913). Аб тым паведаміў сайт аўкцыённага дома «Bonhams».

Рукапіс, які папярэдне ацэньваўся ў 50-70 тысяч даляраў, стаў адным з топлотаў мінулага аўкцыёна «Руская літаратура і творы на паперы». «З малатка» таксама пайшоў чарнавік адной з частак рамана Барыса Пастэрнака «Доктар Жывага», які купілі за 37.500 даляраў.

## «КАРАНТЫН» НА БЭСТСЭЛЕРЫ

Папулярныя кнігі ў шведскіх бібліятэках будуць выдавацца абмежавана.

Вядучыя выдаўцы дамы Швецыі з мэтай павелічэння аб'ёмаў продажу на ўнутраным рынку ўвялі шэраг абмежаванняў, якія тычацца выдачы чытачам «папулярных» выданняў. Пра гэта паведаміў сайт гарадской бібліятэкі Стакгольма.

Сістэма, якая дазволіць лімітаваць азнаямленне з бэстсэлерамі і тым самым зменшыць выдавецкія страты па прыбытках у першыя (самыя «гарачыя») тыдні продажаў, пакуль знаходзіцца ў стадыі дапрацоўкі.

«Карантын» закране не толькі папяровыя выданні, але і электронныя версіі кніг.

Некаторыя выдавецтвы плануюць поўнае спыненне паставак шэрагу найменняў у бібліятэкі, іншыя ж збіраюцца накласці чатырохмесячнае «вета» — у гэты перыяд кнігі можна будзе толькі купіць.

Меры па абмежаванні выдачы папулярных выданняў будуць тычыцца і кніг, якія ўжо маюцца ў бібліятэчных сховішчах і карыстаюцца ў чытачоў павышаным попытам.

## СТУДЗЕНЬСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы новага — 2013-га — года адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**

01.01.1938 — Эдуард Іосіфавіч Збароўскі
02.01.1953 — Аляксей Ільіч Белы
07.01.1963 — Эдуард Аляксандравіч Акулін
17.01.1933 — Мікалай Аляксандравіч Дубоўскі
17.01.1953 — Ірына Францаўна Жарнасек
21.01.1928 — Іван Архіпавіч Аношкін
21.01.1953 — Галіна Аляксандраўна Варатынская
28.01.1968 — Ларыса Дзмітрыеўна Раманава



Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

ПАРТРЭТ

# НА НЕЗАХМУРАНАЙ ВЯРШЫНІ

## (ДА 90-ГОДДЗЯ АЛЕНЫ ВАСІЛЕВІЧ)

*Леанід ГАЛУБОВІЧ*

**Некалі быў у Алены Васілевіч артыкул амаль з такой назвай пра «Хаджы-Мурата» Льва Талстога. Ён мне запомніўся. І напраўду, калі ўздымаешся на вяршыню чалавечага, а тым больш творчага веку, на свой Манблан ці Эверэст, то найперш раздумваешся не над тымі цяжкасцямі і стратамі, што паўставалі пры пад'ёме, а над плёнам і вартасцю ўсяго свайго шляху.**

Ёсць людзі, схільныя да ўяўлення значнасці сваіх набыткаў, спісваючы грахі і няўдачы на выпадковасць ды непазбежнасць, а ёсць тыя, хто ставіцца да нажытага і перажытага даволі крытычна. Думаю, Алена Сямёнаўна Васілевіч менавіта з такіх. Вядома, яна добра разумее і холадна ўсведамляе сваю амаль здзейсненую planіду, яе перыяды росквіту і ўзлёту, як і часы завядання і бяскрылай стомленасці.



Фота з сямейнага архіва

Нарадзілася вядомая пісьменніца 22 снежня 1922 года пры Слуцку, у вёсцы Ліпнікі, але яшчэ ў малалецтве пазбавілася родных бацькоў з прычыны іх заўчаснай смерці і гадавалася непадалёк у сваіх родзічаў. Няхай і ў любімых дзядзькоў-цётак, а ўсё ж не ў мамы і таты. Гэта быў першы экзамен жыцця, гартаванне характару і паводзін у чалавечым грамадстве. Ведаючы Случчыну як своеасаблівы гістарычны «анклаў нацдэмаўшчыны», не трэба гадаць, што пасля сямігодкі юная Алёна абрала для сябе беларускую філалогію — адпачатку ў мясцовым педагагічным вучылішчы, пасля — у Рагачоўскім настаўніцкім інстытуце. (Падчас вайны служыла ў бібліятэцы шпіталя і як вольнанаёмная пісарам у вайсковай часці.) А ў 1944 годзе была прынятая на філалагічны факультэт БДУ. Працавала ў кніжнай рэдакцыі выдавецтва «Курская правда», а пасля пераезду ў Мінск (1950) — загадчыцай аддзела культуры папулярнага тады і шматтыражнага часопіса «Работніца і сялянка». З 1972 года загадвала рэдакцыяй літаратуры для школьнікаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура», а з 1980-га тры гады аддала службе ў рэдакцыі выдавецтва «Юнацтва». З той пары на заслужанай пенсіі… Напісала шмат кніг прозы і эсэістыкі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі (1976). Заслужаны работнік культуры (1977).

Вось і ўсё. Лічы, у нейкіх дзесяці радках змясцілася біяграфія шырока вядомай пісьменніцы. Аднак неафіцыёзны лёс яе куды шырэйшы і не так гладка вымашчаны. Да часу літаратурнага прызнання былі складаныя і доўгія пробы пяра, прыцірання і абжывання ў літаратуры, замуства, сям'я, дзеці, мітрэнгі, нервы… Памерла колькі гадоў таму любімая дачка Наташа, і цяпер сын Уладзімір (вядомы выкладчык і фалькларыст) прытуліў яе годную старасць. І калі ёй яшчэ можацца, яна гатовая табе, на тры дзясяткі гадоў маладзейшаму, падтрымаць занапалы дух у тэлефоннай размове — і жывой гутаркай, і класічным досведам, і прачулым словам. Сама ж пры дакучлівым роспыце адгаворыцца кароткай ясенінскай цытацыяй, — маўляў, што казаць, калі ўжо «скоро мне в дорогу бренные пожитки собирать»…

Алена Васілевіч пачалася з Ганькі. Гэта значыць, з сябе. Напісанне вядомай тэтралогіі «Пачакай, затрымайся…» вызначыла і назаўжды ўпісала яе як творцу ў гістарычныя аналы нашай нацыянальнай літаратуры. Вядома, пад высокім небам усё адносна, і ўсё ж… Яна сама, зведаўшы сіроцтва з самага маленства, нарэшце сталася «сурагатнай мамай» для многіх беларускіх дзяцей, якім сёння за сорак і больш… Менавіта пераважная большасць людзей гэтага ўзросту часцей за ўсё скажа вам, што па сваім жаданні ў юнацтве чыталі, напрыклад, Янку Маўра, Алену Васілевіч ды Івана Шамякіна…Таму Алене Сямёнаўне як бы ёсць чым ганарыцца, ды няма ахвоты і нагоды. Асабліва сёння. І не толькі з-за старасці ды хваробы, але і з-за несупадзення з цяперашнім часам… Надта ж ён барабанны, недаверліва-хлуслівы і прагматычны… Але — што, ранейшы быў інакшым, ці проста мы самі былі іншымі? Маладзейшымі, здаравейшымі, прагнымі да неспазнанага і спакуслівага… Якраз такімі, як і сённяшняе маладое пакаленне. Толькі са сваімі, характэрнымі для свайго часу, прыбамбасамі. Лепш чым Эклезіяст ніхто не скажа: «няма нічога новага пад сонцам». Застаецца адно выпакутаваныя ў часе матэрыяльныя, мастацкія і духоўныя вартасці.

Колькі памятаю Алену Сямёнаўну, ніколі не было ў ёй і знаку высакамернасці альбо пагарды. Прыродная натуральнасць, інтэлігентная вытанчанасць, жаночая статнасць і высокая чалавечая годнасць вылучалі, але не выстаронвалі яе сярод людства ці то ў вялікім гурце, ці то tet-a-tet. Пры любых адносінах з ёй не ўзнікала той напружанасці, якая прыхалоджвае і аддаляе. На разгайданыя хвалі нераспазнанасці адразу выкідвалася выратавальнае кола цытатнай літаратурнай класікі: а памятаеце — у Коласа, Пушкіна, Буніна, Талстога, Стральцова?! Да таго ж яна заўжды была ў курсе самых свежых літаратурных навін, рэгулярна чытала (яшчэ год таму, пакуль дазваляў зрок) незалежныя нашы выданні, трохі іранічна, але цікавілася і справамі ў «холдынгу», калі там што вартае адбывалася. Перажывала, хвалявалася… Прачытаўшы мой чарговы агляд «Дзеяслова» ў «Літаратурнай Беларусі», тэлефанавала і заўжды перапытвала, а ці сапраўды варта ахвяраваць вачыма і часам дзеля твораў таго ці іншага аўтара, якіх я вылучаў у сваім опусе сярод іншых… І чытала, і дзялілася ўражаннямі.

Я напачатку вельмі здзіўляўся гэтай яе чэпкай памяці і паслядоўнай інтэлігенцкай натуры. А пасля вызначыў, што ўсе гэтыя якасці ёй вельмі пасуюць, «да твару», як кажуць, бо характарызуюць яе як жанчыну і чалавека, а не размычаныя на паказную ўвагу і захапленне пэўнага субяседніка. Як чалавек класічнай загартоўкі (яшчэ б, сам Якуб Колас быў яе настаўнікам і апекуном на першых літаратурных прыступках), Алена Сямёнаўна вельмі насцярожана ставілася да ўсякіх новых фармалістычных літаратурных павеваў, але і сярод адвеенай паловы не прамінала заўважыць і здаровае зерне, калі яно там апынулася. Не часта, але бывала. Між іншым, у 70–80-я гады не раз публічна ў друку падтрымлівала адораных літаратараў, якія самі не мелі магчымасці і нахабства заявіць пра сябе. Як чалавек без комплексаў, скажу, што ў свой час адным з іх быў і я, колішні «прапашчы» выпівоха і калгасны электрык… Людзі, якія бывалі ў такіх сітуацыях, ведаюць, як дорага каштуе такая бескарысная падтрымка.

На маю думку, шмат якія творы Алены Васілевіч унутрана напоўненыя вось гэтай чалавечай спагадай і спробай зразумення, і ўсе героі яе лепшых твораў, паталстоўску кажучы, «духаборцы» — простыя зямныя людзі, якім «баліць душа» і ўсё тое, што спараджае гэты боль. Шмат якія вобразы пісьменніцы настолькі натуральна выпісаныя, што чытач абсалютна ўпэўнены ў іх фізічным існаванні. Цяперашні літаратар дзеля сваіх герояў ужо гэтак не ахвяруе ўласнай душой, нервамі і высокай энергетыкай. Можа таму, што большасць сучасных «герояў» і не патрабуе таго, абыходзячыся халоднай рацыянальнай прагматычнай жыцця. «Любить иных тяжелый крест». Алена Васілевіч любіла і любіць — і жывых людзей, і іх прататыпаў, выпісаных ёй для літаратурнага жыцця…

Пра яе не надта каб шматтомна, але важкі літаратурны плён пісалі многія адметныя крытыкі і калегі: А. Кулакоўскі, Л. Салавей, М. Барсток, Н. Пашкевіч, П. Пестрак, М. Стральцоў, У. Юрэвіч, А. Зарыцкі, Я. Крупенька, В. Макарэвіч, В. Жураўлёў, С. Александровіч, Р. Шкраба, Т. Шамякіна, Ю. Канэ, С. Лаўшук, У. Рубанаў, А. Сямёнава, В. Каваленка, Б. Бур'ян, Г. Шупенька, М. Тычына, С. Андраюк, А. Разанаў, А. Федарэнка, Л. Рублеўская, Ц. Чарнякевіч… Пэўна не ўсіх згадаў, але і гэтых вядомых у нашай літаратуры людзей дастаткова, каб сказаць, што пісьменніца Алена Васілевіч «не самотная», бо чытача і ўвагу мела і мае… Хацелася б сёе-тое працытаваць з водгукаў некаторых згаданых літаратараў — ад старэйшых да самых маладых. Вось як вызначаў яе творчасць Барыс Бур'ян у прадмове да трохтомніка «Выбраных твораў» (1982): «У кнігах А. Васілевіч прываблівае тое стрыманае, але выразнае замілаванне самім ніколі непаўторным жыццём, якое ўплецена ў існоту жаночага таленту наогул. Пісьменніца вітае ўсю складанасць і супярэчлівасць чалавечага лёсу, калі ён толькі сапраўды чалавечны і чалавечны. Яе гераіні не вельмі рэфлекторна, але ўсё ж разважаюць аб хуткасці часу, які адбірае ў іх гадзіну, дзень, тыдзень, месяц, год за годам. І таму для мяне старонкі прозы А. Васілевіч — гэта, вобразна кажучы, пялёсткі прасветленай тугі. Не адчаю. Не роспачы, не фатальнага песімізму, а менавіта тугі — ад жыццялюбства і радасці жыцця, такога па сутнасці мімалётнага». А так пісала ў сваім артыкуле Ала Сямёнава (артыкул у часопісе «Крыніца» (1996)): «Пісьменніцу цікавіць аўра матэрыі, псіхафізічны стан, што адухаўляе наша быццё, стварае яго настрой, вызначае яго танальнасць. Калі выяўляюцца характары і адметнасці асобы, калі дэталі высвечваюць трагіфарсы, трагікамедыі, драмы нашага жыцця. І ў тым, мне здаецца, прывабнасць яе пяра. Пяра тонкага, лірычнага».

Ціхан Чарнякевіч («Маладосць», 2012): «Я еду ў электрычцы і чытаю Алену Васілевіч. (…) Ганька з Зялёнай Дубровы. Суцэльная музыка дзяцінства, вясковая энцыклапедыя, дзе кожны раздзел на сваім месцы, незалежны ад патрабаванняў часу. Да дзяцей не чапляліся – што з іх возьмеш? Балазе, гаворка ішла пра мінулае. Прыкладна гэтаксама апраўдваўся і Якуб Колас са сваёй «Новай зямлёй». Маўляў, «адлюстраванне дарэвалюцыйнай рэчаіснасці», і ўсё тут. Тое ж з Аленай Васілевіч. (…)Новы свет (бяспрэчна, больш камфортны і лёгкі) незваротна руйнуе стары. І планета Кастуся, і планета Ганькі знікла. Але мы ўдзячны іх аўтарам і героям, што яна, гэтая планета, была. І яна ёсць і будзе, пакуль ёсць «Новая зямля», «Пачакай, затрымайся…» і шмат іншых беларускіх кніг, без якіх гэтыя сенажаці і пусткі, што праплываюць зараз за вакном майго вагона, застануцца бясслоўнымі сведкамі ўласнага існавання. Цяпло чалавечага сэрца робіць іх часткай культуры».

Для тых, каго зацікавіць мажлівасць пазнаёміцца з творчасцю выдатнай пісьменніцы альбо прылучыць да яе гуманістычных твораў сваіх дзяцей, пералічу асноўныя выданні Алены Васілевіч: «Блізкія знаёмыя» (1954), «Падслухала сэрцам» (1960), «Калінавая рукавічка» (1963), «Пісар страявой часці» (1969), «Пачакай, затрымайся…» (1972), «Мыс Добрай Надзеі» (1977),«Шурка Рэмзікаў» (1985),«Люблю, хвалююся – жыву…» (1986), «Элегія» (1988), «Першая жонка нябожчыка» (2002), «Выбраныя творы» (залатая серыя «Беларускага Кнігазбора», 2010), «Горкі ліпавы мёд» («Школьная бібліятэка», 2011)…

Дзесяць гадоў таму ў «ЛіМе» свой артыкул да 80-годдзя Алены Васілевіч я закончыў вось гэтымі яе словамі. Не грэх і паўтарыць іх, бо лепш не напішу: «Кожны раз, калі я азіраюся ў тую, цяпер ужо даўнюю далячынь, кожны раз я пытаюся ў сябе: «Няўжо гэта там, за тым засмужаным руговым туманам ранкам, жывой галінкай зеляненеш ты сама? І гэта тваім босым нагам гэтак лёгка хадзіць па зямлі, а загарэлым рукам гэтак прагнецца дацягнуцца да ўсяго на свеце? І няўжо твая гэта песня звініць і не ведаестому з ранку да вечара? І гэта ў цябе столькі шчырага даверу, хто б ні стрэўся табе на дарозе, хто б ні азваўся да цябе прыхільным словам?».

І цяпер, калі між нас лягла такая неабсяжная прастора часу і ўзросту, калі столькі каменя лягло на той дарозе, якая нас развяла і раз'яднала, я пытаюся, дзівячыся і спадзеючыся:

— Тая даўняя з таго далёку ТЫ — гэта Я; і Я цяперашняя — гэта ТЫ таксама?

— І я заву цябе са смуткам і надзеяй адтуль, з тае раніцы:

— Пачакай, затрымайся...».

▸ АНТАЛОГІЯ

# «БЕЗ ДАТАЎ ЖЫВУ, БЕЗ ПАДЗЕЙ»

Данута Янаўна БІЧЭЛЬ нарадзілася 3 снежня 1937 года ў вёсцы Біскупцы Лідскага павета Наваградскага ваяводства (цяпер Лідскі раён Гарадзенскай вобласці).

Член Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1964 года. Сваёй духоўнай маці назвала Ларысу Геніюш. Стваральніца ў Горадні Музея Максіма Багдановіча. Вядомая грамадская дзяячка, адна з арганізатараў і актыўных удзельнікаў суполкі Максіма Багдановіча, з верасня 1988-га — член БНФ. Каардынавала дзейнасць рэгіянальных суполак БНФ у Гродзенскай вобласці. Была адным з ініцыятараў выпуска самвыдавецкай газеты «Рэанімова». Уваходзіла ў групу падтрымкі кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР М. Ткачова ў 1990 г.

Аўтар зборнікаў паэзіі «Дзявочае сэрца» (1961), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты — гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басаног» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Снапок» (1999), кніг нарысаў, мемуараў і эсэ «Хадзі на мой голас» (2008) і «Мост святога Францішка» (2010), а таксама шэрагу паэтычных кніг для дзяцей.

**Данута БІЧЭЛЬ**

## Аўтапартрэт

*Хто я такая? Жанчына.*
*Мяне прыдумала спёка.*
*Самота і смутак пазнання*
*на свет красы нарадзілі.*
*А лупавокія яшчаркі, тутэйшыя*
*кракадзілы,*
*чараваць навучылі*
*пацягнута марывам вока.*
*Яшчэ не было гісторыі*
*ў мяне і ў маёй краіны,*
*ад якой суседкі-краіны*
*пакідалі толькі руіны,*
*як у знікнёнай кароны, —*
*князь Вітаўт яе не надзеў...*
*Як у паважнай матроны —*
*без датаў жыву, без падзей.*
*Каго любіла? Айчыну*
*з бурлівай быстрай ракою,*
*з ластаўкай гаваркою,*
*з лесам крылатага бору.*
*Каго кяліла? Мужчыну,*
*прынёс мне шмат неспакою.*
*Мужчыну лёгкай хады,*
*задзірыстага гумору.*
*Зведала мукі любові,*
*пакуты чыстыя слова.*
*Ці шмат пакут? Дастаткова,*
*каб заглушыць уздыханне.*
*Каб заслужыць дараванне —*
*крыўдзіла невыпадкова...*
*Сабою магла красаваца,*
*як маладыя суседкі...*
*Звабіла доля паэткі.*

## Як вярнуцца дахаты

*Так далёка занеслі ногі.*
*Як вярнуцца дахаты?*
*У сустрэчных спытаю дарогі.*
*Кожны справай заняты…*
*Як вярнуцца дахаты?*
*Спытаю ў памяці, сноў.*
*А навошта? – заспрэчыць памяць.*
*Каб на золку з хаты ізноў?*
*Як вярнуцца дахаты,*
*не ведаеш, дуб расахаты?*
*Калі ты не баішся страху,*
*пацямнелае сонейка даху*
*можна згледзець з майго макуша…*
*Ад высі ў пятках душа.*
*Як вярнуцца дахаты,*
*дзе сарока цікуе з дзічкі,*
*каля прызбы цвітуць чаравічкі*
*у суладдзі кропу і мяты?*
*Там кудахтаюць куры на седале.*
*Там пра долю матуля ведае.*
*Там на вербніцу, нібы вербачка,*
*распушылася маё сэрдачка…*

▸ ЮБІЛЕЙНАЕ

# «ЦЕНЯМ КАСЦЮШКІ»: ГІСТОРЫЯ АДНАГО ВЕРША ДАНУТЫ БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВАЙ

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

**…Імя Тадэвуша Касцюшкі ў беларускім дыскурсе за савецкім часам успрымалася адчужана. Хоць напачатку, падчас і адразу пасля паўстання 1794 года, беларуская культура пабагацела і на фальклорныя набыткі, і на літаратурныя творы пра героя-земляка.**



Аднак заходнерусізм, паралельны працяг паланізацыі адлучылі мадэрную беларускую нацыю і культуру ад ліцвінскай глебы і канчаткова нівеліравалі ўспрыманне Рэчы Паспалітай як поліэтнічнай дзяржавы ў тым ліку і будучага беларускага народа. Гэта стала адным з чыннікаў маргіналізацыі вобраза Тадэвуша Касцюшкі ў кантэксце беларускай культуры, які напачатку быў у ёй даволі рэпрэзентатыўны.

Толькі ў апошняй чвэрці XX стагоддзя, асабліва пасля краху таталітарнай сістэмы, пра Тадэвуша Касцюшку на Беларусі зноў загаварылі мастацкім словам: гістарычная памяць абудзілася вершаванымі, лірычнымі формамі.

Рэанімаванне ў беларускім мастацкім слове вобраза Касцюшкі адбылося толькі ў канцы 70-х гадоў XX ст. Як ні дзіўна, аўтарам такога вяртання славутага земляка ў беларускі кантэкст стала лірычная паэтка — Данута Бічэль-Загнетава. Яна, не мірачыся з духоўнай стратай у памяці народа, забыццём свайго нацыянальнага героя, дэкларавала, што ён «перад жывымі (курсіў мой. — А. Т.) ў змаганні заўжды» (Бічэль-Загнетава Д. Ценям Касцюшкі // «Літаратура і мастацтва», 1978, 18 жніўня. С. 4.). Думаецца, што пад «жывымі» варта разглядаць не фізічна існых людзей, а перш за ўсё духоўна жывых асобаў.

## Ценям Касцюшкі

*Цень з Марачоўшчынскай*
*даўняй таполі,*
*бывае, далёка вандруе па полі.*

*На ўсходзе сонца*
*лагодна пакратае*
*прытулак сноў спрадвечных*
*у Кракаве.*

*Перад заходам*
*ціхенька ўзлезе*
*на дольны камень амшэлы ў Залессі.*

*Гаючаю засенню*
*спыніцца ўдзень.*

*Дзе нарадзіўся,*
*блукае цень.*

*Дзе зброяй люд бараніў*
*ад жуды, —*
*перад жывымі ў змаганні заўжды.*

Гісторыя верша, як паведамляе сама аўтарка, пачалася з просьбы Мацея Юзафа Канановіча (1912–1986), паэта, празаіка, перакладчыка, добрага яе сябра з Польшчы, але з каранямі са Слонімшчыны. Ён «папрасіў мяне напісаць верш пра Касцюшку ў калектыўную кнігу розных паэтаў свету пра Польшчу, здаецца, называлася «Як унесьць (падняць) вершам Тваю хвалу» — недзе ў сярэдзіне 70-х гадоў» (ліст Д. Бічэль баранавіцкаму паэту Івану Савіцкаму (псеўданім — Ян Збажына), у хатнім архіве якога ён і захоўваецца).

Муза паэткі «адштурхоўваецца» ад звычайнага валуна ў старым парку М. Агінскага, на якім высечана «Ценям Касцюшкі» — фраза, якая стала назвай паэтычнага твора і, магчыма, менавіта яна натхніла паэтку на верш з-за свайго глыбіннага сэнсу, вобразнага прастору для інтэрпрэтацыі асабістых пачуццяў і ўражанняў.

Як пісаў на самым пачатку 1990-х гадоў Э. Ляўкоў, «у беларускай перыёдыцы да гэтага часу з'яўляюцца паведамленні аб тым, што камень у Залессі быў пастаўлены ў гонар Тадэвуша Касцюшкі, які нібыта наведаў гэтыя мясціны. На самай справе палкаводзец у Залессі ніколі не быў. Надпіс на камені ў старым парку зроблены па загадзе ўладальніка маёнтка М. Агінскага. <...> Словы на камені «Cieniom Kosciuszki» з'явіліся як знак глыбокай павагі гаспадароў Залесся да памяці вялікага земляка, што спачыў на чужыне. Для помніка быў выбраны валун ружовашэрага гнейсу даўжынёй 1,9 м, шырынёй 1,7 і вышынёй над паверхняй зямлі 1,15 м. Надпіс размешчаны на заходнім баку каменя» (Ляўкоў Э. Маўклівыя сведкі мінуўшчыны. — Мінск: «Навука і тэхніка», 1992. С. 194.).

Верш надрукаваны ў 1978 годзе, калі, па сведчанні Яраслава Пархуты, той камень з надпісам з'яўляўся ледзь не адзіным знакам у гонар слаўнага сына Беларусі на яе прасторах, на Берасцейшчыне дык дакладна (Пархута Я. На земле отцов наших. Гора Шибельная // «Нёман», 1989, № 5. С. 137.). І таму, калі разглядаць верш Д. Бічэль у кантэксце «застойных часоў», напрошваецца расшыфроўка факта яго нараджэння: паэтка ўказала эрудзіраванаму чытачу маштабы ўшанавання памяці Тадэвуша Касцюшкі на яго радзіме, за вольнасць якой змагаўся герой. Імпліцытная сімвалічнасць дазволіла змясціць верш у савецкім падцэнзурным выданні.

Лірычная кампазіцыя дапамагае выяўленню ідэі верша. Паэтка апавядае, дзе вандруюць цені Касцюшкі: на Марачоўшчыне (родны фальварак героя), у Кракаве (апошні яго прытулак), у Залессі (там знаходзіцца згаданы камень) і наогул, «дзе зброяй люд бараніў ад жуды», чым сцвярджае паўсюдную і перманентную (і «на ўсходзе сонца», і «перад заходам», і «ўдзень») прысутнасць духу барацьбіта за нацыянальную вольнасць. (Неабходна патлумачыць, што ў польскай культурнай традыцыі ў кантэксце ўвекавечання памяці пад «ценямі» той ці іншай асобы маецца на ўвазе духоўная спадчына і наступствы яе дзейнасці.) Паэтка не гаворыць аб «матэрыялізацыі» ценяў — абуджэнні адраджэнскага духу (гэта на той час з'яўлялася б крамолай), аднак падтэкстава, інтанацыйна чытаецца працяг купалаўска-багдановічаўскіх нацыянальна-рэнесансных матываў. Аптымізм аўтаркі пацвярджаецца апошнім словам верша, якое набывае па-публіцыстычнаму імператыўнае гучанне, — «заўжды».

Пазней, у 1996 годзе, Д. Бічэль перапрацавала твор, яшчэ больш аздобіўшы яго лірызмам (дарэчы, цяга да перапрацоўкі, якая назіраецца ў Д. Бічэль, — ад Максіма Багдановіча, які таксама меў звычку пераглядаць напісанае). Мацея Юзафа Канановіча на свеце ўжо не было, і, магчыма, таму паэтка, уганароўваючы памяць свайго сябра, які спрычыніўся да гісторыі стварэння твора, пазначыла ў прысвячэнні яго імя. Што тычыцца вобраза Касцюшкі, дык у другім варыянце ён выяўляецца больш ясна: адзначаюцца знакавыя мясціны для героя, які ў выніку «стаў генералам Божага войска» (цытата з апошняй страфы, і гэта стварае ўзровень апафеозу дзейнасці Касцюшкі як кіраўніка ўсёй інсурэкцыі, якая «кананізавана» як Божае войска, ergo, сіла, якая змагаецца са Злом у імя ідэалаў Дабра) (гл.: «Нядзелька». — Гродна, 1998. С. 64.):

## Ценям Касцюшкі

***Светлай памяці Мацея Юзафа Канановіча***

*Цень Марачоўшчынскай*
*сведкі — таполі*
*з ценем Касцюшкі*
*сустрэліся ў полі.*

*Паразмаўлялі.*
*Кліча іх зноў*
*Кракаў, прытулак*
*вечных іх сноў…*

*Перад заходам*
*сонца прысядзе*
*на камень шэры*
*ў Агінскага садзе.*

*А ў самы поўдзень*
*пагладзіць з нябёс*
*той панадворак,*
*дзе хлопчык узрос…*

*Стаў генералам*
*Божага войска,*
*белым анёлам*
*з-за Падароска.*

І, нарэшце, трэці варыянт верша — са зборніка «Снапок», выдадзенага ў «Мастацкай літаратуры» ў 1999 годзе:

## Ценям Касцюшкі

***Памяці Мацея Юзафа Канановіча***

*Цень марачоўшчынскай*
*сведкі-таполі*
*ценем Касцюшкі*
*вандруе па полі.*
*На ўсходзе сонца*
*расой пакрапае*
*прытулак сноў спрадвечных*
*у Кракаве.*
*Перад заходам*
*ціха прысядзе*
*на камень шэры*
*ў залескім садзе.*

*У самы поўдзень*
*нікуды не пойдзе —*
*сонейкам чыстым*
*гладзіць з нябёс*
*той панадворак,*
*дзе хлопчык рос...*
*Нібы ўглядаецца*
*з шэрых стагоддзяў*
*сам генерал*
*сусветнага войска*
*белым анёлам...*
*На ўсё воля Боска.*

І яшчэ — што «з наскоку» можна не заўважыць. Ва ўсіх варыянтах паэтка пакідае аднолькавую назву — «Ценям Касцюшкі». З аднаго боку, аўтарка канстатуе: хто б не прыйшоў у нацыянальны рух на нашай зямлі пасля такой постаці, ён не зацьміць «героя двух кантынентаў». З іншага — колькасць паслядоўнікаў, паводле паэтычнага прадказання, не павінна быць адзінкавай.

Час спраўдзіў словы выбітнай паэткі: у плыню паэтычнага асэнсавання Тадэвуша Касцюшкі і яго ролі для беларускай гісторыі і культуры неўзабаве ўліліся дзясяткі творцаў.

ВЕРШЫ

# Я БУДУ ТАБЕ МАЛІЦЦА…

Эдуард АКУЛІН

## Лёс

*Звечарэлая вада*
*чарней тваіх кос.*
*Заблытаўся ў невадах*
*плёс.*

*Човен рук тваіх мне —*
*згуба.*
*Даплыву да іх я,*
*любая…*

*Звечарэлая вада*
*чарней тваіх кос.*
*Заблытаўся ў невадах*
*лёс…*

**1980**

## Першы снег

*Яшчэ лістападу па скверах бадзяцца,*
*прасіцца да творцаў у вершы…*
*А ён… Ну, адкуль толькі мог ён узяцца —*
*такі нечаканы і першы?*

*Ад страху ў крысо парасона хавацца —*
*нам здасца наіўным і смешным…*
*Бо ён… Ну, адкуль толькі мог ён узяцца —*
*такі нечаканы і першы?*

*Пад вечар ліхтарняў святлу адбівацца*
*у люстрах калюжынаў свежых.*
*А ён… Ну, куды толькі змог падзявацца —*
*такі нечаканы і першы?*

*Першы снег, як першае каханне,*
*выпадзе, аслепіць і растане…*

**1981**

## Антысвет

*Утравее Галгофа.*
*Пусціць крыж карані,*
*і Пілат заміж Бога*
*злічыць вечнасці дні.*

*Галубоў не накорміць*
*разуменнем Язэп.*
*Вучням Бог не надломіць*
*сваё цела, як хлеб…*

*Не прадасца Іуда.*
*Абязвініцца кроў…*
*Каін зробіцца мудрым.*
*Ірад знойдзе Любоў.*

*Не народзіцца Вера.*
*Не ўратуецца свет.*
*Раб пакіне галеру.*
*Крылы страціць паэт.*

*Хіба можна такое*
*хоць на міг уявіць?*

*Час на сподзе спакою,*
*не пачаўшыся, спіць…*

**8. 11. 2012**

## Марыя Магдалена

*Хто прымусіў устаць з каленяў,*
*хто цябе ад грахоў збярог?*
*Хто імя тваё, Магдалена,*
*прыгубіў, як прычасце?*
*— Бог!*

*Хто душу захаваў ад тлену?*
*Хто з табой, як з сястрою, лёг?*
*Хто паклаў у пустую жменю*
*не дзінар, а надзею?*
*— Бог!*

*Хто слязу залатую з веяў*
*у бурштын пераплавіць змог?*
*Хто раз'юшаных фарысеяў*
*супакоіў, як блох?*
*— Бог!*



*Хто крывёю свой шлях меціў?*
*Хто прыпаў да біблейскіх ног?*
*Хто табе прашаптаў, як вецер,*
*Алілуя, Марыя?*
*— Бог!*

**2010**

## Ван Гог

*Лякарня страшней астрога.*
*Тут кожны медбрат — Пілат.*
*Парыж палюбіў Ван Гога*
*за тое, што ён — вар'ят...*

*Калі з гільяцiннай скрухай*
*глядзіць на цябе мальберт,*
*патрэбна адрэзаць вуха,*
*каб выйшаў аўтапартрэт...*

*Ды нат калі д'ябал з рога*
*лье ў горла штоноч абсент,*
*Вам Бога заміж Ван Гога*
*усё ж не прадаў Вінсент!..*

**25. 09. 2012**

## Адкуль?

*Ахвярую Уладзіміру Забэлу*

*Кажуць, лёс піша чорным па беламу*
*нашы жыцці… Адкуль жа тады? —*
*Дон Кіхот, Дон Жуан, Дон Забэла —*
*рыцар, грэшнік, кумір маладых…*

*Творчасць — гэта бясконцая бітва,*
*шлях мазольны — да зораў з галер…*
*Пачынайма ж свой дзень з малітвы,*
*як калісьці сляпы Гамер…*

*І забудуцца звадкі й спрэчкі,*
*горыч знікне і сціхне боль,*
*і адчыніцца брама ў Вечнасць,*
*дзе чакае душу Любоў…*

**7. 11. 2012**

## Дазволь…

*У раку не ўваходзяць двойчы,*
*а ў Кахання раку — тым больш…*
*Як забыць на паўнеба вочы,*
*на паўночы — салодкі боль.*

*Ад былога граху не збочыць...*
*Бачыць зрэдку у снах дазволь —*
*на паўнеба валошкі-вочы,*
*на паўночы — салодкі боль.*

*А анёлы з аблокаў сочаць,*
*як кахае Гаген Ніколь…*
*На паўнеба — валошкі-вочы.*
*На паўвека — салодкі боль.*

**22. 11. 2009**

## Слёзы шчасця

*Шлях дадому — па вадзе…*
*Па вадзе — Хрыста дарога.*
*Хто кахае, той ідзе*
*ад граху да веры ў Бога.*

*Бо каханне — ёсць каўчэг,*
*дзе гады з адных Вялікдняў…*
*Як прычасце, зберажэм*
*слёзы шчасця — разам вып'ем…*

**7. 02. 2009**

## Ружа пад дажджом

*Ружа чорная, ружа твая*
*Стане ружай пунсовай…*
***Л. Дранько-Майсюк***

*Не ведаю — якая йдзе гадзіна.*
*Не ведаю і ведаць не хачу.*
*Бо ведаю, што шчасце быць павінна —*
*як бліскавіца з летняга дажджу…*

*І ты той міг чароўны падарыла,*
*сябе не раздарыўшы анікому…*
*Глядзіць з нябёс разгневаны Ярыла —*
*шчаслівым быць зайздросна й бацьку-Грому!..*

## Першы пацалунак

*Каханая, нам — па шаснаццаць год,*
*і першы пацалунак толькі сніцца…*
*На Бесядзі шалее крыгаход,*
*а ў небе ружавее Мілавіца.*

*Каханая, калі гэта было?*
*Лічыць баюся, каб не памыліцца.*
*Вады — тры моры — з Бесядзі сплыло,*
*і трыццаць раз квітнелі медуніцы.*

*Чмялі чуллівасці да раніцы гулі,*
*і восы-слёзы ранілі балюча…*
*Якімі мы шчаслівымі былі!*
*Калі кахаеш — шчасце немінучасць.*

*Калі кахаеш — крылы ў падарунак*
*за ночы адваёваныя ў сну…*
*Каханая, твой першы пацалунак*
*зацьміў кахання першага вясну!*

**16. 03. 2012**

## На дне

*На дне твайго біблейскага пагляда,*
*у чорнай прорве змораных вачэй,*
*карчуе Ной чарнобыльскае ляда,*
*начуе зачараваны Арфей…*
*На дне твайго біблейскага пагляда,*
*у чорнай прорве змораных вачэй.*

**23. 11. 2009**

## Бачыць яе дазволь…

***Л. Дранько-Майсюку***

*Вільня — мая трывога,*
*мой незагойны боль.*
*Ціха шапчу да Бога:*
*— Бачыць яе дазволь…*

*Мне не патрэбна многа,*
*гледзячы ў неба столь,*
*ціха шапчу да Бога:*
*— Бачыць яе дазволь…*

*Сэрца адужыць змога,*
*вып'ю жыцця Юдоль,*
*ды прашапчу да Бога:*
*— Бачыць яе дазволь…*

**21. 12. 2008**

## Ляцім да зор…

*Ахвярую Паўлу Бераговічу*

*Душам дзвюм у аўто няцесна,*
*як у вочы Анёл глядзіць…*
*Прытуліўшы жыццё да крэсла,*
*па-апостальску Павел спіць.*

*Зэльва, Слонім, Стаўбцы мільгаюць,*
*як каметы ў аконным шкле.*
*Павел спіць і пакуль не знае,*
*што і ў снах Беларусь жыве…*

*Гэта ведаў адзін Купала,*
*калі падаў з нябёс, як сцяг…*
*Калі бел-чырван-белай стала —*
*не кашуля — душа ў грудзях.*
*А дарога — стралой з-пад колаў,*
*ажно свішча ў вушах прастор.*
*І сляза на шчацэ Анёла,*
*мо таму, што ляцім да зор?..*

**17. 11. 2012**

## Верш

*З чаго пачынаецца верш?*
*З думкі-падмурка найперш.*

*А потым на гэтай аснове*
*сцены з'яўляюцца ў доме.*

*Каб сцены не зналі ліха,*
*куты аздабляе рыфма.*

*Каб вокны глядзелі без страху,*
*дом накрываюць дахам.*

*Прад вечнасцю, што без меж,*
*без даху — бяздашны верш…*

*Будуем свой дом, як можам…*
*І вынік заўжды відзён:*

*Вось — храм, дзе утульна Богу.*
*Вось — хрон, дзе жыве Дракон…*

**30. 11. 2012**

## Вавілон

*У Вавілоне — каінавым месцы —*
*жыццё не ў смак — ён вырас на крыві…*
*І ў позірку патрэсканым на фрэсцы*
*няма ні кроплі боскае Любві.*

*Быць захацелі небажыхарамі —*
*рабы спакусы, вершнікі аблок….*
*І за гардыню Госпад пакараў іх,*
*даў ім урок ад вечнасці за крок…*

*Бо заміж Веры вежу збудавалі,*
*перамаглі, як хтось крычаў, вякі…*
*Ды раптам, як на трызне, заспявалі*
*кожны па-свойму ўсе галаснікі…*

*Давёўшы вавілонцаў да вар'яцтва,*
*абрынуліся «вечныя» муры,*
*а разам з імі — богапанібрацтва,*
*а разам з імі — «небажыхары»…*

**5. 12. 2012**

## Углядзіся

*Каб сустрэцца з паглядам Бога,*
*углядзіся ў сябе самога…*

**7. 01. 2012**

## Тры анёлы

*Ахвярую Ігнату Грынявіцкаму*

*Калі ў парыве экстрэмізму*
*я захачу забіць яго —*
*Харона нацыяналізму,*

*Іуду берага свайго,*
*даруйце мне мой грэх, нашчадкі,*
*не я адзін жадаў таго:*
*у ноч святую на Каляды*

*анёлы тры ўвайшлі ў мой дом.*
*Купалам — першы з іх назваўся,*
*з крылом-штандарам у крыві,*
*і ціхім голасам азваўся:*

*— Народа іменем, забі…*
*Другі анёл быў Багдановіч —*
*красы айчыннай Херувім,*
*пагдядам скрушным ён прамовіў:*

*— Народа іменем, забі…*
*І трэці ангел, мудры Колас,*
*шукальнік Новае зямлі,*
*сказаў — гучаў набатам голас:*

*— Народа іменем, забі!*
*Калі ў світальнае сутонне*
*мой стрэл абудзіць птушкаграй,*
*згадайце вершніка з Пагоні,*
*што бараніў забраны край.*

**1995**

7 студзеня 2013 года Эдуард Акулін адзначае свой 50-гадовы юбілей. Шчыра жадаем яму і наступную палову стагоддзя ўзнёсла маліцца прыгожаму, спеўнаму і беларускаму!

НАВЭЛА

# КАРТЫ НЕ ХЛУСЯЦЬ

Вінцэсь МУДРОЎ

**По абедзе ўсчалася задуха і паветра стала такім густым, што яго, здаецца, можна было памацаць рукамі. Вуліца Прафінтэрнаўская ўражвала сваёй пустэльнасцю — нават куры, тутэйшыя заўсёднікі, некуды пахаваліся, — і толькі ў дальнім яе канцы, насупраць харчовай крамы, завіхаліся трое мужчынаў. Яны ставілі піўную летамку — даўжэзную, падобную да авіяцыйнага ангару, з малюнкам пеністага кухля на тарцы і надпісам «Богров» на франтоне.**

Вуліца была спрэс забудаваная драўлянымі хацінамі, і ў адной з хат — трэцяй па ліку, калі лічыць ад крамы, — сядзелі дзве старыя кабеты. Адна з іх, Макеіха, мажная целам і з твару непрывабная; другая, Аўрора Леанідаўна — былая настаўніца, — на два гады маладзейшая, густа-сівая, сухарэбрая і як той Бураціна востраносая.

Сухарэбрыца варажыла на картах. Паслініўшы палец, былая настаўніца спрытна піератасавала карты, працягнула калоду Макеісе.

— Здымі…

Макеіха тыцнула калоду закарузлым мезенцам…

— Колькі разоў казаць: ад сэрца трэба здымаць, ад сэрца, — з панікай у голасе азвалася Аўрора Леанідаўна і, пературбаваўшы калоду, зморана выдыхнула: — Божухна, задуха якая… навальніцай пахне.

— Па тэлевізары казалі: без ападкаў, — Макеіха зацята глядзела тэлевізійныя навіны і, як і ўсе астатнія пенсіянеркі Прафінтэрнаўскай вуліцы, верыла кожнаму прамоўленаму па целеку слову.

Карты пакладзіся роўным шыхтом, і варожка ўстурбавана шморгнула носам.

— Ізноў нейкія слёзы, нейкія непрыемныя размовы…

— А з кім жа я буду размаўляць? — Макеіха абмахнулася хусцінкай, выцерла пот з ілба.

— А вось з гэтай званковай дамай.

— Ці не з Хадорыхай? — старая абурана пачухала бульбаваты нос. — Але мы з ёю яшчэ пазаўчора аб усім пагаманілі. Я ж табе распавядала? Кот ейны ў мяне трох пісклятаў задушыў. Пайшла да яе і кажу: калі яшчэ раз твая кацера паганая на мой двор забяжыць, прыбʼю паленам, так і знай… Цяпер во галосіць ад самага ранку.

Аўрора Леанідаўна адарвала нос ад карт:

— Што, з-за ката?

— Ды якога ката… Піўнушку каля хаты ставяць. Цяпер во баіцца, што ёй пʼянтосіны плот пазасцываюць. А то яшчэ і ў агарод увабʼюцца.

— А колькі ж гэта ўжо тых піўнушак паставілі? — Аўрора Леанідаўна шоргнула пальцамі па калодзе, няўцямна замармытала: — На Савецкай адна… на Урыцкага, каля базару, другая…

— Раней хоць гарэлку з «чарнілам» піў, а цяпер адно піва жлукціць, — перабіла няўцямны пералік Макеіха. — Дый якое там піва… я ж памятаю, як мой дзед варыў: і ячмень прарошчваў, і хмель збіраў-сушыў, і ваду цягаў з крыніцы. А цяпер што? Бухнуць у чоп якой брыды, спірту дабавяць і гаўнянай палкай перамяшаюць. А то яшчэ і насцаць туды… каб лепш брадзіла.

Пачуўшы пра такую тэхналогію, Аўрора Леанідаўна прыціснула далонь да рота, а Макеіха тарганула галавой:

— Ну, што там яшчэ наваражыш?

Былая настаўніца хвіліну змагалася з ірвотнымі сутаргамі, вочы яе звільгатнелі, напоўніліся слязьмі, нарэшце засяродзілася на крайняй карце.

— Табе… увесь час… перашкаджае вось гэты віновы ніжнік.

— Калі б толькі перашкаджаў… Ён мяне зусім са свету зжывае, каб хату на сябе перапісаць.

— Хто, зяць?

— А хто ж яшчэ… Нядаўна пайшоў у адпачынак. Думала, ён мне дах падрамантуе — цэчо каля коміну. А ён, падлюга, да свайго стрыечнага брата паехаў у адведкі. Брат ягоны ў акадэміі выкладае, ну ў той, дзе заатэхнікаў вучаць. Казаў, на тры дні паеду, а тут і тры дні няма, і чатыры, і пяць… І мабільнік не адказвае. Люда мая ўся знервавалася, паехала ў тую… усё забываю назву горада. Карацей, адчыніла дзверы, а падлюга ляжыць пʼяны і язык набок. Брат выкладчык у акадэміі, экзамены прымае. Ну, гэтыя… старшыні калгасныя, ці як іх там цяпер называюць, прывезлі самагонкі аж дзве каністры. Падлюга і пачаў іх апаражняць… І на сямʼю забыўся, — старая плаксіва смаркнулася ў прыпол хвартуха. — Паваражы ж ты мне, Леанідаўна, — калі ён ужо да смерці дапʼецца.

— Я на смерць не варажу, а падругое, карты кажуць толькі пра таго, чыя рука іх здымае.

Макеіха чарговым разам абмахнула ўпрэлы твар.

— Не надта я веру тым картам. Нічога ж канкрэтнага ты мне не сказала. Можаш, напрыклад, сказаць: што са мною сёння надарыцца?

Аўрора Леанідаўна рашуча згарнула карты ў столку. Твар яе спахмурнеў, ніжняя губа падціснулася адтапырылася, а нос стаў яшчэ больш вострым.

— А цябе цікавіць канкрэтыка? — пальцы з нярвовым спрытам перамяшалі калоду. — Тады здымі… левай рукой.

Угледзеўшы крыўду на твары варожкі, Макеіха кашлянула ў далонь, настроіла голас на ліслівы лад:

— І дзе ты, Леанідаўна, так лоўка варажыць навучылася?

Варожка неўпрыкмет уздыхнула.

— У цыганкі.

— У цыганкі? — Макеіха гэтак жа неўпрыкмет перахрысцілася.

— Даўно гэта было… Жылі непадалёку ад вакзала, а я, дзяўчынёха, любіла на паравозы глядзець, часцяком на вакзале круцілася. І вось аднойчы падышла да мяне цыганка і кажа: «Хочаш пеўніка пасмактаць?». Пеўнікі ў нас тады прадаваліся, на палачках… памятаеш? Зайшлі ў пачакальню, цыганка кінула на дзвюх кабет. «Сядзеш ззаду і паслухаеш — пра што яны гамоняць. І, галоўнае, даведайся — як іх завуць. Яны ж адна адну па імені называюць»…

— А навошта ёй было ўсё гэта? — задышліва перабіла Макеіха.

— А каб на варажбу спакусіць. Падкоціцца потым да тых маладзіц і сакоча: «Дайце, мілыя, на вашы рукі зірнуць ды па іх вашыя імёны назваць»…

За вокнамі знянацку пацямнела і далёка дзесьці — глуха і важна — бухнуў гром.

— Я ж казала — навальніца будзе, — Аўрора Леанідаўна паднялася з крэсла, ды Макеіха схапіла яе за руку.

— Пакуль дабяжыш — змокнеш уся. Лепш на сённяшні дзень паваражы. Абяцала ж…

Гром бухнуў другім разам, цяпер ужо больш зычна і раскоціста. Аўрора Леанідаўна з відочнай неахвотай расклала карты, потым зірнула ў пацямнелае вакно, за якім з шалёным гудам праехала іншамарка, і раптам, паказаўшы вачыма на чырвовую дзясятку, рашуча паведаміла:

— Цябе павязуць на казённай машыне.

На твары варожкі адбілася ліловая водбліскі бліскавіцы, і гэта надало моманту жудаснай урачыстасці. Макеіха паспрабавала пасміхнуцца, але ўсмешка атрымалася разгубленай і насцярожлівай.

— А куды ж гэта мяне павязуць? Ці не на машыне з елачкамі?

— Цыпун табе на язык, — прамармытала былая настаўніца, хацела яшчэ нешта сказаць, ды тут знадворку так гакнула, што са століі, акурат на чырвовую дзясятку, сыпанула пацяруха.

Вятрыска шпурнуў уваконную шыбу жменю лятучага жвіру, следам паляцелі галінкі ссохлай вішні, што стаяла пад вокнамі, па даху штосьці настойліва залескатала — ці не адарвалася шыферына, — і Макеіха, падхапіўшыся на ногі, улякнута заенчыла:

— Авой-авой, а ў мяне ж парнік не зачынены! Парве ветрам!

Па-старэчы трымаючыся за паясніцу, хітаючыся, як качка, Макеіха кінулася ў прысенак.

— Плашч накінь, змокнеш! — крыкнула ўслед ёй Аўрора Леанідаўна і таксама падалася з хаты.

…Поліэтыленавы парнік і сапраўды хадзіў ходырам і ўжо гатовы быў сарвацца з месца. Макеіха толькі і паспела прычыніць парніковыя дзверцы, як наляцела залева. Буйныя кроплі секанулі па твары — старой нават падалося, што гэта былі не кроплі, а дробныя каменьчыкі, — і сярод пошуму ветру і лапацення кропель па напятым поліэтылене пачула немы воклік: «Ляціць!». І цяжка было зразумець — хто гэта крыкнуў: ці то суседка Аўрора, што стаяла на ганку, ці то сам Пярун са свайго цёмнага і грымотнага прадоння.

Штосьці вялізна-шаргатлівае мільганула над галавой, і ў той жа момант усё знікла — і сагнутыя ў дугу бярэзіны на ўзмежку агарода, і разʼюшаныя біскі маланкі ў небе, і попельна-шэрая завеса дажджу навокал. Стала задушна, цёмна, і толькі кроплі-шрацінаы аглушальна ляскаталі дзесьці над самай галавою.

«Смертухна мая прыйшла», — з гэтай думкай старая прапаўзла пару метраў, самлела, тыцнулася носам у качан лапушыстай капусты.

— Дзе ты? — крыкнула тым часам Аўрора Леанідаўна, але воклі ейны пакрыў аглушальны выбух грому.

Напачатку Аўрора падумала, што Макеіха прыхавалася ад дажджу пад піўным намётам, што гэтак дарэчы абрынуў з неба, а потым, крыкнуўшы яшчэ раз, з жахам падумала, што небараку прыбіла маланкай.

Дождж лупіў як мае быць, і на двары ўтварылася разлеглая лужына, якую разʼюшана бамбардавалі непамерна вялікія кроплі. Аўрора скочыла з ганку, паслізнулася, плюхнулася ў лужу. Памкнулася ўстаць, ды неба над галавой раздзерла траскучая маланка, і выбірацца з лужы давялося вокрачку.

Сцяна дажджу была такой шчыльнай, што за два метры не было нічога бачна, дый вочы засцілі струмені вады. Залева прыбіла піўную летамку да зямлі, яна пляската ляжала на лехах і толькі ў адным месцы прыкметна пукацілася.

— Ці жывая ты? — улякнута запыталася Аўрора, абмацаўшы Макеішын азадак. — І праз шалёнае лапаценне дажджу аб цырату Аўроры падалося, што пад намётам ціха застагналі. Кабета адкінула намёт, схапіла небараку пад пахі, паспрабавала сцягнуць з капусных лехаў.

— Суседаўна, чуеш?... толькі не памірай!

Макеіха, падобна, была жывая, бо пад пахамі ў яе было цёпла, і вусны злёгку варушыліся. Падцягнуўшы суседку да паркану, Аўрора зморана плюхнулася на ляху і ўголас пралепятала:

— Божахна, а куды ж я цябе цягну?

Перабіраючы рукамі штыкеціны, жанчына стала выбірацца з агароду, падабрала па дарозе згубленую басаножку і ўжо амаль непрытомная ўвалілася ў хату.

Пальцы зусім занямелі, і «хуткую дапамогу» Аўрора набрала толькі з чацвертага ці пятага разу. Потым яна зняла з сябе прамоклую сукенку і, пашнарыўшы вачыма па пакоі, падхапіла з крэсла лінялы Макеішын халат.

Жанчына выйшла на ганак, і наваколны свет падаўся ёй дзіўным і незнаёмым. І гэта ад таго, што пад вокнамі ўжо не было старой вішні — яна, як і яе гаспадыня, ляжала ля паркану, наставіўшы ўгору востра-зламаны, брунатнага колеру камель. Завеса дажджу рассунулася, наўкол павіднела, і Аўрора адчула раптам, што глядзіць на свет іншымі вачыма, і што навальніца змяніла не толькі двор, але й саму яе. Штосьці змянілася, перайначылася ў душы. У той момант яна нават забылася на Макеіху і проста стаяла пад паветкай, з дзіўнай асалодай назіраючы, як аціхае залева. Старая настаўніца ўсё жыццё пражыла на самоце і саромілася гэтага. І заўсёды прыспешвала крок пад слінявымі позіркамі суседак — старых пенсіянерак, што днямі поркаліся ў агародах, пад вечар глядзелі серыялы, а ўвечары збіраліся тут, ля Макеісішынай хаты, каб папляткарыць ды панаракаць на сваіх баламутных зяцёў ды нявестак. Яна й варажыць пачала — на картах і на кававай гушчы — каб убіцца да іх у давер, і нават пачала гаманіць на іхняй мове. І вось цяпер, дыхнуўшы азону, адчула, як сорам выпетрыўся з душы і замест яго ўгнездзілася высакамерная грэблівасць да гэтых цёмных і неадукаваных пляткарак, да гэтай вуліцы і да ўсяго гэтага няўклюднага свету.

Струмені вады, што ліліся з паветкі, зрабіліся зусім ценькімі, разбэрсаныя хмары яшчэ кінулі некалькі буйных кропляў, услед ім сыпанула цёплая імжа, прыемна кранаўшыся шыі, але неўзабаве і яна сунялася. І апошняя грымота пакацілася за далягляд — усё адно як хтосьці вялізны і грозны пратупаў па небе. І да яе незласлівага вуркацення далучыўся перарывісты гуд машыны «хуткай дапамогі».

На двары зʼявіліся дзве маладухі ў белых халатах. Яны ўважліва абміналі лужыны, пра штосьці гаманілі, але, убачыўшы мокрую і завэдзганую хворую, што ляжала на краі агарода, збянтэжыліся. Але толькі на імгненне, бо тут жа скочылі праз лехі і прыселі на кукішкі. Маладая лекарка прыўзняла хворай верхнія павекі, намацала пульс, штосьці — каротка і няўцямна — сказала медсястры. Тая адчыніла валізу, дастала шпрыц, і Аўрора Леанідаўна, якая надта ж баялася ўколаў, адышла да весніц. Паклаўшы рукі на брамку, зірнула ўздоўж вуліцы. З боку крамы шпаркай хадою ішлі трое мужчынаў. Яны круцілі галовамі, заклапочана азіраліся, і Аўрора Леанідаўна махнула ім рукой.

Праз вецце зламанай вішні было бачна, як маладухі паклалі хворую на піўны намёт — галава пры гэтым упёрлася ў літару «О», а ногі спачылі на літары «В», — лекарка ціскнула гумовую грушу, моўчкі кіўнула сястры, і тая пабегла да машыны, скалануўшы паветра агідным пахам лекаў. Сівагаловы кіроўца выцягнуў з машыны насілкі, гэтаксама моўчкі кіўнуў рабацягам, што падышлі да хаты, і неўзабаве, сапучы і дробна перабіраючы нагамі, мужчыны вынеслі Макеіху з двара.

— Што ж вы сваю халеру не замацавалі? — Аўрора Леанідаўна паспрабавала надаць голасу суворыя ноткі.

— Н-не п-паспелі… в-віхор наляцеў…

«Хуткая» адʼехала не адразу. Праз шыбу было бачна, як хворай ставяць кропельніцу — нечая рука трымала бутэлечку з рошчынай. Нарэшце, машына завялася, праехала колькі метраў, задняя дзверы прачыніліся, і медсястра, высунуўшыся з праёму, радасна крыкнула:

— Ажыла! Просіць, каб вы хату замкнулі ды нейкай Людзе патэлефанавалі.

Аўрора Леанідаўна доўга глядзела ўслед легкавушцы, якая паволі калывалася па вуліцы: Прафінтэрнаўскую ўвесь час перакопвалі, і асфальт скрозь прасеў, — і калі тая, даехаўшы да крамы, павярнула направа, уголас прымармытала:

— А вось жа паехала на казённай машыне…

І ўжо ідучы да хаты, дадала:

— Карты не хлусяць.

ВЕРШЫ

# З НОВАЙ КНІГІ «ЗА ФІЛІЖАНКАЙ ДАЖДЖУ»

Тацяна ЛАПЦЁНАК



* * *

*прайду праз ноч,*
*як праз вогнішча,*
*і сляды маіх ног —*
*жураўмі на воблаках,*
*паплылі што за сонцам*
*у далі бяссонныя…*

## Сцізорык

*Самотнае сонца сцярожка*
*расхінае вышыняў палын:*
*там тупае босымі ножкамі*
*не мною разуты сын.*
*а смутак дзьме з вокнаў,*
*намоклі*
*вечару пёркі сінія.*
*ціша ў кашульцы сынавай…*
*рэжа хрумсткія яблыкі зор*
*белы сцізорык…*

## У чаканні (Альба)

*За шыбай майго бяссоння*
*адтайваюць пахі вербныя,*
*а вецер старыя вершы*
*пасыпаў драбнюткай соллю*
*і ніжа паўтоны басовыя*
*на голкі дрыготкіх ценяў.*

*Адліга — яшчэ летуценне,*
*заціхлае ў покаўках плодных:*
*світальная прахалода*
*гайдае на промнях чэраўкі…*
*як хочацца спаць яшчэ…*

## Галубіца

*Я табе буду сніцца*
*ручной галубіцай —*
*гаспадыняй званіцы*
*і нябёс вартаўніцай…*
*будзеш карміць яе хлебам*
*у сне, што стане малебнам,*
*і адпускаць на світанні —*
*глядзець, пакуль не растане*
*за кругавідам руржовым;*
*чакаць яе перад імшой,*
*якую служыць адвечар*
*самотная вечнасць*
*на алтары-бліскавіцы.*

*Я табе буду сніцца…*

## Фантазія

*Лістапад, бы навюткі злоты,*
*знайду пад пяткай дажджу*
*і куплю сабе кубак самоты*
*з пенкамі зорнага журу…*
*а табе падару клёналісцік —*
*грошык з выявай восені*
*(ты яго ў калекцыю возьмеш?),*
*пакладзі ў дажджавую валізку…*

* * *

*Мужчына — патольны вір,*
*углыблены ў нетрах жадання:*
*ты створаны з пылу, узвітага*
*з-пад ног Гасподніх —*
*падданы*
*вышыняў, палоннік пагостаў…*
*зляпі мяне з гліны, загуслай*
*у глеі зацішнага плёсу*
*і нібыта збан, агуч*
*дыханнем сваім, як лёсам…*

*пачуеш глухі адгалосак,*
*зняволены ў вабных цянётах, —*
*ты выбаў мяне з адзіноты*
*і надары абліччам…*
*у гойныя воды зямлі*
*мяне акуні, мужчына,*
*у вір хуткаплынны…*

## Шлюбная элегія

*адпусці мой вэлюм, навальніца:*
*мне плялі той нерат сто сініц*
*з белага павою ймжы… ільсніцца*
*срэбра ў жураўвой галаве.*
*а мая, нібы бяздумны ветах,*
*у калюжы восеньскай плыве.*

## Мімаходзь

*Ю.*

*Нырцуе ноч*
*у вачах упрочніцы:*
*гэта я,*
*неахвочая*
*да сустрэч не ў вочы,*
*да пакояў паўзмрочных —*
*збочваю*
*ў век барочны…*
*але,*
*пачуўшы плач доччын,*
*паварочваю…*

## Эцюд

*Стары дождж гасіць вокны.*
*Дрэў нярвовыя воплескі*
*праважаюць знаёмую постаць…*
*Позна…*

*Адзінотай прыручаны позірк*
*дасылаю птушынаю поштай:*
*ты пачуеш яго праз пошум*
*апошнім…*

## Пастараль

*Статак аблокаў рахманых*
*пасвіць ластаўка-мнішка:*
*ў травах золкавых тулпіаны*
*схіляюць голаўкі ніжай…*

*дрэмле нябёсны кілім —*
*чмялі ў абдымках канвалій*
*сняць: па сонечных хвалях*
*бяжыць басаногі лівень,*
*мілуюцца матылі*
*ў каляровых бліскях,*
*на павуцінні промняў*
*гушкае вусеняў мроіва…*
*аблокі ў паўсне раставалі*
*на небасхілавых валвах…*

## Двухрадковікі

***
*Адхіні ад нас зямны жаль —*
*прачытай мяне, як скрыжаль…*

***
*Хадзем сёння спаць на воблака,*
*нам неба пасцеле на двох…*

***
*Ты — маё залатое сечыва:*
*я скрозь цябе прасвечваю…*

## Каханне

*эмігрую ў твой свет,*
*каб расчытваць іжыцы клёнаў*
*з фаліянтаў, напісаных ветрам*
*мне адной…*

*не раўнуй да пачуццяў ягоных:*
*ад сустрэчы нашай да скону*
*ён манашскаму верны закону,*
*знаўца цноты,*
*залётнік мой!*

* * *

*мне цябе не стае —*
*растаеш*
*у мярэсціве сонных далечаў…*

*ўчалавечся,*
*каханы…*

*і прыходзь да дзвярэй,*
*адмыканых*
*мной на захадзе дня,*
*калі птушкі змаўкаюць*
*і крокі звіняць,*
*калі ў марах*
*засмяглай самоты,*
*забываешся, хто ты*
*сама…*

## Цяжарная

*клейкія пальчыкі клёнаў*
*лашчаць шнары дарогі.*

*цела чакае палёгкі —*
*змога аблытвае ногі,*
*змога дражджыць ва ўлонні,*
*змога куляецца ў скронях…*
*жывот — як надзьмуты балонік —*
*акруглены болем скрозьдонным*
*нясе мяне часу наўздоўж…*

* * *

*мой дождж вярнуўся,*
*сеў на падваконне,*
*павесіў на сцяну*
*свой цень суконны*
*і папрасіў гарбаты.*
*я вокам вінаватым*
*глядзела, як з ягоных ног*
*сцякалі слёзы ста дарог,*
*што паміж нас ляжалі…*

*а кіпень вусны джаліў,*
*і гонар (нягоднік ці рыцар?)*
*мяне прымушаў скарыцца —*
*падставіць абедзьве шчакі,*
*расціснуўшы кулакі…*

## За філіжанкай дажджу

*Ю.*

*(вецер нырцуе ў кішэнь…)*
*прымі маё запрашэнне*
*ўслед за ценямі — ў свет нядзежаў,*
*дзе ў разбуранай вежы*
*валадарыць адны фіранкі:*
*панна ў сукні альтанкавай*
*з рукамі Марыны Мнішак*
*за філіжанкай і кніжкай*
*колькі пыльных стагоддзяў*
*чакае, пакуль увойдзем,*
*каб парай над кубкам растаць…*

*цені туляцца па кутах:*
*на асфальце пеніцца дождж,*
*лісце лашчыцца мокрымі лбамі*
*да абцасаў, пылам навошчаных,*
*да слядоў, пакінутых намі…*

* * *

*Бязладдзе тлуму.*
*Суладнасць швоў.*
*Не цела — ствол,*
*сухі, бяз шуму*
*лістоўных ліўняў!*
*Куды імклівіш,*
*імгненне цішы?*
*І Нехта ніжа*
*ружанцам дні:*
*на ім малюся*
*аб цішыні…*

## Віланэла

*Водзіць дождж ціхімі пальцамі*
*па літарах сумных аліў:*
*чытае біблію памяці.*

*У нагрэты пясок асыпаюцца*
*словы старой малітвы…*
*Водзіць дождж ціхімі пальцамі*

*па тварах ліхтарняў запаленых,*
*а нехта ў гэту хвіліну*
*чытае біблію памяці*

*і глядзіць за вакно, купанае*
*дотыкамі мокрых галін…*
*Водзіць дождж ціхімі пальцамі —*

*піша кірыліцай парасткаў*
*вечную кнігу зямлі.*
*Чытае біблію памяці:*

*скрозь пустату праступаюць*
*невядомых людзей абліччы,*
*і па іх*
*водзіць дождж ціхімі пальцамі…*

## Рэхаверш

*Рэха блукае ў мурох журбы,*
*бы*
*людзьмі забыты законнік…*

*коннік-*
*час — апошні з Пагоні:*
*гоні*
*свету ў нямым сутонні…*
*ні*
*душы — ён адзін прад Ім…*
*дым*
*хістае бездань зняверʼя:*
*«Вер — Я*
*буду з табой, Мой вернік…».*

* * *

*Хор дрэваў спявае псалмы.*
*«Гасанна*
*Таму, хто жыве!»*
*Самотная птушка-ветах*
*губляе пёры ў траве,*
*якімі запісваю вершы*
*Таму, хто ўва мне Жыве!*

* * *

*Лёгкі, як сненне, прах —*
*нябачнага вогнішча попел…*
*згараем*
*адно ў аднаго на вачах —*
*апошні ўздых*
*як споведзь.*
*Дрэвы — пра-людзі: пра нас*
*ведаюць больш, чым мы.*
*Неба нашчадкі нямыя*
*помняць, што грэе прах…*

ФРАГМЕНТЫ

# З НОВАГА РАМАНА «АЎТАМАТ З

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ



## «Брадвэй»

Першы тралейбус пах свежавымытым жалезам і ранішнім халадком.

У ранішнім халадку плаваў водар пралесак, бо пачыналася вясна.

Пралескі, трохі падвялыя, ляжалі на заднім, запырсканым вадой сядзенні. Кандуктарка глядзела на іх і ўсміхалася.

У тралейбусе радавалася радыё, што раніца. «У сталіцы савецкай Беларусі сем гадзін, — сказала яно святочным голасам, і кандуктарка зірнула на гадзіннік. — Добрай раніцы, таварышы! Перадаем навіны. Учора Першы сакратар ЦК КПСС, Старшыня Савета Міністраў СССР таварыш Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў даслаў ліст вучням нью-ёркскай школы».

У дынаміку пстрыкнула — і дыктар змоўк.

— Добрай раніцы, таварышы! — падрабляючыся пад радыё, голасам дыктара павітаўся кіроўца тралейбуса. — У сталіцы савецкай Беларусі сем гадзін. Наш тралейбус адпраўляецца па маршруце «Вакзал — Абсерваторыя».

«Пстрык» — вярнуўся дыктар.

«Дарагія амерыканскія школьнікі! — напісана ў лісце. — Вы паведамляеце, што ў вашай школе вучацца каля дзвюх тысяч чалавек, хлопчыкаў і дзяўчынак розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў. Спадзяюся, што гэта не замінае вам разам дружна вучыцца, весела гуляць і спяваць звонкія песні. Хачу паведаміць вам, што ў нашай краіне радасна і шчасліва жывуць і разам працуюць людзі многіх нацыянальнасцяў. Іх аб'ядноўвае агульнае імкненне жыць у міры і сяброўстве з усімі народамі зямлі».

Пстрык…

— Мы за мір! — весела сказаў кіроўца. — Наступны прыпынак — «Плошча Леніна».

Хліпнуўшы, зачыніліся дзверы — і ў левым акне тралейбуса зрушыўся чыгуначны вакзал.

Бывай, татарка Нэла!

«Жадаю вам, як і ўсяму маладому пакаленню Амерыкі, дазнацца пра тое, што такое вайна, толькі з падручнікаў гісторыі, і ніколі яе не бачыць. Жадаю вам шчасця і многа, многа дабра! Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў, 17 сакавіка 1960 года».

Во супадзенне!.. Учора, калі Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў пісаў ліст амерыканскім школьнікам, я пазнаёміўся з амерыканцам!

— Набывайце квіткі ў кандуктаркі Віялеты Казіміраўны! — весяліўся кіроўца тралейбуса. — Сёння танна, сорак капеек, бо сямнаццатае сакавіка…

Кандуктарцы Віялеце Казіміраўне, падобнай на спявачку Ніну Дорду, якая штодня спявае па радыё песню «Ландышы», гадоў трыццаць. Амаль старая, а ўсміхаецца.

«Чаго ўсміхаешся?.. — кісла глядзіць на кандуктарку дама ў каракулевым футры і каракулевай шапцы. — Можа, у цябе голас, як у Ніны Дорды? Тады чаму ты не ў каракулі? Чаго ў тралейбусе сядзіш? Ідзі на сцэну і ўсміхайся!..»

«Нехта і ў тралейбусе ўсміхацца павінен, — усміхаецца даме ў каракулі кандуктарка. — А то вунь кіслыя ўсе, як гуркамі кіслымі паснедалі».

Я даў Віялеце Казіміраўне сорак капеек — яна мне квіток. Нумар 179872! Сумы трох першых лічбаў квітка і трох апошніх супадалі! Шчаслівы! 17 на 17! Во супадзенне!..

— Мінскае паравознае дэпо! — доўжыла радыё. — У дыспетчарскую заходзяць машыністы, абменьваюцца думкамі. Сярод іх — намеснік начальніка дэпо таварыш Папковіч.

— Мы хочам жыць у міры і дружбе з усімі народамі! — радасна закрычаў па радыё таварыш Папковіч. — Мы гатовы гандляваць з капіталістычнымі краінамі, спаборнічаць у вытворчасці прадуктаў на душу насельніцтва. Праводзячы міралюбівую палітыку, наша краіна ўжо шмат разоў скарачала свае ўзброеныя сілы.

Краіна скарачае свае ўзброеныя сілы, а мне сёння ўвечары на вайну.

— Чым ён у паравозным дэпо гандляваць збіраецца? Парай у свісток?.. — ці то сама ў сябе, ці то ў кандуктаркі, купляючы квіток, спыталася дама ў каракулі, а кіроўца, у якога вясновы настрой, раптам заклікаў на плошчы Леніна:

— Дагонім і перагонім Амерыку! Наступны прыпынак — «Вуліца Валадарскага»!

Дама ў каракулі, падварушваючы густа нафарбаванымі, малінавымі губамі, палічыла лічбы на квітку…

Не. Шчаслівы ў мяне.

— На тралейбусе, — незадаволена сказала дама, сядаючы. — Дагонім і перагонім.

Вуліца Валадарскага — прыпынак каля паштамта, адкуль пачынаецца праспект Сталіна. Нядаўна над уваходам у паштамт з'явіўся гадзіннік, які распеўна адбівае гадзіны з паўгадзінамі. Зараз ён маўчыць, бо 7:05.

«Ведаеш, што ў Мінску мне найболей ненавіснае? — спытае праз многа-многа гадоў Эдзік Гарачы, пра якога размова наперадзе. — Гадзіннік на паштамце».

Але пакуль ён, Эдзік Гарачы, не ведае, што ўзненавідзіць гадзіннік на паштамце. Яшчэ ён не актор рускага тэатра імя А. М. Горкага, які мільгнуў у вакне тралейбуса на вуліцы Валадарскага. Толькі-толькі скончыўшы тэатральны інстытут, грае Эдзік Гарачы ў Тэатры юнага гледача — і ў самым страшным сне не прысніцца яму, што пасадзяць яго ў «амерыканку», унутраную турму Камітэта дзяржаўнай бяспекі, будыніна якога расцягнулася на цэлы квартал у левым акне тралейбуса. І чуваць будзе Эдзіку ў турэмнай камеры бой гадзінніка на паштамце. Працягла — кожную гадзіну, і коратка — паўгадзіны… Днём і ўночы — кожную гадзіну з паўгадзінай… Коратка і працягла…

Гэта ўсё будзе пазней, тады, калі праспект Сталіна, колішняя вуліца Захар'еўская, былая Савецкая, стане праспектам Леніна — і Эдзік Гарачы апынецца ў створаным яшчэ пры Леніне лагеры ў Мардовіі. Пакуль жа ён — актор Тэатра юнага гледача, і знакаміты ў Мінску тым, што мае фотаздымак з аўтографамі Эдзі Рознэра і Луі Армстранга, якія стаяць на фотаздымку ў абдымку. «Эдзіку ад Эдзі і Луі», — напісана на звароце фотаздымка, і гэтага дастаткова, каб мець славу і не мець праблем пры знаёмстве з дзяўчатамі, якім Эдзік кажа, што ён саліст аркестра Эдзі Рознэра. Таго самага аркестра, у якім Ніна Дорда, на якую падобная кандуктарка Віялета Казіміраўна, спявае песню пра ландышы. І хоць аркестр Эдзі Рознэра быў Дзяржаўным джаз-аркестрам Беларускай ССР у той час, калі Эдзік Гарачы мог спяваць у ім толькі дзіцячыя песні, а цяпер аркестр у Маскве, гэта не замінае Эдзіку Гарачаму быць ягоным салістам. «Увечары, — кажа ён дзяўчатам, — сядаю на цягнік у Мінску — і раніцай спяваю ў Маскве».

«Утро красит нежным светом стены древнего Кремля, просыпается с рассветом вся советская земля! Кипучая! Могучая! Никем не победимая!..» — заспявала радыё, пажадаўшы поспехаў калектыву паравознага дэпо, намеснікам начальніка якога працуе таварыш Папковіч, і раптам мужык на сядзенні ўперадзе ўстаў, павярнуўся да кандуктаркі, да мяне, да дамы ў каракулі, да дзвюх бабулек у хусцінках і дзядка ў капелюшы, да падпалкоўніка ў пагонах, да ўсіх, хто ў тралейбусе, і абвясціў, стукнуўшы сябе ў грудзі: «Гэта я таварыш Папковіч! Там па радыё выступаю, а тут з вамі еду!..»

Яшчэ не ўзляцеў у космас першы савецкі касманаўт Гагарын, а тым больш ніхто не ведаў нічога пра другога касманаўта Цітова, касманаўта-3 Мікалаева і касманаўта-4 Паповіча, таму на намесніка начальніка паравознага дэпо таварыша Папковіча, які выступаў па радыё, вылупіліся ўсе, як на героя. І гонар нейкі — я па вачах кандуктаркі ўбачыў — узнік: вось ён, такі чалавек, які выступае па радыё, едзе з намі, з простымі людзьмі ў адным тралейбусе… І праз гэта трохі разгубіліся і дзве бабулі, і кандуктарка, і падпалкоўнік — усе, апроч дзядка, які раптам сказаў:

— Голас непадобны.

Намеснік начальніка дэпо глянуў на дзядка, на кандуктарку…

— Як непадобны?..

— А так, — насмешліва прыўзняў капялюш уедлівы дзядок. — Не твой.

— Дык зменены, — сказала кандуктарка, якой, канечне, хацелася, каб такі знакаміты чалавек, як таварыш Папковіч, ехаў у яе тралейбусе. — Што па радыё, а што так…

Голас у кандуктаркі аказаўся нечакана нізкі для жанчыны. Не як у Ніны Дорды. Гэткі голас, што нават падпалкоўнік азірнуўся.

— Непадобны! — упарціўся дзядок. — Вунь у кіроўцы нашага як па радыё, гэтак і так.

— Кіроўца не па радыё, — не здавалася кандуктарка. — Ён у мікрафон.

— Вуліца Камсамольская! — абвясціў кіроўца. — Наступны прыпынак — «Цэнтральная плошча».

На Цэнтральнай плошчы ў Палацы прафсаюзаў, дзе ўчора былі танцы, я і пазнаёміўся з амерыканцам.

«Широким проспектом шагаю, и радостно мне оттого, что в этой красе величавой есть доля, есть доля труда моего!..» — пачало новую песню радыё, а дзядок ускочыў:

— А няхай пашпарт пакажа! — І спытаўся чамусьці ў падпалкоўніка. — Пашпарт у яго ёсць?

Падпалкоўнік, папраўйшы фуражку, адвярнуўся да вакна.

— Ага… — крыўдліва сказаў, сядаючы, намеснік начальніка паравознага дэпо. — Буду я пашпарт цягаць, каб згубіць.

Дзядок пераможна, нібы гэта канчаткова нешта вырашала, тыцнуў у намесніка начальніка пальцам.

— Няма ў яго пашпарта!.. А калі б і быў, то што? Вось у мяне сусед — грузін Джугашвілі, дык ён хто: Сталін?

У тралейбусе, здалося, нават радыё прыціхла.

Чатыры гады таму ў Маскве сказалі, што Сталін быў не такі ўжо вялікі, як здавалася, і яго няма за што асабліва любіць. Але гэта недзе ў Маскве, а не тут, у Мінску. У Мінску не любіць Сталіна не спяшаліся, бо раптам у Маскве перадумаюць…

— Хто ваш сусед? — спытала, не дачуўшы, дама ў каракулі, але дзядок яшчэ раз тое самае казаць палічыў залішне — і пытанне, зляцеўшы з малінавых губ, павісла ў сонечным паветры.

«Сталін — наша сонца, Сталін — наша слава, Сталін — наша вечная вясна…» — успомніліся словы, якія Эдзік Гарачы мог спяваць у аркестры Эдзі Рознэра, як я спяваў іх у піянерскім хоры, а жанчына ў каракулі перапытала дзядка. — Ваш сусед Сталін? — І малінавыя вусны падціснула. — Ён жа культ!

Дзядок і на гэта раз нічога ёй не адказаў. Па ўсім відаць было, што не падабаюцца яму дамы ў каракулі.

— Які ку-у-льт?.. — незадаволена працягнуў, гледзячы ў акно, падпалкоўнік. — Прычапіліся… — І стукнуў кулаком па калене. — Я з ім у Берлін увайшоў!

У левыя вокны тралейбуса ўплывала Цэнтральная плошча, пасярод якой стаяў у бронзавым шынялі, прыклаўшы бронзавую руку да бронзавых грудзей, Сталін. Дзесяціметровы, велічны на высокім, абкладзеным мармуровымі плітамі пастаменце, ён, здавалася, падпіраў неба над Мінскам, быў пастаўлены тут на векі вечныя, і ніхто ў нашым тралейбусе — ні кіроўца, ні кандуктарка, ні дзве бабулі, ні намеснік начальніка паравознага дэпо таварыш Папковіч, ні дзядок у капелюшы і ні дама ў каракулі, ні тым болей падпалкоўнік — уявіць не маглі, што помніка Сталіну некалі не стане…

Не стала. Знеслі за адну ноч восенню 1961-га — напярэдадні 44-ай гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, якую Сталін звяршыў разам з Леніным, бо Ленін без Сталіна звяршыць яе не мог.

Цэнтральную плошчу агарадзілі высокім плотам, за якім нічога відаць не было, толькі чуліся гул ды скрыгат, і мы з татаркай Нэлай, а з намі Віл, Біг і Піля, залезлі на дах найбліжэйшага да плошчы дома і адтуль глядзелі, як, накінуўшы трос на шыю, звальвалі бронзавага правадыра ўсіх часоў і народаў.

Правадыр упіраўся, не хацеў падаць. Каб зваліць яго, аднаго бронетраспарцёра, з-пад гусеніц якога іскрамі ляцела брукаванка плошчы, не хапіла. На бляшаным даху бегаў за нашымі спінамі нізкарослы, п'яненькі мужычок і крычаў: «Юзік, трымайся!..» Але Юзік не ўтрымаўся. «Ніхто не ўтрымаецца, калі на яго ўсе астатнія разам накінуцца», — сказала татарка Нэла. На плошчу падагналі яшчэ адзін бронетранспарцёр — і цугам яны правадыра паваліліі.

«Зваліў Мікітка Юзіка…» — сказаў мужычок, сеў пад комін і заплакаў…

— Я да вас не прычапіўся, — перагнуўся цераз сядзенне да падпалкоўніка дзядок. — Я кажу вам, што ён можа быць Папковічам, але не тым таварышам Папковічам, які выступаў па радыё.

— А якім тады?.. — не зразумела кандуктарка. — Якім, калі не тым?

— Цэнтральная плошча! — абвясціў кіроўца. — Наступны прыпынак — «Вуліца Янкі Купалы».

# ГАЗІРОЎКАЙ З СІРОПАМ І БЕЗ»

Кандуктарка, адарваўшы квіток дзяўчыне ў сінім каптурыку, глядзела на дзядка, чакаючы… Але паколькі намеснік начальніка паравознага дэпо, не збіраючыся болей нікому даводзіць, што ён ёсць ён, крыўдліва маўчаў, дзядок буркнуў, сеўшы:

— Скуль я ведаю, якім…

Дзяўчына села побач са мной. У тралейбусе было поўна вольных месцаў, а яна села побач.

Прыгожая. Але не такая, як Ася. Такіх, як Ася, болей няма. Куды да Асі гэтай — у каптурыку.

Мусібыць, праз Асю амерыканец і падышоў да нас. Мы танцавалі рок-н-рол, ён стаў танцаваць з намі. Файна танцаваў. Лепш за Гарыка Клябанава. А лепш за Гарыка рок-н-рол ніхто не танцуе.

— У цябе шчаслівы? — спытала дзяўчына, падлічыўшы лічбы на квітку. І засмяялася. — У мяне — не.

Кандуктарка амаль старая, а ўсміхаецца. У гэтай квіток не шчаслівы, а яна смяецца. «Жанчына — рэч таемная, як рака падземная», — пад гітару спявае Гарык, які лепш за ўсіх танцуе рок-н-рол.

У сіняга каптурыка і не магло быць шчаслівага нумара. Наступны шчаслівы — 179881. Але для таго, каб ён выпаў, кандуктарцы трэба прадаць дзевяць квіткоў. А каму прадаваць?..

— Не ведаю, ці шчаслівы, — зманіў я каптурыку. — Можам памяняцца.

Каптурык зноў засмяяўся.

— Ведаеш. Пра сваё шчасце ўсе ведаюць. І шчасцем не мяняюцца.

«Давай памяняемся, — сказаў учора Косця Воран амерыканцу. — Я танцую з Асяй, ты — з Марынай».

І амерыканец памяняўся.

Калі б ён не памяняўся, дык, магчыма, была б інакшай уся сусветная гісторыя. Невядома толькі: са шчаслівым квітком, ці не?

Ніхто нічога не ведае пра сваё шчасце, каптурык.

У маёй кішэні быў было дзесяць рублёў і дзесяць капеек. Паснедаць: ячэня — 1 рубель 10 капеек, каша — 70, кісель — 30, батон — бясплатна. Гэта 2 рублі 10. Абед: салат — 50, паўбаршча — 80, катлета — 1 рубель 20, гарнір — 40, гарбата і хлеб за так. 2 рублі 90 капеек. Разам — 5 рублёў. Дзевяць квіткоў — 3 рублі 60 капеек. Усяго — 8 рублёў 60. У мяне застаецца паўтара рубля. Вечарам вайна, так што не да вячэры. А заўтра стыпендыя. Я падаў чырвонец кандуктарцы: — Мне дзевяць квіткоў.

Віялета Казіміраўна ўважліва ўглядзелася спачатку ў мяне, пасля ў маю суседку…

— Восем, — сказала кандуктарка, адлічыўшы квіткі і рэшту. — Адзін яна сама купіла.

— Вуліца Янкі Купалы! — абвясціў кіроўца. — Каму ў цырк, таму на выхад!

— Не, гэта цырк! — раптам зноў падхапіўся незадаволены дзядок. — Чалавек прысвойвае чужыя заслугі, а ўсе маўчаць! Ён дыктар радыё! А то я не ведаю дыктараў! Так ён і вашы заслугі прысвоіць, і мае! І што мне: аддаць?

Бабулі, абедзве ў ліловых хусцінках і чорных цыгейках, падняліся і пераселі ад дзядка далей — бліжэй да падпалкоўніка.

— Ён не казаў, што дыктар! — кінула займацца нашым з каптурыкам шчасцем Віялета Казіміраўна. — Ён сказаў, што выступаў, а вы ўсё перакручваеце!.. Ён жа перакручвае, таварыш палкоўнік!

Усе шукалі патрымкі ў чалавека, які ўвасабляў сілу. Слабыя ў моцнага.

У мяне старэйшы сябар Палкоўнік. Не сапраўдны палкоўнік, проста мянушка ў яго такая, але ён мацнейшы за сапраўднага. Ва ўсякім разе, за гэтага падпалкоўніка, які глядзіць на кандуктарку і не ведае, што сказаць.

— Падпалкоўнік я, — знайшоў, нарэшце, што сказаць, падпалкоўнік. — І адчуўшы, мусібыць, адказнасць за жанчын і дзяцей, абаронца краіны, якая скарачала свае ўзброеныя сілы, даволі строга спытаў дзядка: — А ў вас якія заслугі, каб іх прысвойваць?

Дзядок нібы толькі таго й чакаў.

— Вось! — выхапіў ён чырвоную кніжачку з кішэні! — Героі-падпольшчык!

Кандуктарка падхапілася:

— Там не напісана, што герой! Ездзіць можна бясплатна, я глядзела, але што герой — не напісана!

— Плошча Перамогі! — абвясціў кіроўца. — Ускладанне кветак героям!

Дама ў каракулі, якая не збіралася нікому ўскладаць кветкі, павярнулася да кандуктаркі: «Якая плошча?..» — і тая ўздыхнула, сядаючы: «Ды Круглая, Круглая... Усе ведаюць, а кожны пытае».

Усе ведаюць, а кожны пытае, бо Круглая плошча, на якой паставілі абеліск і запалілі Вечны агонь, плошчай Перамогі стала нядаўна. Да новай назвы не прызвычаілася не толькі дама ў каракулі — для мяне дасюль плошча гэтая Круглая.

— Глядзі, — сказала адна бабуля другой у момант той цішыні, перад якой расчыняюцца дзверы. — Агонь на плошчы…

— І праўда… — з цікаўнасцю прыпала да акна другая. — Пэўна, дзеці распалілі…

«Жы-шу-шых!..» — расчыніліся дзверы — і ў іх лёгка, як парушынка, выляцеў мой сіні каптурык.

Нават не развіталася.

Нават кандуктарка здзівілася.

Нават бабулі ёй услед зірнулі.

Больш ніхто з тралейбуса не выйшаў, ніхто не ўвайшоў — і дзверы зачыніліся: «Шыхжы-шу!..»

Ад Круглай плошчы дарогі разыходзяцца на чатыры бакі.

— Шчасце не купіш, — паглядзеўшы ў зачыненыя дзверы, сказала кандуктарка. — Пралескі мог падараваць. Вянуць без толку.

Мог падараваць… Без толку вянуць… Калі б гэта была Ася, я б выскачыў з тралейбуса, схапіўшы пралескі. Не ў дзверы, дык у вакно. Але гэта была не Ася — сіні каптурык. Нават не татарка Нэла.

Учора татарка Нэла таксама танцавала ў Палацы прафсаюзаў. Потым мы ўпяцёх: я, Нэла, Віл, Піля і Гарык праводзілі Марыну з амерыканцам. Воран сказаў: «Я з Асяй, а вы Марыну праводзьце. Ці мала што: усё ж амерыканец».

Марыну чакаў каля дома чубаты Толік. Амерыканец адразу наскочыў на яго. Завадны: упершыню ўбачыў — і біцца. Такога б на вайну… І яны пабіліся б, калі б не мы. Вось тут, каля Вечнага агню.

Вайна магла пачацца яшчэ ўчора. Але яе перанеслі на сёння. Грушаўка будзе біцца з Сельгаспасёлкам.

— Наступны прыпынак — «Даўгабродская»!

Я вучуўся ў электратэхнікуме сувязі і жыў у інтэрнаце на Падлеснай, таму гэтая вайна была не маёй. Але разам са мной вучыліся Кон, Грыц і Балік. Кон і Грыц біліся за Грушаўку, Балік — за Сельгаспасёлак. Ён разважыў, што будзе справядліва, калі мы, свае са сваімі, будзем біцца два на два.

Я не хацеў біцца ні два на два, ні пасёлак на пасёлак. Я хацеў танцаваць рок-н-рол, слухаць Дзюка Элінгтана, Джона Рыда і Элвіса Прэслі, чытаць Агату Крысці, якую пераклалі з ангельскай Біг з Вілам, і кахаць Асю. Ды мала чаго я хацеў… Кон, Грыц і Балік сказалі: «Мы ўсе — адно. А ты — стыляга. Калі ты не з намі — ты супраць усіх».

Я быў стылягам, але я не хацеў быць супраць усіх. Бо як супраць усіх — аднаму?

Татарка Нэла кажа: «Трэба быць усім з усімі, як татары з манголамі. Тады будзе Залатая арда».

Тралейбус дугой каціўся па Круглай плошчы — і бабулі ўсё дзівіліся на агонь, які расклалі дзеці…

Татарка Нэла вучыцца на медсястру ў вучэльні на Падлеснай. Вучэльня — побач з Першай клінікай, у якой Нэла падрабляе. Яна пачала ўжо карыстацца парфумай — і ёй патрэбныя грошы. А бацькі на парфуму грошай не даюць.

— Ды якія дзеці! — сярдзіта не вытрываў, гледзячы на бабуляў, дзядок, але тлумачыць бабулям нічога не стаў. Буркнуў толькі, чакаючы патрымкі ад дамы ў каракулі. — Дзярэўня!..

Дама ў каракулі яго не падтрымала, яна ўвогуле нікога не падтрымлівала. Паднялася і пайшла да выхаду. Круглатварая, яна была трохі падобная да маці татаркі Нэлы.

Я раскахаў Нэлу, калі закахаўся ў Асю.

Мне дзіўна было, што я раскахаў Нэлу. Я думаў, што каханне — на ўсё жыццё. Адно на адно.

Віл сказаў мне, што так не бывае. Ён старэйшы за мяне, але не настолькі, каб гэта ведаць. І я не паверыў бы яму, калі б не раскахаў татарку Нэлу.

Нэла таксама здзівілася, што я раскахаў яе, і сказала, што таксама мяне раскахала. Таму гатовая на ўсё, бо без кахання ўсё прасцей.

Жыла яна недалёка ад вакзала — на вуліцы Савецкай. Бацькі яе, чыгуначнікі, працавалі ў начной — і яна прывяла мяне да сябе. Пасля таго, як мы праводзілі амерыканца. Але ў нас нічога не выйшла, бо я не ведаў, як гэта рабіць. А сярод ночы раптам з'явіўся бацька — і Нэла запіхнула мяне пад стол, дзе я галяком прасядзеў да раніцы. Скачарнеў увесь, пасінеў, здранцвеў…

І цяпер адразу ваяваць?

Кон, Грыц і Балік адчулі, што я не з імі, што мы — не адно. Таму і ўцягнулі мяне ў не маю вайну. Бо тыя, хто разам быў на вайне — франтавыя сябры. Яны да смерці разам.

Кандуктарка забрала ў мяне стужку квіткоў і вярнула 3 рублі 20 капеек.

— Сышло тваё шчасце, — сказала яна і засмяялася. — Зэканоміў, усё да лепшага.

Смех у яе не супадаў з голасам, дык вышэй.

Я загадаў: калі дама ў каракулі выйдзе і рушыць уперад па праспекце — ажанюся з Асяй, калі назад — з татаркай Нэлай. Я раскахаў яе, але не так, каб не закахацца зноў…

Дама выйшла і павярнула на Даўгабродскую.

Ні ажаніцца мне ні з кім...

Што ж, усё да лепшага. У абед можна з'есці дзве катлеты. І павячэраць. Вечарам вайна, дык трэба набрацца сілы.

Хоць і не пабіўся чубаты Толік з амерыканцам, а ўсё адно вайна. Не тая, дык іншая. Без вайны ў гэтым свеце, відаць, не абысціся.

Мой бацька і ягоны франтавы сябар на кожны дзень Перамогі напіваюцца і страляюць адзін у аднаго з пісталетаў. Адзін бяжыць праз лес — другі страляе. Пасля наадварот… Кожны раз прыязджае маёр з ваенкамата, забірае ў іх пісталеты, а пасля вяртае. Ён таксама франтавік, яны разам да смерці.

Кожны раз маці просіць маёра, каб забраў пісталеты назусім. Кожны раз маёр тлумачыць, што назусім забраць нельга. Яны імянныя. Ад маршала Жукава. Такая ўзнагарода большая за ордэн. І бацька кажа, працірачы імянны надпіс на пісталеце: «Вось, сынок, што такое імя. Зняславіш — заб'ю!..»

Значыць, трэба ісці на вайну.

— А вы на вайне былі? — спытаў дзядок падпалкоўніка, мусібыць, для таго, каб зачапіць яго, бо той сказаў, што ў Берлін са Сталіным уваходзіў, і дзядку зайздросна стала, але падпалкоўнік не зачапіўся, коратка кіўнуў: «Быў. Усе былі».

— Э, не ўсе!.. — падхапіўся дзядок, якога перапыніў кіроўца: «Наступны прыпынак — «Плошча Якуба Коласа», — і дзядок, не зачапіўшыся за падпалкоўніка, зачапіўся за Коласа. — Колас не быў! І Купала не быў! П'яны з лесвіцы зваліўся! І ў аднаго — вуліца, у другога — плошча! Справядліва?

Ніхто не адказаў яму, нават падпалкоўнік, да якога дзядок чапляўся — і тут ужо я не стрываў:

— Яны паэты!

Дзядок толькі і чакаў, хто не стрывае.

— Паэты?А я падпольшчык! Чым я горшы?

— Нічым, — каб супакоіць дзядка, сказала кандуктарка. — І ёсць вуліца Падпольшчыкаў.

Такой вуліцы я не ведаў. Але ў Мінску сотні вуліц. Можа, недзе ёсць і такая, на якой жывуць падпольшчыкі. Цэлая вуліца падпольшчыкаў…

Грушаўка, на якой жывуць Кон з Грыцам, і Сельгаспасёлак, дзе жыве Балік, варагуюць адно з адным даўно. І час ад часу б'юцца. Да дзявятай крыві. Як толькі дзявятаму байцу нюрбалку расквасяць, вайна канчаецца — дзясятага не б'юць. У каго меней пабітых, за тымі й перамога.

Гэтым разам Балік прапанаваў біцца ў парку Чалюскінцаў.

— У вас тады перавага, — сказаў Кон. — Парк Чалюскінцаў — ваша тэрыторыя.

— А дзе ў вас біцца? — спытаў Балік. — У парку Горкага, каб міліцыя забрала?

Нібыта ў парку Чалюскінцаў міліцыя не забярэ.

— Плошча Якуба Коласа! — абвясціў кіроўца, і дзядок, разлLaвана махнуўшы рукой, выскачыў з тралейбуса. — Наступны прыпынак — «Шостая лінія».

— Герой бабы старой, — услед дзядку пракінула кандуктарка. — Яшчэ жывы, скача, а ўжо вуліцу хоча. Памры спачатку.

— Беражы Бог, — сказала тая бабуля, якая першай з агню здзівілася, і перахрысцілася.

— Які Бог? — раздражнёна спытаў падпалкоўнік. — І каго беражы?.. Гэтага старога латрыгу?

Бабуля перахрысцілася яшчэ раз:

— Усіх няхай Бог беражэ.

Кандуктарка таксама хацела перахрысціцца, але зірнула на падпалкоўніка і не перахрысцілася. Толькі губы, як дама ў каракулі, падціснула.

Прыпынак праехалі моўчкі.

На наступным я сышоў — і больш ніколі ў жыцці не спаткаліся мне ні тыя дзве бабулі, ні дзядок, ні падпалкоўнік, ні намеснік начальніка Мінскага паравознага дэпо, ні кандуктарка Віялета Казіміраўна, ні сіні каптурык… Над усім — толькі вясновы пах пралесак.

Вось што дзіўна: убачыць людзей, разам з якімі пражываеш свой век на зямлі, толькі на імгненне аднойчы ўраніцы…

А ўвечары была вайна.

Мы ўжо грушаўскіх дабівалі, засталося толькі адну, дзявятую кроў пусціць, калі на мяне наляцелі незнаёмыя мужыкі. Не з нашых. П'яныя, у наколках — з тых, каго нядаўна выпусцілі з турмы па амністыі. Блатныя. Адзін ударыў алавянкай — і ўвечары я апынуўся там, дзе сышоў з тралейбуса ўраніцы: у Першай клініцы на Падлеснай.

Першай, каго ўбачыў, вярнуўшыся з таго свету, была Ася. Я пазнаў яе і заплакаў: ніколі мне з ёй не ажаніцца. Дама ў каракулі сышла з тралейбуса і павярнула на Даўгабродскую…

**З працягам рамана можна азнаёміцца ў № 61 часопіса «Дзеяслоў»**

ВЕРШЫ

# ПЛЯЦ

Васіль МАКАРЭВІЧ

## Дыпціх

*Ул. Н.*

*1*
*Спазнаў ён і веру біблейскую*
*І ласку казённых шчадрот…*
*Калісьці і Дастаеўскага*
*На смертны вялі эшафот.*

*А потым за скібачкай скібачку,*
*У доме тым мёртвым, дзе смаг,*
*Ён дзён катаржанскае выпечкі*
*Адведаў удосталь і ўсмак.*

*2*
*Маланкі паляць магній,*
*Каб высвеціць наўскос,*
*Як на крыжы ён смагне*
*Каторы век, Хрыстос.*

*А хто рвануўся з месца,*
*Каб з хвіляю жуды*
*Да губ яго паднесці*
*Хоць кропельку вады?!*

## Размова з Янкам Купалам

*1*
*Гарачае лета.*
*Задуха з задух.*
*Салоўка каленца ў скверыку выкіне.*
*Пад засенню рупных бяроз-папрадух*
*Давайце прысядзем,*
*Іван Дамінікавіч!*

*Наткалі паэм*
*Столькі Вы для вякоў,*
*Што можам душою на іх мы аперціся.*
*Ды гэтулькі рыфмаў на пальцы радкоў*
*Адзелі з усмешкай, як з жэмчугам*
*Персценяў.*

*І ў сённяшніх творцаў*
*Строф — быццам карчоў,*
*Ды ледзьве не ўсе яны з астмай*
*калішняю.*
*А рыфма! Для модных прайдох-лаўкачоў,*
*Магчыма, яна нават болей,*
*Чым лішняя.*

*Узняўшы са дна*
*Даўніх дзён каламуць,*
*Як музу яны дзесьці ўпотай не тузалі,*
*Гатовы пры ўсіх дагала распрануць,*
*Пакінуць у ліфчыку толькі*
*З рэйтузамі.*

*І сорам душу*
*Ім ні троху не грыз,*
*Калі далікатную, з песняй тутэйшаю,*
*Яе выраблялі прымушалі стрыптыз,*
*Хацелі зрабіць паслухмянаю*
*Гейшаю.*

*2*
*Хоць сотню рулад*
*Ён заклаў у ламбард,*
*Хто знае, пра што пад ігрушай*
*старэнькаю,*
*Ад рання да рання з бандурай наш бард*
*На рванай струне і спявае*
*І трэнькае.*

*Няўжо не абуран,*
*Што з лукам, з пращчой,*
*Не надта каб слова шануючы роднае,*
*То гвалтам ірвуцца, то лезуць пішчом*
*Не толькі на сцэну,*
*Але і ў народныя.*

*Мо трэба ў званы*
*Над зямлёй аржаной*
*Ударыць, каб лозы пасланіся покатам?!*
*Хоць мова-суседка й не чуж-чужыной,*



*А ўсё-ткі чаму раскашуе*
*На покуце?*

*А родная наша,*
*Што ў душах жыла*
*І нам дасталася ў адвечную спадчыну,*
*Няйнакш з-за капрызу праныр і жулля,*
*Як быццам і дома, а ходзіць*
*У падчарках.*

*Крывы лес здаля*
*На паўсвета відаць,*
*Што пошасць усцяж абышла і абнікала.*
*…Як бедам з прарэхамі рады нам даць,*
*Хто б мог падказаць нам,*
*Іван Дамінікавіч?!*

## Пляц

*1*
*Не для адных парадаў*
*Цэменту кельма — плясь! —*
*І каля Дома Ўрада,*
*Бач, разаслаўся, пляц!*

*Ён мыты-перамыты*
*Упоперак і ўдоўж.*
*Сюды ідуць на мітынг*
*Ці толькі град і дождж?..*

*2*
*На рагу іскры палка*
*Выкрасае трамвай.*
*Еш салому, а палкай*
*Хвост па-воўчы трымай!*

*Счыніш шчыльненька вочы, —*
*Ажно ціш зазвініць! —*
*Каб на плошчы па-воўчы*
*На ўвесь свет не завыць.*

## Ода

*1*
*Ну хто не знае,*
*Што такое — спрынт?*
*А можа, нават і на выйгрыш собіла!*
*Ды хіба я пра спрынт?*
*Я больш — пра спрыт*
*Міліцыянтаў гвардыі*
*Асобае.*

*Мо думаеце —*
*Лапці вам пляту.*
*Ды не! Я усур'ёз і — пра спецназаўцаў!*
*Яны паложаць на слупкі пліту*
*І з выклікам глядзяць,*
*Бы з ёю дражняцца.*

*Ляжыць пліта,*
*Нібы ад танка трак,*
*Ці дзіўны шчыт, усыпаны заклёпкамі.*
*Спецназавец ілбом з размаху — трах —*
*І толькі друзкі пырснуць*
*Асялёпкамі.*

*Ды што — пліта!*
*З усмешкай на губах*
*Іх тузін пакладуць і зблочаць блокамі.*
*Кувалдай лба спецназавец — ба-бах! —*
*І зноўку пыл віецца*
*Над абломкамі.*

*Чаго дзівіцца!*
*Бо чаму бываць,*
*Таго не абмінуць і ў дні бунтоўныя.*
*Умелі мы ілбамі прабіваць*
*Не толькі пліты, і — муры*
*Бетонныя.*

*Нас клікала*
*Наперад барацьба,*
*А не раскоша з беллю паралонавай.*
*Мы важкай глыбай ленінскага лба*
*Рабілі і ў гісторыі*
*Праломіны.*

*Куранты білі*
*Над зямлёй: дзінь-бом!*
*Мільгаў світанак крыллем сівагракавым.*
*А мы у кожны дзень уласным лбом*
*Бесперастанку гакалі*
*І гракалі.*

*З галоў нярэдка*
*Змёўшы картузы,*
*Паклоны білі тым, што намі правілі,*
*Не толькі набіваючы гузы,*
*А ўшчэнт разбіўшы мазгаўню,*
*Як правіла.*

*2*
*Не толькі лбы,*
*І мужнасць я цаню.*
*Ды калі біць, як нас вучылі, планава, —*
*Даўным-даўно кітайскую сцяну*
*Разбілі б мы з паднебнымі*
*Манбланамі.*

*Ды ўсё ж, былі*
*Мы болей, чым рабы*
*Па-сатанінску марксавай утопіі.*
*Таму і, разбіваючы ілбы,*
*Вярталіся мы ў нетры*
*Дапатопныя.*

*Як блазны,*
*Не вылазілі з-пад куль,*
*На чацвярэньках поўзалі пад мінамі,*
*Б'ючы ілбамі ў догмы, аж пакуль*
*Не ўбіліся мы ў яміну*
*Памыйную.*

*Газет падшыўка —*
*Дзён былых альбом,*
*З радкамі і рабымі фатакарткамі.*
*Ці ж я святы? Хіба не біўся лбом,*
*Хаця, бывала, найчасцей*
*Украдкаю.*

*Дзень за акном,*
*Нібыта мёд, загус.*
*Дармо, што у жыцці вакол бязладзіца,*
*Я мацаю свой лоб, — магчыма, гуз*
*На ім дасюль па-здрадніцку*
*Скулаціцца?*

*Кажу сабе:*
*Ва ўсім упарты будзь,*
*І гэткі лоўкі, як і лоўчы з лоўчымі!..*
*А покуль што ілба кувалдай б'юць*
*Спецназаўцы, на друзкі пліты*
*Ломячы.*

## Адносна вайны

*1*
*Без канца тараторылі —*
*Хіба можна забыць? —*
*На чужой тэрыторыі*
*Будзем ворага біць!*

*Засцярогі гасподняе*
*Не пачулі праз сквіл.*

*Сорак першы у споднікак*
*Бег да самай Масквы…*

*2*
*Пакручастаю лініяю,*
*Зрыўшы дол травяны,*
*Легла Сталіна лінія —*
*Здзек з апошняй вайны.*

*Гляне пільна гісторыя*
*З грэбня мудрых вякоў:*
*Гэта што — бутафорыя*
*Для нямых слепакоў?*

## Дыпціх-II

*1*
*Дарма, што крыўлякі са сцэны*
*Лухты напляялі карабы,*
*І ў крамах драпежныя цэны*
*Ўстаюць, як звяры, на дыбы, —*

*Трыбуны галёкаюць: — Шайбу! —*
*Дзяруць сабе глотку і рот,*
*Каб круглая штучка, як жаба,*
*Патрапіла ў пашчу варот.*

*2*
*Транспаранты не пыляцца, —*
*Енчаць так, што лісце — з крон!*
*Па лядоваму палацу —*
*Ў кожны горад і раён!*

*Не залепіш рот ім скотчам.*
*Пра уздым крычаць і ўзлёт.*
*Немаўля з калыскі ўскочыць*
*Дый за клюшку і — на лёд!*

* * *

*На цэлы свет*
*Мы славімся давільняю.*
*Што столькі нацадзіла нам пітва!*
*Але прайдзіся Кіевам ці Вільняю, —*
*Не п'е ні Украіна,*
*Ні Літва.*

*Калі ў душы*
*Жыве з уладай злагада,*
*Ці трэба енчыць роспачна і выць?!*
*Хіба адны лясныя толькі ягады*
*Давільняй можна ціснуць*
*І давіць!*

*Хай гэта будуць*
*Проста грушы з вішнямі*
*Гатункаў розных, спеласці любой, —*
*Няўжо не ціснем так, як ціснуць іншыя,*
*А давім іх, як быццам*
*Са злабой?!*

*Каго ў трамваі*
*Ці ў метро не крыўдзілі*
*Дый не згіналі у баранаў рог?!*
*Апрыклі даўкі, без канца абрыдзелі, —*
*Хоць не ступай і кроку*
*За парог!*

*Чаго хаваць?*
*Калі не будзе літасці, —*
*Давільня вечна ў люда на віду! —*
*То ёю можна нават лёгка выціснуць*
*І з жарсцвяка счарствелага*
*Ваду.*

*І страх і жах,*
*Калі няма аддушыны*
*І горла душыць смагі ўжо рука.*
*У кожнай даўцы нешта ёсць бяздушнае,*
*Як над слабымі здзек*
*Здаравяка.*

*Век рэвалюцый*
*Адышоў ды выліняў.*
*Каму ён трэба? Для мышэй рудых!*
*А ці не час расстацца і з давільняю,*
*Каб хоць на момант перавесці*
*Дых?*

* * *

*У цемрадзь ноч нырне, нібы пад воды.*
*І ўспыхне зарапад, як феерверк.*
*Ды высвеціць сярод двара падводу,*
*З аглоблямі ўскінутымі ўверх.*

*Між іх павісне месяц адшчапенцам.*
*І ўміг табе, магчыма, неўпапад*
*З нагамі прыгажуня прычаўпецца,*
*І — дрыжыкі прахопяць аж да пят.*

ВЕРШЫ

# ПАД КРЫЖАМ ЧАТЫРОХ ВЯТРОЎ

Алена НІЯКОЎСКАЯ



* * *

*Слязою скаціўся дождж*
*На захад, у хмары спавіты.*
*Стаю на зямлі басаногк —*
*Там, дзе буяла жыта.*

*На полі стаю адна.*
*Аржонне мне коле ногі.*
*А недзе звініць струна —*
*Шчэ не канец дарогі…*

**Верасень 2012**

* * *

*Я іду басаногк па вуголлі ўспамінаў,*
*Маіх слёз не хапае*
*пякучы агонь затушыць.*
*Мілы Божа! Навошта мяне ты пакінуў?*
*Калі я вырашала — як быць і як жыць?..*

### З Ежы Фіцоўскага

*У нецярплівасці ветру*
*Кашуль успуджаных плойма:*
*ключы белага лопату,*
*асенняй бялізны*
*адлятаюць да цёплых краёў.*
*Гэй, рукавы пустыя,*
*Таньчце на мокрых вяроўках!*
*Не адпачываюць*
*Чырвоныя рукі прачак.*

*У цяпліцах нашых,*
*у клетках рэбраў*
*шумяць:*
*Тунісы колераў,*
*Алжыры папугайскія,*
*Аравіі фінікавых вярблюдаў.*

*З памяці творым сны,*
*з кардону цвярозых уяўленняў,*
*з лёгкай паперкі фантасмагорый,*
*і не можам у іх паверыць.*

*Найранейшыя*
*ідылічна-ілювіяльныя*
*на сценах мелавога перыяду:*
*бразготкі-балбатушкі,*
*мядзведзі ружовыя,*
*сонцы ў палаючых вейках,*
*расхінутых шырока,*
*кругі лагодна-рахманыя,*
*упартыя трохвугольнікі —*
*яны й сёння свецяць, клічуць,*
*тупочуць, коцяцца*
*праз дня агонь,*
*праз вугаль ночы,*
*нібы Мысы Страчаных Надзеяў.*

*Адлёты, адлёты,*
*ад лета да лета*
*адлятаем да цёплых краёў,*
*да незваротных даляў…*

*І толькі боты, боты,*
*боты зямныя*
*на прывязі нас трымаюць.*

### Мае староны свету

*Чую ваш спеў, чужыя рэчы,*
*але не паддамся спакусе.*
*На заклік старон,*
*на буркаванне прадметаў*
*накіну, як на кенара клетку,*
*хустку маўчання.*

*Баюся — мяне не хопіць,*
*баюся, бо, можа, загіну,*
*расстраляны лішніцай прадметаў*
*пад крыжам чатырох вятроў.*
*Пакіньце мяне ў старонах свету,*
*дзе мой дом, дзе мая сядзіба.*

*Растуць тут паветры,*
*адмераныя маім дыханнем,*
*расце тут агонь мой,*
*яго я чытаю з гарэзы іскры*
*да сівога вуголля,*
*растуць тут мае сталы:*
*яшчэ не скончана праца,*
*ці мог бы я іх пакінуць?*

*Растуць тут мае клады:*
*імбрык — які спяваў,*
*свечнік — які плакаў,*
*цэгла — якая маўчала,*
*чалавек — які быў.*

*Ці можаце іх замяніць —*
*рэчы яшчэ мне чужыя?*

*Чакаю вас у старонах свету,*
*дзе мой дом, дзе мая сядзіба.*

АПАВЯДАННЕ

# УСІМ ВІНАВАТЫ

Мікола ІЛЮЧЫК

Паміраў Юзік доўга і пакутліва. Здавалася, балела кожная часцінка, кожная клетачка яго старэчага цела. Быў ціхі вечар. Позняя восень, але яшчэ не зіма. Марозіла. Нават вецер прыціх за акном, каб не замінаць дыханню стомленага жыццём чалавека.

Юзік ляжаў на скамечаным ложку. Ад натопленай з вечара печы веяла цяплом. Але яно ўжо не саргравала.

Чалавечы подых станавіўся з кожным разам радзейшым, грудзі ўзнімаліся зусім слаба. Праз нейкі момант наступіла абсалютная цішыня. Але не надоўга. Праз нейкае імгненне шкрабанула ў закутку мыш, за печчу распачаў сваю адвечную песню цвыркун, а ў коміне адазваўся вецер.

Раніцай Юзікаву хату прачыніла суседка. Пераканаўшыся, што суседу ўжо не патрэбна ні тая хата, ні тое, што ў ёй, зрабіла тое, што робяць у падобных выпадках — паклікала суседак. Такіх жа старэнькіх, як сама, і ўжо разам падрыхтавалі нябожчыка да пахавання. Пляменнік з далёкага канца некалі вялікай вёскі купіў труну. А на наступны дзень нешматлікія жыхары старога і выміраючага паселішча пахавалі Юзіка на вясковых могілках. Ціхі шэпт векавых сосен быццам агучваў нейкія развітальныя словы. А сухі і кароткі гук малатка паставіў апошнюю кропку на зямным жыцці яшчэ аднаго чалавека.

Усе ведалі: недзе далёка ёсць у Юзіка адзіны сыночак, якога разам з Гантоняй, дзесяць год як нябожчыцай, выпрасілі ў Бога недзе пасля пятнаццаці гадоў сумеснага жыцця. Сын з'ехаў даўно, і ніхто не ведаў, як і куды паведаміць таму пра смерць бацькі...

Калі Юзік, ужо безнадзейна хворы, ляжаў на сваім ложку, то не аднойчы ўзгадваў пра свайго Косціка і разважаў пра сваю ўласную гаротную долю. Жахліва ляжаць аднаму, доўгімі днямі і бясконцымі начамі разважаць аб тым, што ты знямоглы, хворы і нікому не патрэбны. З гэтымі думкамі, мабыць, і пайшоў Юзік з гэтай зямлі. А можа, яму гэта так толькі здавалася? Але не ўсё так дрэнна, пра Юзіка памяталі і нават нешта хацелі ад яго.

Першымі азваліся да Юзіка сувязісты. У пустой, астылай хаце доўга звінеў тэлефон. Па некалькі разоў на дзень цішыня парушалася гарэзлівым дзыньканнем тэлефоннага апарата. А недзе праз месяц у паштовую скрынку легла паперка-папярэджанне аб тым, што тэлефон будзе выключаны, калі ён тэрмінова не аплоціць доўг за мінулы месяц, ды яшчэ пеню за пратэрміноўку. І сапраўды — адключылі. Апарат заціх назаўжды. Бо Юзік не заплаціў. Тэлефонная сувязь яму ўжо была непатрэбна.

Яшчэ прыкладна праз тыдзень Юзік стаў вінаваты камунальнікам. Яны па тэлефоне спрабавалі паведаміць Юзіку пра тое, што ён стаў злосным неплацельшчыкам і ягоны доўг за вываз смецця не такі ўжо і малы. На тэлефанаванні камунальнага дыспетчара ніхто не адказваў, і ў паштовую скрыню зноў легла папярэджанне-пагроза пра тое, што за вываз смецця трэба абявязкова заплаціць у самы кароткі тэрмін. У горшым выпадку з яго будзе спагнаны штраф. Ага, возьмуць яны той штраф!

Праз некалькі дзён у тую ж паштовую скрыню лёг буклет і запрашэнне ў нейкую фірму. Камерсанты абяцалі Юзіку змяніць драўляныя вокны ў ягонай хаце на якасны пластык з вялікай зніжкай, як пенсіянеру.

Прайшло месяцы з тры, як пайшоў Юзік у лепшы свет. Энергетыкі заўважылі ў сваіх кампутарных базах, што перастаў Юзік плаціць за спажываную электраэнергію. Хоць спажываў яе на нейкія капейкі за месяц. Драбяза. Што там мог напаліць Юзік са сваімі дзвюма цьмянымі лямпачкамі? Прыехалі электрыкі — хата на замку. «Зараз мы навучым старога, як не плаціць своечасова за электрычнасць», — гучна прамовіў дзяцюк у сіняй спецвопратцы свайму напарніку і ўскарабкаўся на слуп, што стаяў побач з Юзікавай хатай. Пстрыкнуў кусачкамі, і пара алюміневых дратоў бліскучай стужкай упала на зямлю.

Банк запрасіў Юзіка перааформіць рахунак. Там ужо тых грошай. Некалі клаў Юзік грошы на кніжку. Меркаваў, што Косціку знадабяцца. Марыў, што ажэніцца сын ды парадуе старых унукамі. Але сын не ехаў і нават не азываўся, дзе ён і як ён. Гантоня першая сыйшла, а грошы рознымі дэвальвацыямі і дэнамінацыямі ператварыліся ў труху. Цяпер вось запрашаюць перааформіць рахунак у ашчаднай касе. Але там, дзе цяпер Юзік, грошы непатрэбны. Ніякія — ні малыя, ні вялікія.

Напярэдадні Дня перамогі пра Юзіка ўзгадалі дактары. З нагоды юбілею перамогі старому, як ветэрану вайны, было прапанавана прайсці медыцынскі агляд, а таксама, калі патрэбна, зрабіць пратэзіраванне зубоў. На адмысловым бланку чырвоным маркерам былі выдзелены словы «з'явіцца абавязкова». Канешне ж, нягледзячы нават на суровае папярэджанне, ніяк Юзік не мог аддаць сваё скалечанае і схуднелае цела медыкам на гэтае абследаванне.

Напачатку лета Юзіку прыйшло чарговае запрашэнне. У ім паведамлялася, што ў чэрвені (была пазначана дакладная дата) Юзіку належыць прыйсці на выбарчы ўчастак нумар 969 і прагаласаваць на выбарах. З некалькіх кандыдатаў трэба было выбраць самага правільнага прэзідэнта, які будзе кіраваць краінай наступныя пяць гадоў. Юзіку і пры жыцці было ўсё роўна, хто там і кім кіруе. Цяпер жа ён — жыхар зусім іншай краіны. А калі настаў дзень тых самых выбараў, то старшыня выбарчай камісіі (не парабляць жа спісы!) укінула бюлетэнь за Юзіка ў чырвоную скрынку, папярэдне паставіўшы птушачку насупраць самага лепшага з кандыдатаў у прэзідэнты.

Нехта разбіў шкло ў шыбе, ці можа само трэснула ў перакрыўленай раме. Пра гэта паведамілі Юзікаваму пляменніку. Той прыехаў з возам дошак і пачаў забіваць вокны. Скончыўшы працу, зазірнуў у скрыню, што вісела на плоце побач з брамкай. Дастаў усю макулатуру, увесь хлам — тыя нікому непатрэбныя паперкі. Сярод іх ляжаў канверт. Гэта быў ліст ад Косціка. Мужчына дрыготкімі пальцамі разарваў яго і дастаў ліст, напісаны акуратным почыркам. Сын паведамляў Юзіку, што жывы і здаровы. Прабачаўся, што доўга не паведамляў нічога пра сябе. Пісаў, што вяртаецца з нейкай доўгатэрміновай экспедыцыі і, атрымаўшы ільготную пенсію, будзе жыць у вёсцы разам з бацькамі, дагледзіць іх да скону, няхай не хвалююцца, а можа — адорыць і ўнукамі.

Пляменнік пачухаў патыліцу. Эх, Косцік, Косцік...

▸ АПАВЯДАННЕ

# ЖАБРАК

Ёнас БІЛЮНАС — летувіскі пісьменнік, публіцыст, палітычны дзеяч канца XIX–пачатку XX стагоддзя. Пачынальнік літоўскай лірычнай прозы.

Жыў у Шаўляй, пасля ў Лейпцыгу вывучаў літаратуру. У 23 гады захварэўшы на сухоты, быў вымушаны пераехаць у Цюрых. Там пачаў шмат пісаць, перш за ўсё — малую прозу. Найбольш знакамітыя яго навэлы — «Жабрак», «Светач шчасця», «Злодзей», «Палка», «Канец Брысюса», «Патрапіў» і іншыя.

Кнігі Ёнаса Білюнаса вылучаюцца тонкім разуменнем чалавечай душы, лірызмам, элегічным настроем, майстэрскім стылем. У іх асаблівую ролю мае апавядальнік, які выказвае маральныя погляды аўтара. У цэнтры яго навэл — нікому не патрэбныя, пакрыўджаныя, адрынутыя героі, людзі, для якіх няма месца ў жыцці.

У больш позніх творах пісьменнік пераходзіць ад тэмы няроўнасці і сацыяльнай крыўды да экзістэнцыяльных тэм: кантраст старасці і маладосці, адносіны паміж злачынствам і пакараннем, мімалётнасць шчасця, прыгажосць і сэнс самаахвяравання.

«Крытэрый усёй маёй працы — сумленне», — казаў Білюнас. І дадаваў: «… сваім сумленнем і поглядамі не гандлюю».

Цяжкая хвароба яшчэ больш паглыбляла яго адзіноту. Пасля абвастрэння сухотаў Ёнас Білюнас вярнуўся на Радзіму. Ён адчуваў сябе ўсё горш, але пісаць працягваў. Апошні яго твор — «Сумная казка» — быў часткова напісаны рукой жонкі Юліі, пад дыктоўку.

У канцы 1907 года Ёнас Білюнас паехаў лячыцца ў мястэчка Закапанэ, але хвароба перамагла — пісьменнік памёр там жа, на жончыных руках, ва ўзросце 28 гадоў.



**Ёнас БІЛЮНАС**

Прыехаўшы з чужыны ў Летуву, у адзін прыгожы дзень я ляжаў у брата на ганку і ўдыхаў слабымі грудзьмі пахкае ад квітнеючых дрэваў паветра. Прыемны заходні ветрык, які шапацеў у лісці дрэў, абдуваў мой лоб, гладзіў валасы, быццам вельмі па мне сумаваў і прагнуў сустрэцца. Я слухаў, як у садзе кукуе рабая зязюля, весела вухкае удод, піў грудзьмі вясновае паветра і блукаў вачыма па Святым узбярэжжы, дзе цвітуць прыгожыя чаромхі, дзе па начах звіняць салаўіныя песні… Паўсюль прырода прыгожая, але ў родным краі яна прыемная, дарагая, песціць сэрца. Цяпер разумею, чаму салдат, вярнуўшыся дадому, са слязьмі на вачах укленчвае і зямлю цалуе. Замілаваны быў і я, хоць не салдатам вярнуўся дадому.

Нечакана чаму гляну ўбок і пабачыў сівога старога, які набліжаўся сцежкаю. З-за агародж з маладых дубкоў я не мог добра яго разгледзець, нават не мог бачыць, ці то быў жабрак, ці то проста чалавек, бо ішоў ён, не абапіраючыся на палку, не так, як умеюць хадзіць жабракі.

Падышоўшы да брамкі, спыніўся баязліва, неяк не наважваючыся яе адчыніць; пасля, пабачыўшы мяне ляжачага, яшчэ больш сумеўся і дрыготкім голасам запытаў:

— Ці можна сюды ўвайсці?

— Можна, можна, — адказаў я, назіраючы за ім, — вельмі просім.

Стары дрыжачымі рукамі адчыніў брамку і ўвайшоў у двор. Быў гэта жабрак. Праўда, ён не меў вялікай палкі з жалезным наканечнікам і пугі, не быў такі смелы, як часта бываюць смелыя нашы жабракі. Але гэта быў жабрак, бо нёс за плячыма кош, праўда, зусім яшчэ пусты.

На ганку стары зноў баязліва спыніўся, не ведаючы, куды падзецца.

Паколькі ў хаце нікога не было — усе паехалі садзіць бульбу і я адзін застаўся дома — я папрасіў старога прысесці на ганак. Ён сеў і, схіліўшы галаву, пачаў гаварыць пацеры…

Не ведаю, чаму мне падалося, што і пацеры ён гаворыць не так, як жабракі звыклі гаварыць. Бывалы жабрак як кажа, то як гарох сыпле, ці, зноў жа, распеўна, жаласна, дзе патрэбна, цягне ці дадае голасу. А гэты стары гаварыў зусім так, як гаворыць чалавек нешчаслівы, — ціха, дрыготкімі вуснамі; месцамі ён зусім не мог гаварыць, быццам яму хто горла сціскаў; я бачыў толькі, як яго вусны яшчэ больш трэсліся, трымцелі; у яго голасе некалькі разоў, зусім, здаецца, нечакана, так балюча загучала струна горычы і страшнага няшчасця, што мяне ўзялі дрыжыкі. Гледзячы на яго, я пабачыў, што праз маршчыністы высахлы яго твар коцяцца горкія слёзы…

— Чаго вы слёзы льеце? — запытаў я нявеила старога, калі ён скончыў маліцца.

Ён падняў на мяне чырвоныя ад слёз вочы без веек і хацеў нешта сказаць, але словы не выходзілі з рота, толькі балюча затрымцелі вусны. Я здрыгануўся: яго твар падаўся мне ўжо бачаным, толькі дзе і калі — я не мог прыгадаць.

— Як не ліць? — вымавіў нарэшце стары, — цяжка па дварах першы раз хадзіць.

— А адкуль вы? — запытаў я здзіўлена.

— З Паварэс. Пятрас Сабалюнас… мо прыгадаеце?

— Дзядзька Пятрас?! — ускрыкнуў я, умомант пазнаўшы чалавека, які сядзеў насупраць мяне.

Абапёршыся локцем на падушку, я здзіўленымі вачыма глядзеў на старога. Як гэта? Пятрас Сабалюнас, якога я з самага маленства ведаў як багатага, заможнага чалавека, які быў найлепшым суседам маіх бацькоў і пчаляром, цяпер жабрак?

Розныя няшчасці прыходзяць да чалавека ў гэтай юдолі слёз, але такі выпадак, раптоўны і нечаканы, быў мне зусім незразумелы. Праўда, як памерлі мае бацькі, Пятрас Сабалюнас перастаў наведваць наш дом, ды і я, з'ехаўшы вучыцца, якіх пятнаццаць гадоў яго зблізку не бачыў; але зрэдку прыязджаючы на радзіму, заўсёды чуў, што Пятрас Сабалюнас жыве як і жыў, добра і шчасліва, што сваіх дзвюх дачок ужо аддаў замуж і адных толькі пчол кожнай даў па дваццаць вулляў…

Патрэбна згадаць, што Пятрас Сабалюнас вельмі любіў пчол. Жыў ён на хутары, за дзве вярсты ад нашай сядзібы, на самым узлеску. Зямлі ў яго было не так і шмат, але пчол — мноства. Толькі ў сябе дома меў каля сотні вулляў; столькі ж у сваіх суседзяў і сяброў. Некалькі такіх вулляў было і ў маіх бацькоў. Помню, як мы, малыя дзеці, радаваліся, пабачыўшы, што да нас ідзе Сабалюнас: як толькі ён паказваўся летам, мы ведалі, што будзе збор мёду і што кожны з нас атрымае ад дзядзькі Пятраса па немалому кавалку сотаў з духмяным мёдам. І атрымлівалі! Сабалюнас малых дзяцей любіў не менш за пчол; таму падчас збора мёду і быў аблеплены не толькі пчоламі, але і дзецьмі. І што варта ўвагі — пчолы ніколі яго не чапалі! Гаварыў ён пра пчол, як пра якую святыю, вельмі дарагую чалавеку рэч, і заўсёды сцвярджаў, што пчолы толькі тады будуць ладныя і добрыя, калі пчаляр не скнара і не зайздроснік. Таму кожнаму, з кім сустракаўся, ніколі не забываўся даць мёду…

Такі вось быў чалавек Пятрас Сабалюнас. І цяпер ён сядзеў перада мной — жабрак, з кашом.

— То у вас, можа, дом згарэў ці зямлі больш не маеце? — не вытрымаў я, запытаўся.

— Ёсць і дом, і зямля…

— Дык чаму ж вы жабруеце?

— Сын выгнаў… — толькі вымавіў стары, як горкія слёзы пачалі ліцца з яго вачэй.

Зразумела… сын… Я ўзгадаў, што Сабалюнас меў адзінага сына, майго аднагодка; узгадаў, як з тым сынам падчас збору мёду бегалі, схапіўшыся за рукі, смокчучы мёд з сотаў… Гэта быў сябар майго маленства, з якім я пазней ніколі болей не сыходзіўся…

— Дык ваш сын мо ўжо сваіх дзяцей прычакаў? — запытаўся я.

— Мае трох, — дрыготкімі вуснамі адказаў стары, — ужо чацверты год, як я яму ўсё аддаў. Нікога так не шкадую, як яго дзетак… Так я іх любіў!... Спалоханыя, вялізнымі вачанятамі праводзілі мяне, як ішоў са двара… А можа, і яны калі-небудзь так выганяць з дому свайго бацьку… — І на вачах старога зноў паказаліся слёзы.

— А ў дачок вы прытулку не знайшлі?

— Які там у іх прытулак! У іх мужніны бацькі яшчэ жывыя, — а яны толькі сваіх мужоў і любяць. Няма мне там месца. Ведаеш, стары чалавек паўсюль не любы…

— Няўжо паўсюль?..

— Э-э… Ці не памятаеш старой казкі?.. Пасадзіў раз сын сівога бацьку на саначкі і вязе з дому, а яго малы сынок ззаду пабег. Адвёз бацьку ў лес, высадзіў яго пад сасной, а санкі побач кінуў. І ідзе дадому. Тут малы сынок схапіў яго за руку, не пускае і просіць: «Татка, татка, навошта ты саначкі пакінуў? Я ж не буду мець, на чым цябе сюды прывезці…». Бачыш: не старога, толькі санак пашкадаваў. Гэта не казка, а праўда: не адзін, пасталеўшы, хацеў бы як мага хутчэй сваіх бацькоў з дому вывезці, толькі не наважваецца або сорамна. Але ёсць такія, што і сораму не маюць…

— А як пчолы? — узгадаў я.

— Так… — перавяліся, — толькі пяць вулляў і засталося: дзе жывое сварка, там пчолам не месца.

— Дык дзе вы цяпер жывеце?

— Нідзе… Як выгналі, узяў кош, ды і сам не заўважыў, як сюды прыйшоў… Усё, можа, і атрымаю месцейка ў якога… бабыля… Няшмат мне патрэбна…

Я зразумеў, што непрыгожа так распытваць чалавека — толькі даймаць… Успомніў, што трэба яму нешта даць — і адчуў, што змяніўся з твару. Нічога я пры сабе не меў; нічым не мог аддзячыць таму старому, які столькі разоў даваў мне, малому, поўныя мёду соты, які выпэцканымі ў мёдзе рукамі не раз гладзіў мяне па галаве…

Падняўшыся, я знайшоў нож і пайшоў у клець; адтуль вынес вялікую лусту хлеба.

— Прабачце мне, што нічым не магу вам дапамагчы, — сказаў я, увесь чырвоны, падаючы старому лусту хлеба.

Схіліўшы нізка-нізка сівую галаву, быццам хаваючы ад мяне свой твар, ён падзякаваў ціхім голасам і дрыготкімі рукамі ўзяў хлеб: перахрысціў яго і паклаў у кош.

Я бачыў, колькі болю, колькі пачуццяў выклікала ў яго грудзях тая першая луста хлеба, якую ён папрасіў у чужых. Збянтэжаны, я не ведаў, што сказаць, і зноў пачаў — зусім не да месца — прасіць у старога прабачэння, што нічым не магу яму дапамагчы: адчуваў, што частку вечнай віны дзяцей і я нашу ў сабе.

— А чым ты мне дапаможаш? Я нічога болей ад цябе не магу патрабаваць, — адказаў ужо спакойным голасам Сабалюнас, так, што і мне спакайней стала, — мае дні нядоўгія, няшмат іх засталося, а шмат мне і не трэба… пражыву… Чуў, і ты хварэеш? — запытаўся ён у мяне.

— Прыхворваю… — адказаў я, — прыехаў на радзіму адпачыць.

— Тут паправішся, як будзеш па сасонніку гуляць, — падбадзёрыў мяне стары, — гэтую хваробу ты ў горадзе прыдбаў; гэта ад вучобы і пылу… Каб у ксяндзы пайшоў, можа, цяпер здаровым быў бы… Але Бог не кожнаму Дух святы дае, нават і вучонаму…

Кажучы так, стары ківаў сваёй сівой галавой. Пасля развітаўся са мной і пайшоў з двара. Я чуў, як за брамкай ён пачаў уголас маліцца за тых, хто з ім сябраваў і рабіў яму дабро…



**Нюроніс, 8.VI.1906**

**Пераклала з летувіскай Сюзанна Паўкштэла**

ЛІТПАРТРЭТ

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЗНАК

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

**У паэта Эдуарда Акуліна ёсць верш «Лён», твор навальнічнага зместу.**

Універсальнае гучанне!

Твор, можна сказаць, пра ўсё, а таксама ж і пра тое, што жывём, страчваючы Беларусь, аднак жа рух нашай штодзённай страты мае і станоўчую якасць: усё ж такі мы ёсць; гінучы, не гінем…

«Лён» Эдуарда Акуліна існуе не ў бібліятэчным паветры, а ў сэрцы кожнага, хто разумее паэзію.

А паэзія часцей за ўсё знаходзіцца не ў празаічнай дакладнасці, а ў неверагоднасці — у тым «… нябёсным полі…», у якім лён не рвуць, а жнуць; у якім скрываўлены вуж і не вуж, а развітальны верш.

Гэты паэтычны цуд, як лёд ляза, пакладзены на вену!

Такое кінжальнае адчуванне пакідае ў душы «Лён» Эдуарда Акуліна…

Калі мяне просяць назваць любімыя паэтычныя творы — адразу ж называю «Лён», а таксама ж і гэты брыльянт, які змешчаны ў кнізе Эдуарда Акуліна «Непрычалены човен» і мае нязвыклую назву «Азаімія»:

*Прылягуць вятры*
*між азяблых аблок,*
*а за імі й я прылягу…*
*Азаімія —*
*заінелы радок,*
*што з завейнага вынік ранку.*

*Азаімія —*
*сноў зазіміны.*
*Азаімія —*
*снегаспеў.*
*Азаімія —*
*даль задымлена*
*і зазімлена неўспадзеў.*

*Прачнуцца вятры*
*і здзівяцца,*
*а за імі й я — услед.*
*Азаімія —*
*песня зімняя,*
*мной прыдуманы вершасвет.*

Зайздросны гэты вершасвет, бо створаны (ці прыдуманы!) згодна законаў паэзіі…

Сутнаснае можа і не супадаць з вонкавым, таму, чытаючы паэтычную кнігу, заўсёды думаю пра воблік таго, хто стварыў гэту кнігу.

Шукаю адпаведнасць (ці неадпаведнасць!) паміж вершамі і паэтам.

Гэтак жа раблю, скажам, і калі чытаю прозу або слухаю музыку, але паэзія найбольш схіляе да зганадага пошуку, бо яна — паэзія…

Паэт Эдуард Акулін з выгляду заўсёдны юнак — стройны ў хадзе, эстрадны, рацыянальны, аднак жа ў яго творчасці (пры допусцімай меры элегантнай эстраднасці!) разумовых схем і блізка няма.

Вершы «Лён», «Азаімія», «Каханне» (іншыя карціны падобнага гучання!) якраз пра тое і сведчаць.

Цалкам працытую і яшчэ адно класічнае прамаўленне паэта, як сімвал узорнай творчасці — «Ной»:

*Сорак раз пасылаў сякеру*
*у сваты да сырых камлёў*



*і каўчэг будаваў свой з веры,*
*што ўратуе жыццё Любоў.*

*Давяраўся, як брату, зверу,*
*з птушкай раіўся, як з сястрой,*
*і каўчэг будаваў свой з веры*
*у Гаспадняе слова Ной.*

*Моўчкі зносіў людскія кпіны:*
*— Дзе ты плаваць сабраўся, Ной?*
*І ў каўчэг запрашаў расліны,*
*як паломнікаў, на пастой.*

*Перамогшы ў вайне з Патопам,*
*здзейсніў Госпадаў запавет…*
*І — ужо не з нуля, а з Ноя*
*нарадзіўся нанова свет!*

Якая змястоўная экспрэсія!

Усё саткана, складзена, сфармавана хоць і з бачнай матэрыі, але няўлоўнымі рухамі — нібыта стварылася само па сабе.

А гэта першая прыкмета сапраўднай паэзіі!

Эдуард Акулін — не эпік, ягоныя творы зазвычай кароткія, бываюць нават і ў адзін радок, як верш «Раман»: «Любая — шчасце маё агнягубае!»

Радкі паэта часам нагадваюць імгненную падрыхтоўку да стрэлу і сам стрэл:

*Ніколі нічога*
*не позна рабіць —*
*жанчыну кахаць*
*і Радзіму любіць.*
*(«Не позна»)*

Пераважна з асанансымі рыфмамі, не апісальныя (без так званай высокай прозы!) вершы Эдуарда Акуліна — трапныя, беларусацэнтрычныя і заўважна пафасныя.

Паэт не баіцца быць пафасным, тэатральным у прамаўленні, як і не баіцца згубіць дакладную рыфмоўку, якая, як вядома, не з'яўляецца гарантыяй паэзіі.

Цікава і тое, што пры выразнай беларусацэнтрычнасці — у творах паэта часта сустракаюцца імёны персанажаў грэчаскай міфалогіі — Пігмаліён, Арфей, Афрадыта, Харон, Ясон; імёны персанажаў біблейнай міфалогіі — Адам, Каін, Варава, Ліліт; упамінаюцца таксама і гістарычна-знакамітыя асобы — Понцій Пілат, Лаура…

Зноў жа вельмі часта згадваюцца славутыя ўсходнія і заходнія творцы — Ду Фу, Басё, Гамер, Паганіні, Міцкевіч, Пушкін, Шапэн, Сезан, Радэн, Верлен, Гаген, Ван Гог, Лорка, Далі, Джон Ленан…

У сапраўдных паэтаў выпадковых згадак не бывае!

Сусветныя імёны, якія ўпрыгожылі сабой розныя эпохі, спатрэбіліся Эдуарду Акуліну дзеля таго, каб чытач адчуў бясконцасць беларускага культурнага поля; каб чытач сам сказаў: яно такое вялікае, што яму свецяць ужо і чужыя зоры!

І свецяць, вядома ж, і зоры блізкія!

Вось чаму ў сваю апошнюю па часе стварэння кнігу «Малітва воч» Эдуард Акулін увёў (бліскуча пераклаўшы!) і вершы ўкраінскіх паэтаў…

Апошняе, што я чытаў у яго перакладзе з украінскай паэзіі — вершы Ліліі Залатаношы («Літаратурная Беларусь»). Неверагодна страсныя творы спадарыні Ліліі (а яны такія, што ад пачуццёвай асалоды задыхнуцца можна!) Эдуард Акулін узняў на вышыню адпаведнай беларускай жарсці!

Асаблівасць ягонага таленту яшчэ і ў тым, што яму ў аднолькавай ступені падуладна слова — як сцэнічнае, так і пісьмовае.

Паэт умее апавядаць; жывое слова для яго — тая ж творчасць!

За адзінаццаць гадоў працы ў філіяле музея Максіма Багдановіча «Беларуская хатка», Эдуард Акулін правёў каля 10000 экскурсій і паказаў больш за тысячу батлеечных спектакляў!

І калі гаварыць пра сённяшняе наша адраджэнскае падзвіжніцтва, то якраз у ліку першых трэба назваць імя Эдуарда Акуліна! Ён безліч разоў прайшоў-праехаў па ўсіх беларускіх шляхах, на яго вандроўным рахунку сотні і сотні (палічыць немагчыма!) выступленняў перад самымі рознымі чытацкімі (і нечытацкімі!) аўдыторыямі, і заўсёды ён прыносіць беларускай душы, якая ўпарта забываецца на сваю беларускасць, мову Янкі Купалы, мову Максіма Багдановіча…

Невыпадкова кніга «Малітва воч» пачынаецца згадкай пра самы запамінальны вобраз Максіма Багдановіча:

*На маланкавы кій у высі,*
*як манах, абапёрся страх…*
*У глыбінях нябёс згубіўся*
*Страцім-лебедзь — біблейскі*
*птах…*
*(верш «Пачатак»)*

І невыпадкова ж гэты вобраз з'яўляецца і ў іншым творы:

*Хто не ў Ноеў каўчэг паверыў,*
*а даверыў свой лёс Страціму…*
*Памаліся за ўсіх нас, Вера,*
*бо не помнім — куды ляцім мы…*
*(верш «Памаліся…»)*

І зноў жа невыпадкова паэт звяртаецца да Багдановічавай «Пагоні»:

*Я на сэрцы выкаваў Пагоню!*
*Я пагоню ў сэрцы пасяліў…*
*І цяпер у сэрцы маім звоняць*
*шчыт і меч — аж пырскі да крыві…*
*(верш «Жыві!»)*

Згаданы матыў набывае і сэнс гістарычнага абагульнення:

*Каб вызваліць нас ад здрады*
*Максім тут прысніў Пагоню.*
*Сто год як лятуць атрады*
*насустрач Крывіцкай волі…*
*(верш «О, Вільня!»)*

А ў дарожнай імпрэсіі «Вяртанне» чытач знойдзе горкі напамін пра аднятую Пагоню…

Максім Багдановіч — скразная тэма Эдуарда Акуліна!

Калі ласка, прачытайце вершы «Ткачы», «Сердалікавы ранак», «Я хацеў бы…», «Кроў Хрыста», «Крылакрыж», «Было…» — і вы зразумееце, што гэта так!

Я сказаў: Эдуард Акулін — юнак з выгляду, аднак жа трэба яшчэ сказаць, што ён мае характар зубра!

Цвёрды характар — у адстойванні беларускага слова, і, спадзяюся, характар мяккі — у сямейным жыцці…

Паэт нарадзіўся ў веткаўскай вёсцы Вялікія Нямкі, што на правым беразе Бесядзі, — і ў гэтай вёсцы, і ў гэтай рацэ бачыцца тое, што звычайна называюць жывучасцю, вынослівасцю, а то і ўпартасцю…

Не, не згіне беларускі свет, і мы не згінем, бо мы з той зямлі, якая, нягледзячы ні на што, усё ж такі не аддае на загубу карані свайго духу!

Я бачыў вёску Вялікія Нямкі, быў у школе, у якой вучыўся Эдуард, пазнаёміўся з яго настаўнікам Пятром Паўлавічам Раманавым. Спадар Пятро выкладаў родную мову і літаратуру, і менавіта ён першы пахваліў свайго вучня за верш, складзены па-беларуску!

А было гэта тады (нагадаю!), калі ўсеахопна панавала тэорыя аб гістарычнай супольнасці «савецкі народ», мовай якога, вядома ж, у бліжэйшым будучым (ну, так гадоў праз дваццаць-трыццаць!) павінна была канчаткова стаць расійская!

Такая палітыка асабліва старанна ўкаранялася ў Беларусі, і ў выніку месца беларускай мове заставалася ўсё менш і менш.

Як, дарэчы, і цяпер…

І вось тады, у той час, і школьніку, які пачынаў пісаць па-беларуску, і настаўніку, які хваліў за беларускае, — неабходна было мець у душы высокі нацыянальны знак!

Дзякуй Богу, што так і было…

Дзякуй Богу, што наша нацыянальнае жыццё развівалася насуперак усялякім дырэктыўным тэорыям!

І гэтак жа развіваецца…

У 1980 годзе Эдуард Акулін, студэнт Гомельскага ўніверсітэта, напісаў сваю першую песню (зноў жа па-беларуску!) і ў тым жа годзе заснаваў музычны гурт «Баскі».

Такая дзіўная назва склалася з літар, з якіх пачыналіся прозвішчы ўдзельнікаў гурту — Бяляцкі, Акулін, Скачынскі, Кавалёў…

І вось з таго часу стварэнне песень літаральна захапіла паэта, музыка дала слову новую ўпэўненасць, новую надзею, і, магчыма, незаўважна для самога сябе Эдуард Акулін стаў спеваком-паэтам — бардам і менавіта ў гэтай якасці здабыў вядомасць.

Знаўцы гітарнай паэзіі слушна лічаць яго заснавальнікам беларускай аўтарскай песні!

Трэба сказаць, што яго музычныя творы падабаюцца моладзі, вучні гімназій і каледжаў выконваюць іх на сваіх канцэртах; аднойчы я быў сведкам таго, як у Менску вулічны музыка, студэнт БДУ, натхнёна спяваў адну з акулінскіх песень.

Дарэчы, у Лунінецкім раёне ёсць школы, якія ў якасці сваіх гімнаў выбралі песні Эдуарда Акуліна…

У самым пачатку 1990-х, у высокую пару нашага апошняга па часе Адраджэння, у рамантычных душах сярод іншых прыгожых з'яў запанавала і крыўская тэорыя Вацлава Ластоўскага. Згодна яе мы, беларусы, павінны вярнуцца да свайго сапраўднага нацыянальнага наймення — Крывічы.

Гэтак лічыў і Уладзімір Жылка.

Пад магічны заклік В. Ластоўскага на нейкі час трапіла і паэзія Рыгора Барадуліна, а таксама ж пісьмо іншых паэтаў і празаікаў.

У 1995 годзе Эдуард Акулін выпусціў магнітаальбом «Мая Крывія», а ў 2008 годзе адзін са сваіх кампакт-дыскаў назваў «Песні залатой Крывіі».

Можна сказаць, што і ён — не крывіч, дарэчы, а радзіміч! — далучыўся да распаўсюду крыўскай тэорыі аўтара «Лабірынтаў», ва ўсякім разе пачаў папулярызаваць этнонім Крывічы!

Не, ажыццяўляць задуму В. Ластоўскага не збіраўся, бо навошта адмаўляцца ад тэрміна Беларусь?!

Беларусь — прыгожае слова, аднак жа хай будзе і адроджаная ў памяці Крывія — гістарычнае люстэрка Беларусі!

Паважлівыя адносіны да культурнай спадчыны ўласцівы як творцу Э. Акуліну, так і выдаўцу Э. Акуліну — галоўнаму рэдактару адметнага часопіса «Верасень».

Гэты слаўны часопіс, дарэчы, вельмі патрэбны той творчай моладзі, якая настройвае сябе на сур'ёзную літаратурную работу, і Э. Акулін, як рэдактар, шукае юных творцаў па ўсёй Беларусі, выхоўвае іх і вучыць рамяству гэтак жа настойліва, як у даўнія часы майстры выхоўвалі і вучылі чаляднікаў…

Нашаму барду ўласціва і крэда купалаўскага гусляра — не спяваць угодліва, ліслівa, бо, сапраўды ж, гуслям не пішуць законаў! Таму яго музычныя творы непадуладныя выгадзе, яны служаць вялікай і заўсёды небяспечнай беларускай ідэі!

Як, напрыклад, вяршынная песня «Янка Купала»! Яна прымушае згадаць аднайменны твор Уладзіміра Някляева на музыку У. Будніка.

Трэба прызнаць: лепшых песень пра народнага песняра, чым гэтыя, у нас няма…

Песенныя тэксты Э. Акулін уключае ў свае кнігі, і гэтыя тэксты, застаўшыся без мелодыі і вакалу, не губляюць сваёй глыбіні…

Ёсць такія тэксты і ў новым зборніку паэта «Малітва воч» — тыя ж дзівосныя песні «Дараванне» і «Залатая мая».

Былі песенныя вершы і ў кнізе «Радно», наклад якой, надрукаваўшы, цалкам знішчылі яшчэ ў друкарні (засталося адно некалькі паасобнікаў!).

Чаму знішчылі, спытаеце?

Ды таму, што паэт Э. Акулін адзін са сваіх вершаў прысвяціў паэту Нілу Гілевічу!

Вядома, лёс «Радна» быў бы іншы, каб Эдуард Акулін умеў ісці насуперак сваім перакананням!

Аднак жа паэт не здраджвае сабе, таму лёс «Радна» такі…

А які лёс чакае новыя выданні юбіляра — выданні, разлічаныя на ўвагу разумных людзей, на адкрытыя нацыянальныя душы?

Лёс біблейскіх аліў…

Лёс глыбіні сярод глыбіняў…

Лёс цымбальнага слова…

РЭЦЭНЗІЯ

# ПІСЬМЕННІК ЖЫВЕ ДОЎГА

Уладзімір ДАМАШЭВІЧ

**Не так даўно я атрымаў бандэроль з Баранавіч, мне блізкага горада. Гэта была кніжка Венанцыя Бутрыма пад назваю «Маўклівыя сумныя птушкі», аўтара таксама мне знаёмага. А прыслала кніжку жонка (на жаль, ужо ўдава) Венанцыя Бутрыма Інэса Паўлаўна. Ёй параіла гэта зрабіць Данута Бічэль, з якою яны перапісваюцца…**



Венанцый Бутрым

Кніжку прыемна ўзяць у рукі: яна ў мяккай вокладцы, у каляровым афармленні, на першай і апошняй старонках вокладкі — карціны Венанцыя, які быў мастаком, паэтам і празаікам.

Я яго ведаў як празаіка, і было гэта даўно. У той час я працаваў у часопісе «Маладосць», мы надрукавалі яго першае апавяданне «Ліпеньскім днём» (1976 год), – добрае, цікавае апавяданне.

Праз пэўны час В. Бутрым праслаў у рэдакцыю невялікую аповесць пад назваю «Апошні эшалон». Аповесць таксама нас зацікавіла, яна, як і апавяданне, была з трагічнаю канцоўкай: малады хлопец, падлетак, падрывае на станцыі ў горадзе нямецкі эшалон з цыстэрнамі гаручага і сам гіне.

Але бяда была ў тым, што ў аповесці прыкідаліся цьмяныя мясціны, правалы, недагаворкі, аповесць патрабавала дапрацоўкі. Я адправіў В. Бутрыму рукапіс у Баранавічы, чакаў, калі ён яе дапрацуе і верне, аднак – не дачакаўся.

Мо аўтар пакрыўдзіўся на мяне, палічыў мае заўвагі прыдзіркамі, а мо па якой іншай прычыне – аповесці назад мы не атрымалі. Воля аўтара...

А цяпер, прачытаўшы аповесць у кнізе «Маўклівыя сумныя птушкі», я ўбачыў, што В. Бутрым дапрацаваў аповесць, яна стала глядзецца як дасканалы мастацкі твор, які ўражвае чытача, хвалюе, бярэ за душу. І галоўнае — што аўтару верыш, перажываеш за юнага героя Юліка Корду як за самога сябе.

Мне, старому рэдактару, здавалася нават, што аўтар спісаў усе падзеі з самога сябе, хоць фізічна гэтага не магло быць, бо ў той час, калі гэта адбывалася, яму самому было ўсяго менш як дзесяць гадоў.

Добрая рэч не псуецца і не старэе, а пісьменнік, калі і пакідае гэты свет занадта рана, застаецца з намі і жыве доўга, ажно датуль, пакуль яго кніжкі выходзяць і чытаюцца, пакуль светлы агонь яго душы не пагасне і будзе саграваць душы многіх пакаленняў чытачоў…

Герою аповесці Юліку Корду па тэксце – гадоў пятнаццацьшаснаццаць, гэта падлетак, кемлівы і смелы. Ён перажывае некалькі цяжкіх момантаў, трапляе ў нямецкі лагер для рабочай сілы, дзе былі і палонныя, уцякае з яго, а потым вяртаецца зноў, ужо з заданнем узарваць эшалон. І ўсё гэта паказана вельмі пераканаўча, рэалістычна, бо ў дзеяннях маладога героя няма ні кроплі фальшу ці падробкі.

Тое ж самае можна сказаць і пра апавяданні «Ліпеньскім днём» і «Юнгі», якія напісаны, па словах жонкі пісьменніка Інэсы Паўлаўны, з аповеду сталяра, які працаваў з маладымі мастакамі ў майстэрнях мастацкага фонду, быў прататыпам Сымона, але, на шчасце, застаўся жывы, не ўзляцеў у паветра разам з замініраваным немцамі грузавіком.

Бачанае, чутае, перажытае — так можна сказаць пра ўсе рэчы, якія ўвайшлі ў зборнік «Маўклівыя сумныя птушкі». Гэта нават больш мастацкія, мастакоўскія замалёўкі, чым апавяданні ў нашым успрыняцці.

Пра гэта добра напісаў у прадмове да кнігі яе рэдактар Барыс Пятровіч (Сачанка): «Аднак, чытаючы Венанцыя Бутрыма, я, можа, упершыню гэтак моцна і ясна адчуў перавагу слова над фарбай. І, мне падаецца, зразумеў — чаму ўсё ж застаючыся мастаком, ён стаў яшчэ і празаікам, паэтам: бо фарбы маўчаць, а словы — гавораць, гутараць з чытачом, гучаць спевам птушак, гоманам дубраў, посвістам ветру...».

Нібы ў пацвярджэнне гэтых слоў, прывяду ўсяго адзін абзац з апавядання «Ліпеньскім днём» — як ідуць танкі — трыццаць-чацвёркі: «Насцярожанымі стальнымі джаламі вышукваючы на гарызонце ім адным вядомыя і бачныя цэлі, яны ішлі з вялікімі інтэрваламі. Ад узнятага пылу бальшак пашыраўся, быццам ператвараўся ў нейкі казачны шлях, што вядзе толькі наперад... Не стане пад выблішчанымі цяжкай работай тракамі гэтага перамолатага жалезам жвіру — і яны, не мяняючы цэнтру цяжару і не шукаючы крыл, неўзаметкі ўзнімуцца і панясуць далей і далей пераможны свой лёскат. Туды, за гарызонт, дзе ўсё пагрымвае, скаланаючы далячынь нізкімі хрыпатымі ўсплёскамі, дзе зямля, якая адгукаецца сваім бязмежным і халодным целам, паенкае і ціха стогне, не можа змоўчаць, не падзяліцца з наваколлем тым цяжарам, які ёй прыходзіцца несці».

Такі малюнак можна стварыць толькі словамі, бо фарбамі ён будзе зусім бедны і бледны, да таго ж — нерухомы.

Добра і нават вельмі добра, што В. Бутрым меў талент рэнесанснага складу, што ён, як той музыка шырокага профілю,мог сесці за адзін інструмент, за другі, за трэці — і выліць душу да дна, чаго нельга зрабіць толькі на адным інструменце.

Проста нельга ўстрымацца, каб не выпісаць такое лірычнае адступленне — думкі аднаго з герояў апавядання, які сам трапіў у смяртэльную небяспеку: «...Ну што ж ты, поле, такое абыякавае да нас, людзей? Мы без цябе не можам, а ты — знаеш толькі свае вёсны і зімы, завеі і навальніцы... Мы спім, забыўшыся на свае радасць і боль, а ўжо золак ціха адкрыў вочы, каб бачыць цябе, твае травы, адзінокія камяні, пакінуты да раніцы плуг, яшчэ сонныя скібы (як солодка дасыпаць у развітанні са сном!), глядзіць, ціхі і задуменны, на пліску, што спрабуе нясмела галасок, бо ўсё і ўсе, да часу прыцішыўшы ў сабе рух і гук, чакаюць: вось абрынецца хмара, пачатак жаданага ліўня!.. А ён ужо тут: і жмені першых, цяжкіх і цёплых кропель, і ўжо шум, роўны і магутны, затапляе ўсё навокал. І ты, поле, не раз, як і мы, зведаўшы смагу, п'еш, п'еш, п'еш. І толькі слухаеш, як звыклую музыку, блізкія і далёкія перуны».

Так думае-разважае ў В. Бутрыма звычайны селянін, але думкі яго паэтызаваныя, узвышаныя, тонка завостраныя, калі можна так сказаць, — тут лёгка можна пазнаць за імі самога аўтара — мастака, паэта, а потым ужо празаіка, які знайшоў патрэбныя словы, каб на паперы перадаць тонкі зрух чалавечай душы, як казаў некалі Кузьма Чорны.

Трэба прызнаць, што не так гэта проста зрабіць шараговаму майстру пяра, для гэтага трэба мець вялікі вопыт і тонкі густ, пільнае вока, якое бачыць не толькі тое, што ляжыць на паверхні – і яго бачаць усе, але і тое, што схавана глыбока.

Менавіта такім пранклівым паўстае перад намі пісьменнік у сваіх апавяданнях і нарысах на старонках усёй кнігі, такі ён у апавяданнях «Магілка», «Хата», «Юнгі» і іншых, такі і ў творах на расійскай мове, якіх набіраецца цэлая траціна. Пісьменнік у іх не змяніўся, а застаўся такім жа, які і быў: тая ж філасофская разважлівасць, няспешнасць, той жа рытм і ход думак герояў, а калі чытаць уголас, то можна падумаць, што гэта пераклад з роднай мовы.

Чаму так атрымалася, ведаў толькі сам аўтар, гэта яго права...

Апавяданне «Маўклівыя сумныя птушкі» нібы трохі вырываецца з усяго строю зборніка, хоць гэта звычайны эпізод ці здарэнне ў жыцці героя апавядання Віктара Ковеля. Аднак і ён здзіўлены: недзе тут блізка ля іх брыгады, якая займаецца перавозкай-перагрузкай нейкіх там кантэйнераў, часам прылятаюць дзіўныя птушкі, даволі вялікія, серабрыста-шэрага колеру, ляцяць незвычайным строем — у выглядзе арбалета са стралой, або проста крыжа, ляцяць моўчкі, без усякага гуку, часам садзяцца адпачыць дзе-небудзь на дрэва, сядзяць нядоўга — і зноў у дарогу. Ужо пайшлі пра іх розныя пагалоскі, што высушанае іх цела, асабліва галава і ногі, высушаныя і сцёртыя ў парашок, лечаць тубэркулёз, сіфіліс і іншыя цяжкія хваробы. А птушка павінна быць забіта бяскроўна, бясшумна... і па яе згодзе! Вось тут і была галоўная загвоздка: як гэта можна атрымаць яе згоду? Па позірку, ці што? Вочы ў іх вельмі выразныя, вялікія, як чалавечыя...

Вось з-за гэтай цікаўнасці, а не з-за чаго іншага, Ковель рашае здабыць хоць адну птушку. У часе свайго дзяжурства, узброіўшыся бумерангам сваёй работы, ён ідзе да таго грэцкага арэха, што веерам раскінуў сваю крону, на якой расселіся птушкі — маўклівыя і невядомыя. Ён падыходзіць блізка да дрэва, замахваецца, але рука ў яго як вывіхнулася ў плячы, бумеранг паляцеў не ўгару, а ўніз. Ён бліжэй падыходзіць да дрэва, хоча ўзлезці на яго, каб схапіць якую птушку, але дарэмна: яны нібы адчулі небяспеку і тут жа, як па камандзе, залопалі крыллем і ўзняліся ў паветра. Толькі іх Ковель і бачыў!

Такі вось тэкст, а які ж падтэкст? Мне здаецца, што аўтар хацеў сказаць важную для нас ідэю: нічога лёгкага і простага ў жыцці не бывае, нас калечыць і лечыць усё тое, што на зямлі, побач з намі, сярод нас, і не трэба спадзявацца на нейкі цуд, які зваліцца на нас з неба і зробіць нас здаровымі і шчаслівымі. Але людзі такія — шмат хто верыць у цуд. Ну і няхай верыць, мо так і лепш...

Дзіўна тое, што аўтар і сам верыць у цуд, некаторыя яго апавяданні прасякнуты гэтаю верай, хоць часам яго герой не паспявае дасягнуць свае выратавальнай мэты і гіне па дарозе да яе.

Усё, пра што піша В. Бутрым, яму блізкае і дарагое, усё ён прапусціў праз сваё сэрца, праз сваю свядомасць, ён жыў жыццём свайго героя, фактычна гэта быў ён сам, асабліва ў яго падарожных нататках — па мясцінах свайго маленства, па нейкіх патрэбах, якія прымушаюць чалавека некуды ісці, ехаць, нечага шукаць, з некім сустракацца і гаварыць.

Мне асабліва спадабаліся яго падарожныя замалёўкі, калі ён ехаў недзе ў мой Клецак ці ў мае Ляхавічы, па тых мясцінах, па якіх ездзіў і хадзіў я сам. І некаторыя мясціны я пазнаваў у яго аповедах, хаця населенага пункта ён, як правіла, не называў. Напрыклад, ён апісвае гісторыю, якая адбылася ў вёсцы Аліхоўцы ў Ляхавіцкім раёне на самым пачатку вайны, калі нямецкія войскі няспынныя калонамі кіраваліся на ўсход. У гэтай лясной вёсцы нямецкая вайсковая адзінка спынілася на кароткі час. Нечакана прагучаў далёкі стрэл, і куля снайпера прабіла шыю нямецкаму унтэр-афіцэру, які сядзеў у кабіне вайсковага грузавіка. Унтэр тут жа сканаў. Такога немцы не маглі дараваць, за аднаго свайго салдата яны забівалі дзесяць невінаватых мясцовых людзей. Так яны зрабілі і ў Аліхоўцах. Прайшоўшы па хатах, яны ўзялі дзесяць чалавек, пераважна маладых хлопцаў і мужчын — Іванаў, як яны казалі; гэта было якраз на Купалле, на Яна. Праўда, два былі не Іваны, але за кампанію пайшлі і яны... Адвёўшы трохі за вёску, Іванаў расстралялі з кулямёта, а целы забітых загадалі не чапаць, каб усе пабачылі, як немцы помсцяць за смерць сваіх салдат.

Я сам ведаў пра трагедыю ў Аліхоўцах, але пра тое, што забіты быў нямецкі унтэр, ніхто не казаў. У кнізе «Памяць» пра Ляхавіцкі раён змешчана кароткае апавяданне Аляксея Пятуха «Кукавала зязюля...»— у ім таксама не гаворыцца пра смерць нямецкага унтэра.

Толькі ад свайго земляка В. Бутрыма я даведаўся праўду!

А ўзяць геаграфію-тапаграфію рэгіёна! Колькі знаёмых і блізкіх мне назваў сустрэнеш на старонках яго нарыса! Проста можна заслухацца, як любімай мелодыяй: Лотва, Туркі, Дарава, Аліхоўцы, Канюхі, Жарабковічы, Зубелевічы, Федзюкі... (У дужках хачу заўважыць, што на тытуле кніжкі ёсць азначэнне жанру – эсэ, хоць гэта фактычна ёсць нарыс, а французскае слова тут зусім лішняе, бо яно нам нічога не гаворыць.)

Што і казаць, Венанцый Бутрым закрануў глыбока мае пачуцці. Нібы зноў праехаў ці прайшоў па тых дарогах, па якіх даваўся хадзіць і ездзіць калісьці, у маладыя гады. Ды і цяпер, ужо на старасці год, хоць і зрэдку. Цягне мяне ў Баранавічы: там у мяне шмат сваякоў, сяброў і знаёмых, некаторыя ўжо там, за даляглядам...

А што да пачуццяў, то кніга «Маўклівыя сумныя птушкі» закранула, думаю, не толькі мяне. Можна толькі пашкадаваць, што яна выйшла такім мізэрным тыражом — 300 асобнікаў. Хоць... ужо адно тое, што кніга трапіць у бібліятэкі, калі-небудзь, я ўпэўнены, будзе перавыдадзена, – яна не пастарэе, а абновіцца, і па ёй, як па даведніку, будуць узнаўляць нашу геаграфію, гісторыю краю, які гэтулькі перажыў, як і тыя людзі, што тут жылі — тады – і жывуць цяпер, а мінулае забываецца… Ажно не: вось яно зафіксавана, на белай паперы — каб мы памяталі і не забывалі. Бо гэта ўсё наша, каб не сказаць словамі героя апавядання: «Ну што ж ты, поле, такое абыякавае да нас, людзей?» — разумеючы пад полем, хутчэй за ўсё, нашу рэчаіснасць.

...А з апошняй старонкі вокладкі глядзіць уважлівымі цёмнымі вачыма хударлявы мужчына сярэдняга веку з апушчанымі на паўлоба чорнымі валасамі, сур'ёзны, з велікавата-кручкаватым носам, з прыцярушанымі сівізной невялікімі вусамі, з яшчэ больш сівым падбароддзем, якое, аднак, не ператасае ў бараду, у шэрым свэтры, стаячы каўнер якога шчыльна аблягае шыю, у цёмным пінжаку, уважліва глядзіць трохі збоку і нібы кажа: «Вось і ўсё, што я хацеў вам пакінуць, мае шаноўныя чытачы. Калі спадабаецца — буду рады».

17.09.2012

ДЫСКУРС

# «ВЕЛІЧ ВЫСОКАГА ДУХУ»

Анжэла МЕЛЬНІКАВА

**(Леанід Галубовіч. З гэтага свету. Вершы пасля вершаў. Мінск, «Кнігазбор», 2012 (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»)**




Удумваючыся ў напісанае Леанідам Галубовічам, перачытваючы яго «Зацемкі», натрапіла на такое назіранне: «Жанчына, як крытык, не больш чым белетрыст. У іх ад прыроды не крытычная логіка, яна ў іх мацярынская, а значыць, суб'ектыўная». Такім чынам, мае суб'ектыўныя нататкі пра паэта…

Леаніда Галубовіча паважаю за шчырасць, імкненне (і здольнасць) пры любых умовах заставацца самім сабой, не падрабляцца пад сітуацыю, густы і т. п. Паважаю, што не належыць ні да якіх груповак: навошта разменьвацца на часовае. У адным са сваіх вершаў паэт наступным чынам выказаўся адносна паэзіі: «Быць не галоснай, а чуйнай».

Ён не крыклівы. У яго вершах адсутнічае заігрыванне з чытачом. Л. Галубовіч не шукае таннай папулярнасці. (Вядомая ісціна: чым менш таленту, тым больш крыку.) Можна ўспомніць дакладную ацэнку Л. Галубовічам сённяшняй нашай літаратурнай і калялітаратурнай сітуацыі: «Іерархію і вядомасць (ад слова весці) вызначаюць не аб'ектыўнасць незалежнай крытыкі (ці хоць бы яе незалежная суб'ектыўнасць), а паспешлівыя і прагматычныя высновы і ацэнкі абслугоўваючай касты літаратурных журналістаў (не толькі ў літаратурна-мастацкіх, але і ў перыядычных грамадска-палітычных СМІ) разам з прабіўнымі магчымасцямі і кар'ернымі здольнасцямі саміх паэтаў (барацьба за выступы, выезды за мяжу, міжнародныя стыпендыі, прэміі, выданні, пасады)…» (Галубовіч Л. Вакол першай кніжкі Віталя Рыжкова // «Дзеяслоў», 2011, № 4).

Дакладна сказаў пра Л. Галубовіча ўдумлівы Ціхан Чарнякевіч: «Адмаўленне мішуры».

Думаецца, невыпадкова Л. Галубовічу належыць верш «Паэзія», які сёння стаў класічным:

*Ты — боль, паэзія. Ты — быль.*
*Твае суровыя законы*
*Не для забаў, не для гульбы —*
*А пошук ісціны да скону.*

Паэту, які сказаў «Ты — боль, паэзія», які піша «зболеным сэрцам / словы крывёю на венах» — вершы. Гэты матыў творчасці як наканавання, як болю, пастаянна праходзіць праз усё напісанае Л. Галубовічам: «Паэзія патрабуе ўсяго Чалавека. Без астатку» (Галубовіч Л. Недавершаная Беларусь / «Дзеяслоў», 2003, № 2).

Верш, таму што Паэт свядома адмовіўся ад Паэзіі, калі палічыў, што Муза яго пакінула. Учынак, які сведчыць пра сур'ёзнае стаўленне да творчасці. У інтэрв'ю Міхасю Скоблу Л. Галубовіч патлумачыў: «А што да канкрэтнага адказу, то скажу шчыра: я на той час быў абсалютна ўпэўнены, што як паэт выдыхся — ні запалу, ні натхнення, ні энэргіі. Таму — і кінуў пісаць вершы». А мог бы выдаваць на-гара вершаваную прадукцыю, каб заставацца на слыху. Запалі словы Л. Галубовіча пасля зборніка «апошнія вершы леаніда галубовіча»: «Можаш не пісаць — не пішы». Вось гэта падыход сапраўднага Паэта. І вярнуўся да паэзіі, калі не змог не пісаць. Паблажлівае пакепліванне пасля такой красамоўнай назвы зборніка можна было прадбачыць.

Вызначальнае ў новым зборніку Л. Галубовіча «З гэтага свету» — роздум над сэнсам і сутнасцю ўласнай творчасці, сутнасцю Паэзіі ўвогуле: «Творца і літаратар адрозніваюцца тым, што адзін жыве для таго, каб пісаць, а другі піша для таго, каб жыць» (З «Зацемкаў».)

Вядома, што паэзія — не толькі культурная з'ява, але і парыў (і прарыў) да трансцэндэнтнага, вышэйшага:

*тая, што ў неба пралом*
*пагляды кідае*
*і ловіць маланкі клінок*
*натомленым духам…*

Сутнасць паэзіі — невымоўнае, невытлумачальнае, тое, што «па-за», жаданне знайсці «завязь сутнасці жывога», «мяжу, дзе дух стае над плоцю». Л. Галубовіч спрабуе дашукацца да першавытокаў, звышсэнсу і адначасова жахаецца ад усведамлення немагчымасці такога спазнання:

*ды зразумеў, што чалавек*
*вышэй сябе паўстаць не можа…*

*але да самога Слова так і не дайшоў…*

Немагчымасць выказаць невымоўнае — анталагічна абумоўленая:

*Як тое словам напісаць,*
*што выйшла з-пад улады слова,*
*нібыта нешта ў сне сказаць*
*ці з будучага ці з былога…*
*Ты толькі можаш мармытаць,*
*узняўшы вочы на нябёсы,*
*нібы намогшыся спытаць*
*у Бога прапісныя лёсы.*

Рускі даследчык Юрый Казарын трапна адзначыў: «Су-творчасць Творцы і творцы (паэта) — прыкмета сапраўднасці і мудрасці».

Адсюль гэтыя, здавалася б, парадаксальныя, але выпакутаваныя высновы ў Л. Галубовіча: «…А пачынаецца паэзія там, дзе канчаецца паэт…» (З «Зацемкаў».) Адмова ад сябе, аддаласць да астачы таму голасу, які прамаўляе з табою. Гэта як з верай. Нездарма Паэты прыходзяць да ўсведамлення прысутнасці вышэйшага.

Паказальныя звароты да Усявышняга і Л. Галубовіча: «І чалавек зноў вяртаецца да свайго Бога, як да апошняй інстанцыі, да апошняй магчымай надзеі» (З інтэрв'ю М. Скоблу) («Перасыпаю плот», «Божы страх», «Госпадзе, няўжо і я ўздымуся..», «Кладуся спаць пасля малітвы», «Усе хацелі б ведаць Бога», «Са сваімі правінамі, балячкамі, бедамі»):

*Госпадзе, няўжо і я ўздымуся*
*да Тваёй паднебнай вышыні*
*і сваёй грахоўнасцю крануся*
*Боскай першароднай чысціні?*

Сур'ёзнае стаўленне Л. Галубовіча да паэзіі — ад усведамлення, што яна — сувязь з нявыказаным, вопыт душы, «боская паднебная мова»: «Бо верш — гэта твая душа, дух твой, твая зямная сутнасць, тваё чалавечае апраўданне перад небам (Богам)» (з «Зацемак»). А душа — несмяротная. Душа — голас Бога.

Ментальны, ідэйны, эмацыянальны пасыл паэтычнага зборніка «З гэтага свету» сканцэнтраваны ў яго назве. Паэты (не літаратары), прарываючыся ў сферы неспазнанага, непазбежнага імкнуцца спасцігнуць апошнюю таямніцу. За якой і пачынаецца вечнасць. Роздумы пра тое, што пасля зямнога быцця, не даюць спакою Л. Галубовічу. Адсюль і пакутлівыя разважанні паэта пра сутнасць паэзіі, пра лёс творцаў («Усе мае лепшыя вершы», «Нічога я не запісаў», «***так я сыходзіў ад вершаў», «Усё, што з гэтай звязана зямлёй», «Беспрытульныя словы»), пра наканаванасць паэта быць абраным, быць Прарокам, пакінуць пасля сябе «веліч высокага духу». Але заплаціць за тую абранасць належыць дорага:

*Стыў у ягоных зрэнках жах,*
*бо кожны раз праз церні цноты*
*уласны ён адольваў страх*
*сваёй трагічнай адзіноты.*

Цытата — з верша «Даўно ні мамы, ні Сыса».

У зборніку «З гэтага свету» Л. Галубовіч звяртаецца да лёсаў нашых паэтаў трагічнага кону, «дачасна памерлых з паэтаў тутэйшых»: А. Сыса, М. Стральцова, М. Купрэева. Падобныя звароты сугучныя роздумам з кнігі «Сыс і кулуары»: «Вялікія Паэты (Прарокі) заўжды блізкія да Бога. І якімі б багахульнікамі перад людзьмі іх не выстаўляў непрадказальны лёс, усё адно на паэтычнай споведзі, як на вышэйшым Судзе, ім выбачаюцца многія зямныя грэхападзенні за ўзвышэнні духоўныя. Часавае ачышчаецца вечным… Дый наўрад ці хто яшчэ так адчувае ўласны вырак, як сапраўдны Паэт. І не толькі свой вырак. Таму кожная нацыя жыве чаканнем *Паэта* (вылучана Л. Галубовічам — А. М.). Бо ў ім і праз яго яна бачыць самую сябе. Але як толькі ён з'яўляецца — нацыя жахаецца, бо тое, што яна бачыць у ім і чуе ад яго, страшыць. Яна не хоча даваць веры ўласнаму адлюстраванню».

Адсюль і пякельны роздум над лёсам сваіх твораў:

*Усе мае лепшыя вершы*
*са мною павінны памерці,*
*калі ж я сканаю першы,*
*то вы ім паверце…*

Вядома, што глыбіня створанага вымяраецца глыбінёй асобы творцы. Сам Л. Галубовіч на гэты конт выказаўся наступным чынам: «Значнасць мастака і яго творчасці роўназначныя яго ўнутранаму духоўнаму свету» («Сыс і кулуары»). Калі аўтару ёсць што сказаць: «Каб пісаць вершы, больш таго, тварыць паэзію, трэба жыць надзвычайным, неардынарным жыццём, перш за ўсё ўнутраным».

Назвы раздзелаў зборніка — «Нада мною», «Пра мяне», «Са мною», «У маіх», «Маё», «Мае», «Мая» — выразна ўказваюць, што ў кнізе перададзены глыбока асабістыя перажыванні. Відаць, таму адносна кнігі паэт выказаўся: «Ну і вось маю такі боль».

Л. Галубовіч — творца, які расце. Расце не ў шыркі, а ўглыб. Адсюль і ўдумлівасць, і важкасць ягоных твораў: «Гэта зборнік маіх духоўных пошукаў сваёй чалавечай існасці» (з інтэрв'ю М. Скоблу). Паэт дбае не пра вядомасць, а пра свой духоўны рост: «Мне ў гэтых вершах хацелася не красы і не сілы, а паразумення душы і розуму» (з інтэрв'ю М. Скоблу).

Мудрасць заключаецца ў тым, каб зразумець, што сэнс жыцця не ў задавальненні ўласных амбіцый, пошуках асалоды, нават не ў самавыяўленні, а ў тым, каб усвядоміць сутнасць уласнага паклікання і быць верным гэтаму пакліканню:

*Можна думаць пра вечнасць,*
*досведу рой абхапіўшы рукамі,*
*а можна, як аквалангіст,*
*паглыбляцца ў сябе,*
*пакуль хопіць дыхання…*

Паэты спрабуюць спазнаць асноватворнае — Жыццё і Смерць, Любоў і Каханне, Вечнасць, Дух і, урэшце, Бога. Зварот Л. Галубовіча да спасціжэння гэтых паняццяў сведчаць пра філасофска-экзістэнцыйны характар яго творчасці. А многія яго выказванні могуць стаць крылатымі: «Адданасць жа — душы выпрабаванне», «спакой згубны для творцы, // кожны верш выпальвае нервы», «самае невядомае для мяне — гэта я сам».

Знайшло ў вершах Л. Галубовіча і іманентна-ўласцівае беларускай літаратуры «благоговение» перад жыццём, паводле А. Швейцара: «я адчуваю сябе маленькай пясчынкай вялікага тварэння жыцця» (з інтэрв'ю М. Скоблу).

Л. Галубовіч — з тых творцаў, для якіх яшчэ не страцілі сэнс паняцці маралі, чалавечай прыстойнасці. У інтэрв'ю М. Скоблу паэт разважае пра «маральную і духоўную ўстойлівасць», «выжыванне ў вечным часе», пра «пошукі гармоніі паміж жыццём і смерцю, паміж зямлёй і небам»: «Бо перад сваім чалавечым конам дзень за днём раблюся ўсё больш маральным чалавекам».

Узгадваецца клопат Л. Галубовіча пра выданне (і ўшанаванне памяці) нашых «выклятых» паэтаў: Васіля Гадулькі, Міколы Купрэева, Васіля Сахарчука, Віктара Стрыжака. Збор сродкаў на помнікі. Ягоныя ініцыятыва і клопат. А можна ж было не «разменьвацца», а дбаць пра сябе і сваё…

Запомніліся яго дабразычлівыя рэцэнзіі на творы правінцыйных аўтараў. Таксама трэба было выдаткаваць і час і сілы. Водгукі Л. Галубовіча на творчасць «братоў па творчым цэху» мудрыя і аб'ектыўныя, не кан'юнктурныя: ніякага жадання дагадзіць ці звесці рахункі.

І яшчэ. Леанід Галубовіч мэтанакіравана, аддана і цягавіта працуе на беларускую справу. «Мы ж робім адну справу — беларускую!». Без залішняга пафасу, самалюбавання, як і належыць сапраўднаму мужчыну.

Скончыць гэтыя нататкі хацелася б зноў жа словамі Юрыя Казарына: «Чалавек праживае жыццё і здзіўляецца: Госпадзе! Як хутка яно прайшло… Паэт пражывае жыццё і яшчэ нешта — нешта большае: ён пражывае жыццё паэзіі, жыццё культуры… Чалавек пражывае час — свой, сацыяльны, гістарычны. Паэт пражывае час як такі, альбо — Вечнасць. Дакладней — частку вечнасці».



▸ КАЛЯДКА

# СВЯТЫ ВЕЧАР

Ларыса ГЕНІЮШ

*Каляда, Каляда, на зямлі — Святы Вечар,*
*нарадзіўся у яслях Збавіцель і Бог.*
*І пасталі бярозаў танклявыя свечкі*
*паабапал заснежаных, белых дарог.*

*Халадно. Мо таму, што зіма на парозе,*
*адчуваецца лютасць суровай пары,*
*а у полі пустым па шырокай дарозе*
*плачуць нечаму сумна ліхія вятры.*

*Чым жа сэрцы сагрэць, як той холад адужаць?*
*Ці агеньчыкам цьмяным ў сялянскім акне,*
*Калядою святой, што насуперак сцюжам*
*цеплынёй чалавечых сэрцы кране?*

*Каляда, Каляда... Нават зорам трывожна.*
*Па заблытаных сцежках крутога жыцця*
*да сваіх ў гэты вечар спяшаецца кожны,*
*дзе ў сям'і за сталом нас чакае куцця.*

*Сена пах… стаяць розныя стравы,*
*прытаміўшыся, маці шчасліва маўчыць.*
*Садзяцца сыны на шырокія лавы, —*
*сышліся дамоў, каб душой адпачыць.*

*Добра сесці разом, слязу радасці ўцерці,*
*адчуваць, што ў застоллі, што побач браты,*
*у душы чысціня і узнёслыя сэрцы,*
*бо з людзьмі разам Бог ў гэты Вечар Святы.*

*Сёння сэрцам з усімі куццю раздзяляем,*
*хто за стол наш не змог на вячэру прыйсці,*
*ўсіх далёкіх і родных сваіх ўспамінаем*
*і дабра ўсім і шчасця жадаем ў жыцці.*

*Няхай будзе вам цёпла, бы ў бацькавай хаце,*
*ў гэтым свеце шырокім, дзе столькі дарог.*
*Няхай людзі зямлі для вас будуць, як брацця,*
*і жыццёвыя сцежкі прастуе вам Бог.*

*Можа, хто занямог, можа, хто пахіснуўся,*
*загубіўшы сумленне ў нялёгкім жыцці,*
*прытаміўся ў шуканні свае Беларусі —*
*памажэце й такім на вячэру прыйсці.*

*За святочным сталом — няхай кожнаму месца*
*каля вернага сэрца сясцёр і братоў.*
*Няхай будзе у вас, як ў харошай сямейцы,*
*ўсім па роўні ў жыцці і куцця, і любоў.*

*Няхай вера ў любоў, свая мова ў застоллі,*
*а у думках — зямля, дзе спачылі дзяды,*
*няхай ўсюды ласкава спрыяе вам доля,*
*а любоў, чалавечнасць мацуе рады!*

▸ СЦЭНА

# ШЛЯХ ДА БАТЛЕЕМУ:

## СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ КАЛЯДНАЯ ДРАМАТУРГІЯ

Анатоль ТРАФІМЧЫК

**Калядная драматургія на Беларусі мае доўгую і няпростую гісторыю. Літаратурная рэлігійная п'еса паўстае ў выглядзе твораў для батлейкі. Што і няздзіўна.**

Такі тэатр быў любімы ў народзе і памятаўся яшчэ доўгі час пасля свайго знікнення: Беларусь апанавала бальшавіцкая дактрына, ваяўнічы атэізм якой не дапускаў падобнага мастацтва. Біблейская тэматыка знікае з мастацкай літаратуры і аднаўляецца толькі ў апошніе дзесяцігоддзе ХХ ст., калі прадукаванне ў беларускай культуры навагодніх п'ес значна пашыралася. Прычым увага драматургаў удзяляецца як непасрэдна святу Новага года, так і Раству. Вяртаецца і фармат традыцыйнай батлейкі.

У пачатку 1990-х гадоў Ігар Сідарук адным з першых стварыў п'есу па біблейскіх матывах. У яго «калядных настроях» «Меч анёла» (пастаўлена ў 1992 г.) зло прадстаўлена цэлым шэрагам разнастайных персанажаў. Аўтар дае мастацкую інтэрпрэтацыю падзеям, якія ўскладняюцца імкненнем цара Ірада стаць бессмяротным, у чым яму дапамагае Чарнакніжнік. У свеце зла, паводле п'есы, існуе бязлітасная канкурэнцыя: Чарнакніжнік здраджвае пры першым зручным выпадку свайму гаспадару і займае яго месца. Добрым жа людзям абараніцца ад Зла дапамагае вера ў Бога: за іх заступаецца Анёл з вогненным мячом.

Наступную апрацоўку І. Сідарукам біблейскага сюжэту — «калядную гісторыю» «Збавіцель» (1998) — крытыка палічыла не зусім удалай: няма паўнавартаснай сістэмы вобразаў і развіцця канфлікту. Твор мае асветны характар.

Яшчэ адна п'еска — «Свята Раство радасць прынясло» (2004) — І. Сідарука з'яўляецца хутчэй сцэнарыем калядкай імпрэзы. Тым не менш, у самім драматургічным тэксце створаны паўнавартасныя вобразы Гаспадара і Гаспадыні, Чорта, Казы, а таксама, безумоўна, Дзеда Мароза і Снягуркі. У дзейства «ўцягваецца» дзіцячая аўдыторыя, становячыся яшчэ адным галоўным героем.

Каляды — у аснове п'есы Сержука Сокалава-Воюша «Свецяць, свецяць зорачкі» (1993). Аўтар, акрамя традыцыйных удзельнікаў абраду калядавання, уводзіць у дзейства яшчэ некалькі фальклорных персанажаў (Немец-іншаземец, Ох, Ведзьмы-Пачвары). Падбор характараў дазваляе драматургу змадэляваць востры канфлікт і ўдала яго вырашыць. Прычым рэцыпіент не толькі назірае за супрацьстаяннем злых і добрых сілаў, але і за разгортваннем шматвяковага каляднага рытуалу.

П'еса Сяргея Кавалёва «Братка Асёл» (1997) створана па біблейскіх матывах (другая назва — «Шлях да Батлеему»). Аднак аўтар дае асабістую, арыгінальную інтэрпрэтацыю падзеям. Пратаганістам робіць звычайнага Асла, якому было наканавана выратаваць самога Божага Сына. Асёл прагне шчаслівейшай долі. І знаходзіць яе ў любові да Бога і людзей, для якіх ён становіцца выратавальнікам. Асёл праходзіць свой шлях да Бога ў прамым і пераносным сэнсе. Удаліся аўтару і характары іншых, нават эпізадычных асоб. Напрыклад, сябрук Асла Парсюк не бачыць свету далей свайго карыта, і ўрэшце ад яго Гаспадар вырашае пазбавіцца. Апошняга ж найбольш цікавіць толькі асабістая выгада, дзеля якой ён не грэбуе падманам. Крот таксама шукае Бога, але ў адваротным кірунку — рые глыбей зямлю, што прыводзіць яго да згубы…

Адроджаная калядная драматургія засведчыла, што перарыванне працэсу яе развіцця не стала пагібельным. Сучасныя аўтары надалі новае дыханне п'есам на біблейскія матывы, у тым ліку батлейцы.

Асобна з шэрагу драматургаў дня сённяшняга хацелася б вылучыць светлай памяці Сержука Вітушку. Ён прапанаваў цыкл з трох батлеечных п'ес «Казкі – жывыя батлейкі» (2011). Яго тэксты («Анёл і Чорт», «Калядны канцэрт», «Скарб на Святога Яна») характарызуюцца аўтарскай разняволенасцю ў разгортванні калізій (пры наяўнасці некаторых намінальна знаёмых па фальклорнай батлейцы персанажаў).

Першая з названых п'ес прадстаўляе спрэчку Анёла і Чорта наконт праўдзівасці Божага нараджэння. У якасці аргументаў яны клянуцца тымі часткамі сваёй істоты, якія іх найперш характарызуюць: Анёл — крыламі і німбам, Чорт — рагамі і хвастом. Персанажы п'есы маюць класічныя характары: Анёл паступае сумленна, а Чорт спрабуе хітрыць і «дастае яшчэ адзін прыхаваны хвост»…

П'еса «Калядны канцэрт» створана па матывах Раства Ісуса Хрыста. Канфлікт заключаецца ў нежаданні Чорта прыняць з'яўленне Збавіцеля. Цар Ірад таксама баіцца пасягальніцтва на сваю ўладу. Чорт ідзе да Ірада на службу, каб рукамі апошняга зрабіць «сваю справу». Ірад кліча Смерць. А яна возьмі ды прыйдзі па яго самога! Тэкст перасыпаны ўрыўкамі з рэлігійных кніг ды беларускімі калядными (і не толькі) песнямі.

У вымалёўцы вобразаў аўтар выявіў «асучасненую» фантазію. Цар Ірад, да прыкладу, выпісаны «з намёкам», аб чым сведчыць характэрная трасянка («Кругом адны ўрагі!»). Тым самым прадказваецца і ягоны канец:

«Ірад. …Слухай, смертухна-матухна, а давай пахарошаму. Ты міне цяпер не чапай, пашкадуй.

Чэрап. А ты сам каго шкадаваў? Ці ў цябе не прасілі літасці? Дык вось — і табе не будзе».

Паказальна, што Ірада з'ядаюць яго ж паплечнікі — Ваяка і Чорт.

У п'есе С. Вітушкі назіраем рэалізацыю палажэння Алега Лойкі аб тым, што «характар праяўляе сябе ў зносінах са знешнім светам, у адносінах да іншых людзей, іншых характараў»: героі паводзяць сябе дынамічна, што надае яшчэ большай святочнасці калядней урачыстасці.

Трэцяя п'еса С. Вітушкі з'яўляецца «купальскай батлейкай» (такіх у айчыннай літаратуры, пэўна, не было), створанай шляхам кампіляцыі вершаў класікаў. У ёй мы сустракаем знаёмага па папярэдніх п'есах Чорта. Умела карыстаючыся спадчыннай беларускай паэзіі, аўтар рэалізуе вядомую фабулу з продажам душы. У С. Вітушкі гандаль вядуць Хцівец і Чорт:

Хцівец.

А я — ці не мог бы прадацца вашэці,

Каб быў я багатшы ад усіх на свеце?

Чорт.

Можна. Вельмі проста. А чаму ж няможна?

Кажа Чорт у адказ і расказвае, як Хціўцу дасягнуць мэты, ад чаго апошні рады:

Хцівец.

Вы-ра-ка-ю-ся ду-шы за гро-шы,

А нашто тая душа, калі маеш барыша?

Ён выконвае інструкцыю Ведзьмы, становіцца па-чароўнаму відушчым і знаходзіць Папараць-кветку, якая адкрывае яму незлічоныя багацці. Аднак нават іх аказваецца мала, калі Хцівец з гэтай нагоды балюе, усё прапіваючы. Багацце, такім чынам, было мройным. «Канец мне на гэтым», — заключае Хцівец.

«Казкі — жывыя батлейкі» С. Вітушкі выглядаюць, з аднаго боку, як зварот да фальклорнай спадчыны і як яе мастацкае пераасэнсаванне ў ХХІ стагоддзі, з іншага боку — п'есы названага аўтара становяцца і своеасаблівым прыкладам (ці нават арыенцірам), які можна браць у разлік пры стварэнні батлеечнага рэпертуару ці падчас яго пастаноўкі. Стварэнне казак С. Вітушкам выглядае гульнёй, чаго аўтар не хавае ў падзагалоўку. Тым самым пісьменнік падае прыклад, як творча падыходзіць да вядомых матэрыялаў, каб гэта было і цікава, і сучасна.

Такім чынам, сучасныя беларускія драматургі фактычна аднаўляюць у айчынным прыгожым пісьменстве традыцыю стварэння рэлігійных п'ес. У асноўным творы згаданых аўтараў зарыентаваны на звычайны лялечны тэатр. Але і батлейцы яны будуць пасаваць. С. Вітушка, у прыватнасці, жанр сваіх драматургічных твораў менавіта так і абазначыў…

Здавалася б, п'есы па біблейскіх матывах павінны быць падобнымі. Аднак, нягледзячы на выкарыстанне ў многіх з іх намінальна аднолькавых персанажаў з тоеснымі рысамі характараў, гэта не баналізуе і не таўталагізуе творы, хаця ў большасці тэкстаў яны маюць тыповыя рысы, прадвызначаныя ўжо самой функцыянальнасцю вядомых кожнаму фігур.

Калядныя пастаноўкі пакліканы разварушыць дзятву ды, магчыма, іх бацькоў, таму і п'есы, прынагоджаныя да зімовых святаў, часта выкарыстоўваюць прыём «зацягвання» ў драматургічнае дзейства малога гледача з дапамогай, напрыклад, якіх-небудзь пытанняў да залы. Такі метад дзейсны для каталізацыі ўспрымання, бо, па сведчанні Ю. Борава, «дзеці паводзяць сябе так, быццам бы мастацкі тэкст не замкнёны ў сабе і ў яго можна ўмешвацца шляхам зваротнай сувязі».

Прадэманстраваны сучаснымі драматургамі мастацкі метад стварэння калядных п'ес — добры прыклад для пераймання (і не толькі прафесійнымі літаратарамі, але і ўсімі, хто зацікаўлены ў падобных чытанках і пастаноўках).

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

## 30 СНЕЖНЯ, НЯДЗЕЛЯ

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.10** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**06.20** Камедыя «Гусарская балада» (СССР).
**07.55** Дак. серыял «Майстар вандраванняў».
**08.30** Медычныя таямніцы.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Нашы.
**09.50** Камедыйны дэтэктыў «Зачараваны ўчастак» (Расія).



**11.00** Заўтра - гэта мы!
**11.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**12.15** Мультфільм.
**12.35** Культурныя людзі +.
**13.05** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Камедыйная меладрама «Ўсё, што нам трэба…» («Беларусьфільм»).
**17.30** Каробка перадач.
**18.00** «Еўрабачанне -2012». Канцэрт.
**18.55** Камедыя «Астэрыкс і Абелікс супраць Цэзара» (Францыя).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Камедыя «Бландынка і бландынка».
**00.20** Хакей для ўсіх.
**01.00** Камедыйны дэтэктыў «Зачараваны ўчастак» (Расія).

**ОНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Падаў леташні снег».
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.50** Фільм «За запалкамі».
**12.45** Камедыя «Дзелавыя людзі».
**14.05** Камедыя «Навагодні дэтэктыў».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** АНТ прадстаўляе: «Фактар смеху». Фінал.
**17.30** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга. Фінал.
**20.00** Контуры.
**21.05** Цырымонія ўручэння народнай прэміі «Залаты грамафон».
**00.40** Камедыя «За двума зайцамі».

**СТВ**

**06.10** «Салдаты.Прывітанне, рота, Новы год!». 2 серыі.
**08.00** Фільм «Містар і місіс Сміт». ЗША, 2005 г.



**10.10** «Аўтапанарама».
**10.40** «Вялікі сняданак».
**11.20** Фільм «Карнавальная ноч». СССР, 1956 г.
**12.50** «Добры дзень, доктар».
**13.25** Фільм «Пакроўскія вароты». СССР, 1982 г. 1 і 2-я серыі.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.50** Фільм «Вакацыі Санта Клаўса». ЗША, 2000 г.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Элвін і бурундукі-2». ЗША, 2009 г.
**22.30** Прэм'ера! «Вячэрні квартал».
**00.20** Фільм «Паглядзі на мяне». Францыя-Італія, 2004 г.

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.35** Таямніца душы.
**08.00** Камедыйная меладрама «Самотным даецца інтэрнат» (СССР).
**09.50** Тэлебарометр.
**09.55** Пазакласная гадзіна.
**10.10** Альбарутэнія.
**10.45** Жаночая ліга.
**11.15** Вышэй за дах.
**11.50** Школа рамонту.
**12.55** Пра мастацтва.
**13.25** Фантастычная камедыя «Чарадзеі» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**16.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Прамая трансляцыя.
**18.50** Суперлато.
**19.40** Спорт-кадр.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Жаночая ліга.
**21.37** «Імперыя песні». Музычна-забаўляльнае караоке- шоў.
**22.45** Вострасюжэтны фільм «Грошы на дваіх» (ЗША).

**РОССИЯ**

**07.00** Фільм «Гадкае качаня» (2011 г.).
**10.15** «Ха». Маленькія камедыі.
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.15** Фільм «Шалапутная нявестка» (2011 г.). 2-я серыя.
**14.00** Весткі.
**14.15** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**14.50** Прэм'ера. «Фокус-покус. Чароўныя таямніцы».
**15.50** Фільм «Салодкая жанчына».
**17.50** Лірычная камедыя «Аддамся ў добрыя рукі». 2008 г.
**20.00** Весткі.
**23.50** Цырымонія ўзнагароджання пераможцаў «Нацыянальнай музычнай прэміі-2012».

**НТВ**

**06.20** Вострасюжэтны серыял «Справа Крапівіных».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Жывуць жа людзі!».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.55** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** «І зноў добры дзень!».
**14.20** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**19.00** Сёння.
**19.30** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**22.25** Прэм'ера. Вострасюжэтны баявік «Зімовы круіз».
**00.10** Фільм «Крэўныя браты».

**EUROSPORT**

**00.00** Баявыя мастацтвы.
**01.00** Баявыя мастацтвы.
**02.00** Баявыя мастацтвы.
**03.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Турнэ 4-х трамплінаў.
**10.30** Біятлон.
**11.30** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Турнэ 4-х трамплінаў.
**12.15** Лыжныя гонкі: Кубак свету.
**12.45** Лыжныя гонкі: Кубак свету. Жанчыны. 2,5 км вольным стылем.
**13.15** Біятлон.
**14.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Турнэ 4-х трамплінаў.
**15.00** Лыжныя гонкі: Кубак свету. Жанчыны. 2,5 км вольным стылем.
**15.30** Лыжныя гонкі: Кубак свету. 10км. Класіка. Жанчыны.
**16.30** Лыжныя гонкі: Кубак свету. Мужчыны 15км Класіка.
**17.45** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Турнэ 4-х трамплінаў - HS 137.
**20.00** Лыжныя гонкі: Кубак свету. 10км. Класіка. Жанчыны.
**20.30** Лыжныя гонкі: Кубак свету. Мужчыны 15км Класіка.
**21.00** Спартовыя бальныя танцы: Кубак Крамля Масква.
**22.00** Фігурнае катанне: Оберстдорф - Паказальныя выступ.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Экспедыцыя прафесара Губкі», «Аблавушак», «Матыльда».
**07.45** Невядомая Беларусь: «Цівалі», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**08.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.25** «Апантаныя», дак. цыкл.
**08.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.00** МакраФон: «Белая яблыня грому», канцэрт гурта «Крамбамбуля»: ч. 2.
**18.05** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.30** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2012», канцэрт.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Польскія казкі і паданні».
**19.00** МакраФон: «Белая яблыня грому», канцэрт гурта «Крамбамбуля»: ч. 3.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.50** «Ізгоі», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**20.45** «Свята на нашай вуліцы», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**21.10** Фільматэка майстроў: «Уніз каляровым узгоркам», драма, 2004 г., Польшча.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Гомель: (8 029) 697 82 75 Аляксандр;
Магілёў: (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8029) 364 42 60 Зінаіда.

### Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
| --- | --- | --- | --- | --- |
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Кассир Всего ______

МЕРКАВАННЕ

# РУМЫНІЯ НА ПАРОЗЕ АЎТАРЫТАРЫЗМУ

**На думку еўрапейскай прэсы, апошнія парламенцкія выбары ў Румыніі далі зялёнае святло рэстаўрацыі ў краіне аўтарытарнага рэжыму. Пра сітуацыю ў Румыніі журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з малдаўскім палітолагам Максімам Кісялёвым.**




***— Рэакцыя еўрапейскай прэсы на румынскія выбары выглядае неяк дзіўна. На выбарах перамог Сацыял-ліберальны саюз (USL), які атрымаў амаль дзве трэці мандатаў у ніжняй палаце і большасць у сенаце. Здавалася, еўрапейцам трэба толькі радавацца пачатку ў Румыніі эры палітычнай стабільнасці.***

— На першы погляд, так і падаецца. Па сутнасці, за 23 гады пасля падзення камуністычнага рэжыму ў Румыніі ніколі не было стабільнай сітуацыі. Мела месца рэгулярная ратацыя пры ўладзе розных партый, якія ішлі на выбары пад папулісцкімі лозунгамі і пасля хутка гублялі папулярнасць. Практычна такі ж працэс адбываўся апошнім часам, калі электарат страціў давер да ўчарашняга куміра, прэзідэнта Траяна Бэсеску. 9 снежня USL трыумфальна выйграў выбары, згуляўшы на незадаволенасці выбаршчыкаў эканамічным крызісам і карупцыяй (хранічныя язвы румынскай палітыкі). Аднак прыход да ўлады групоўкі 40-гадовага Віктара Понта, як ні парадаксальна, пагражае яшчэ большым палітычным хаосам. Справа ў тым, што Понта ішоў на выбары пад лозунгам канстытуцыйнай рэформы. У Еўропе апасаюцца, што на нашых вачах адбываецца рымейк нядаўніх падзей у Венгрыі, дзе правая кансерватыўная партыя пасля прыходу да ўлады перапісала пад сябе канстытуцыю і прыняла шэраг антыдэмакратычных законаў.

***— Якія галоўныя параграфы ўключае ў сябе план канстытуцыйнай рэформы USL?***

— Па-першае, сацыял-лібералы збіраюцца скарачіць паўнамоцтвы выканаўчай улады на карысць парламенту. Гэтым, відавочна, яны капаюць пад прэзідэнта Бэсеску, якога Понта ненавідзіць, і ўзаемна. Так, Бэсеску падчас апошняй кампаніі адкрыта называў прэм'ера «свіннёй». Не менш правакацыйнай выглядае ідэя адміністратыўнай рэформы, мэта якой — паменшыць уплыў на румынскую палітыку этнічных венграў, якія ў некаторых раёнах складаюць большасць выбаршчыкаў і, адпаведна, фармуюць мясцовыя органы ўлады. Новая нарэзка адміністратыўных акругаў гарантуе павелічэнне міжнацыянальнай канфрантацыі.

***— Як ставіцца да ідэяў кабінету Понта венгерская меншасць?***

— У Румыніі пражывае каля 1,4 мільёна этнічных венграў. Гэта каля 6 працэнтаў выбаршчыкаў. На палітычным узроўні іх інтарэсы прадстаўляе Дэмакратычны саюз венграў Румыніі (UDMR), які ўзнік яшчэ на хвалі паўстання супраць Чаўшэску ў 1989 годзе. У дэмакратычнай Румыніі UDMR змог дабіцца шматлікіх бонусаў для венграў у сферы культурнай аўтаноміі (адукацыйная сістэма на месцах, правы на выкарыстоўванне венгерскай мовы як афіцыйнай), аднак галоўная мэта — тэрытарыяльная аўтаномія — застаецца недасягальнай. Гэта, дарэчы, прывяло да таго, што на мінулых выбарах упершыню за галасы венграў змагалася таксама партыя, якая абяцала венграм аўтаномію. Праўда, венгры, нягледзячы на частковае расчараванне UDMR, галасавалі па-старому. «Аўтанамісты» не набралі нават працэнта.

Яшчэ адзін важны момант: UDMR у акіяне румынскай палітычнай анархіі здаецца нейкім сімвалам стабільнасці: пачынаючы з 1996 года, каб адстойваць інтарэсы венгерскай грамады, партыя ўваходзіла ў склад усіх кабінетаў. А вось з Віктарам Понта дыялог не атрымліваецца з-за праекту той жа адміністратыўнай рэформы. Акрамя таго, канфлікт USL і UDMR выйшаў за межы Румыніі. Напярэдадні выбараў венгерскі прэм'ер Віктар Орбан інструктаваў румынскіх венграў, як галасаваць, што фактычна азначае пачатак халоднай вайны ў адносінах Будапешта і Бухарэста.

> **Даведка:**
>
> Выбары ў парламент Румыніі (у ніжнюю і верхнюю палаты) адбыліся 9 снежня. Перамогу на іх атрымаў апазіцыйны Сацыял-ліберальны саюз (USL), які набраў 58,7% галасоў (у сенаце — 60,1%). Прапрэзідэнцкі Альянс «Правая Румынія» (ARD) набраў 16,5% (16,7%), «Народная партыя» Дана Дзіяканеску (PP-DD) — 13,99% (14,65%), Дэмакратычны саюз венграў Румыніі (UDMR) — 5,13% (5,23%).

***— Адным з сюрпрызаў выбараў аказалася вялікая колькасць галасоў, пададзеных за партыю медыя-магната Дана Дзіяканеску, чыя партыя мае трэцюю па колькасці мандатаў фракцыю ў парламенце.***

— Магчыма, нават другую. Справа ў тым, што партыйны альянс у падтрымку Бэсеску, які прыйшоў другім, знаходзіцца на мяжы расколу. Таму партыю медыя-магната часта нават называюць апошняй надзеяй грамадзянскай супольнасці Румыніі. Аднак гэта жарт. Дастаткова сказаць, што значнае месца ў прапагандзе PP-DD адводзіцца экзатэрыцы. Асноўны канёк Дана — сацыяльны і нацыянальны папулізм. Шмат каму напярэдадні выбараў запомнілася, як ён не даў нейкаму нямецкаму канцэрну набыць румынскую кампанію «Oltchim», прапанаваўшы ўладальніку большую за немцаў суму — 45 мільёнаў еўра. Гэта адразу стварыла яму імідж патрыёта. Толькі цяпер высветлілася, што ніякай пакупкі «Oltchim» не было. Хутчэй, тое была дэкларацыя аб намерах, аднак сваю ролю на выбарах гэта згуляла. Поспех PP-DD эксперты тлумачаць таксама пратэстам часткі выбаршчыкаў супраць манапалізацыі палітычнай сферы двума палітыкамі — Понта і Бэсеску. Ім хацелася б бачыць новыя твары.

***— Як вядома, Траян Бэсеску праводзіў агрэсіўны курс за вяртанне ў склад Румыніі Малдовы, якая да 1940 года была пад кантролем Бухарэста. Вынікі выбараў 9 снежня могуць паўплываць на лёс праекту інкарпарацыі Малдовы?***

— Парадаксальным чынам дзень выбараў у Румыніі практычна супаў з так званым днём Вялікага аб'яднання. У гэты дзень у далёкім 1918 годзе Малдаўская Дэмакратычная Рэспубліка (НЧ: аналаг БНР) папрасілася ў склад Румыніі. Гадавіна была адзначаная ў Кішынёве маніфестацыяй уніяністаў, якая закончылася бойкай з палітычнымі апанентамі пад галоўнай навагодняй ялінкай краіны. Аднак большасць экспертаў лічаць, што ўніяністам цяпер не да святаў. Усе ўпэўненыя, што пры рэжыме USL Румынія будзе больш асцярожнай і прагматычнай у пытанні далучэння Малдовы. Тут шмат будзе залежаць ад таго, колькі партфеляў у новым урадзе дастанецца нацыянал-лібералам, якія ўваходзяць у Саюз. Нацыянал-лібералы заявілі апошнім часам пра сябе як вельмі нацыяналістычная партыя, і менавіта з-за іх Віктар Понта не можа дамовіцца з венграмі.

***— Ці можа Бэсеску неяк сарваць план канстытуцыйнай рэформы Понта?***

— Цяпер, паводле канстытуцыі, Бэсеску павінен прапанаваць на разгляд парламенту кандыдатуру кіраўніка ўраду. Лагічна, каб гэта быў пераможца выбараў, аднак не факт, што прэзідэнт пагодзіцца на фігуру Понта. Калі на працягу 20 дзён намінацыі не будзе, або прэм'ера не зацвердзяць, патрэбна абвяшчаць новыя выбары. Аднак пакуль нішто не сведчыць, што вынікі новага галасавання будуць іншымі, чым 9 снежня. Можа, гэта гучыць дзіўна, аднак адзінае, што можа сарваць планы Віктара Понта, гэта хуткая адстаўка самога Бэсеску. Менавіта на антыпатыях да яго трымаецца адзінства ідэйна розных суб'ектаў аб'яднання Сацыял-ліберальны саюз. Яшчэ адзін магчымы варыянт — Бэсеску падключыць да сваіх планаў Еўрасаюз, які, пагражаючы скарачэннем фінансавай дапамогі для Бухарэста, прымусіць Понта адмовіцца ад канстытуцыйнай рэформы. Пакуль, праўда, прэзідэнт упарта маўчыць.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Каментуючы сітуацыю з «Актам Магніцкага», Лукашэнка абмовіўся. Фактычна раскрыў таемны механізм свайго шматгадовага кіравання. Яго поспехі па частцы эканамічнага і палітычнага будаўніцтва — пытанне спрэчнае, затое методыка «забівання балтоў» — яго фірмовая «фішка», ноў-хаў, дзякуючы якому ён увойдзе ў аналы дзяржбудаўніцтва. Гэта ж трэба ўмець так шчыра клясціся, палаць праведным гневам, выкрываючы заганы свету, каб выскрабці грошы на пражыццё хоць з Еўропы, хоць з Расіі, хоць з Кітая. А атрымаўшы жаданае — тут жа расслабіцца і «забіць» на ўсё.

**«Московский Комсомолец» (Расія)**

Калі не лічыць гэтых дробных саступак, сітуацыя практычна не змяняецца. Магчыма, справа ў тым, што шматлікія краіны ЕС ахвотна купляюць танныя нафтапрадукты з Беларусі. Гэтыя валютныя паступленні — жыватворны струмень для Лукашэнкі. Калі б ЕС сапраўды хацеў уразіць Беларусь у слабае месца, гэта была б ідэальная цэль.

**«Foreign Policy» (ЗША)**

Савецкі час у краіне — не толькі ў эканоміцы, але і ў сацыяльным жыцці. У мінулую суботу ва ўсёй краіне прайшоў «Дзень цвярозасці». Ні ў адной краме краіны афіцыйна алкаголь не прадаваўся. Арганізатары — МУС рэспублікі, міністэрствы аховы здароўя, спорту і турызму, культуры, працы і сацыяльнай абароны — лічаць, што рана ці позна ў краіне павінен быць уведзены «сухі закон». Па статыстыцы, беларусы сёння — самая п'ючая нацыя на тэрыторыі СНД. Тут п'юць нават больш, чым у Расіі. Як выправіць сітуацыю, улада не ведае. Але і бяздзейнічаць не збіраецца. Таму аддае перавагу дзейнічаць лозунгамі, дэкрэтамі і запалохваннем. Гэта жа, як у СССР.

**«Эксперт» (Украіна)**

Да рэальнасці пра разуменне Лукашэнкам дэмакратыі вярнуў яго аповед пра тое, што яго старэйшы сын кіруе службай, якая сочыць за працай судоў і пракуратуры, пра тое, як прэзідэнт дае ўказанні, якую крымінальную справу пачынаць, а якую не пачынаць, і пра тое, што ён зацвярджае рэдактараў СМІ. Для жыхара краіны — сябра ЕС гэта гучыць як ігнараванне дэмакратыі, і факт, што Лукашэнка лічыцца гарантам справядлівасці ў краіне, уганяе ў жах.

**«Neatkarigas Rita Avize» (Латвія)**

Лукашэнка сустрэўся ў Мінску з прадстаўнікамі краіна СНД і Балтыі. Калі журналісты пацікавіліся ў яго лёсам Курманбека Бакіева, атрымалі адказ: «Вам патрэбен Бакіеў? Для чаго? Чалавек пажыў, з'ехаў, усякае бывае. Лепш мне скажыце, чаму на яго імя не высылаецца пенсія?» — сказаў ён. Падобна, у кіраўніка Беларусі няма інфармацыі пра нашы законы: выгнаныя вярхоўныя чыноўнікі застаюцца з пустымі рукамі і без пенсіі. Больш таго, калі ўспомніць апошнія гады кіравання Бакіева, то краіна пагразла ў карупцыі па пояс, сродкі, прызначаныя для дзяржаўнай казны, патрапілі ў кішэнь сям'і Бакіевых. Лукашэнка паказаў Бакіева ў вельмі няшчасным і бедным выглядзе. Але ён яшчэ больш узмацніў незадаволенасць народа.

**«Gezitter» (Кыргызстан)**

Пасля стварэння «Гулага на лесапілках» (так крытыкі Лукашэнка назвалі ўведзеную ім кантрактную сістэму наймання) цалкам верагодна, што Захад можа перайсці ад персанальных санкцый супраць службоўцаў да эканамічных санкцый у дачыненні да беларускіх кампаній, якія працуюць на экспарт. Пытанне ўжо ўздымалася і ў Еўрапарламенце, і ў парламентах асобных краін сяброў Еўрапейскага саюза.

**«Независимая газета» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГЕРМАНІЯ. НЕАНАЦЫСТЫ МЯНЯЮЦЬ ШЫЛА НА МЫЛА

Як вядома, зараз нямецкае МУС і ўрады нямецкіх зямель рашуча патрабуюць забароны правай радыкальнай Нацыянал-дэмакратычнай партыі (NPD), якая звязаная з серыяй забойстваў паліцэйскіх і этнічных туркаў. Між тым, актывісты NPD, здаецца, рыхтуюць запасны плацдарм. Прэса піша, што ў выпадку забароны ўльтраправыя спакойна перакачуюць у партыю «Правыя» («Die Rechte»). Партыя «Правыя» была створаная яшчэ ў маі гэтага года. Яе лідар — вядомы ў неанацысцкіх колах Хрысціян Ворх (Christian Worch), які ў свой час адмовіўся ўступаць у NPD з-за таго, што гэта партыя занадта радыкальная. Між тым, прэса звяртае ўвагу на тое, што касцяк «Правых» складаецца з былых нацыянал-дэмакратаў і людзей самых радыкальных поглядаў. Як прыклад, партыя «Правыя» з самага пачатку лічыцца спецслужбамі экстрэмісцкай. Сам Ворх ужо заявіў пра тое, што гатовы даць палітычны прытулак нацыянал-дэмакратам. Ён таксама паабяцаў перапісаць праграму «Правых» пад новых лідараў.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. ПРАВАЛ КАЗАХСКІХ РАЗВЕДЧЫКАЎ

15 снежня ў цэнтры Масквы адбыўся мітынг, арганізаваны левай партыяй «РОТ-Фронт», якая напярэдадні з 7-га разу здолела зарэгістравацца ў расійскім Мінюсце. Паколькі мітынг прыйшоўся на гадавіну расстрэлу рабочых у Жанаазене (Казахстан), на акцыю прыйшло шмат казахскіх апазіцыянераў, якія хаваюцца ад Назарбаева ў Расіі. Аднаго з іх, сустаршыню групы «Сацыялістычны рух Казахстана» Айнура Курманава, паспрабавалі затрымаць на мітынгу невядомыя людзі. Паведамляецца, што людзі азіяцкай знешнасці ў цывільным падышлі да Айнура і паспрабавалі сілай кудысьці яго адвесці. Расійскія таварышы ўмяшаліся, адбілі Курманава і разам накіраваліся ў метро. Ужо ў самым метро спроба затрымання паўтарылася. Сябры сацыяліста скруцілі аднаго з тых, хто нападаў, і здалі яго паліцэйскім па станцыі. Толькі пасля гэтага высветлілася, што гэты чалавек з'яўляецца маёрам Камітэта нацыянальнай бяспекі (КНБ) — казахскі аналаг КДБ, паведамляюць сайты. Прэса таксама піша, што Курманава хацелі арыштаваць і даставіць у Казахстан у якасці падарунку Назарбаеву да дня незалежнасці, які адзначалі на мінулым тыдні.

**Паводле расійскай прэсы**

### СНД. БУДЗЕ СТВОРАНА ЕЎРАЗІЙСКАЯ ПАРТЫЯ КАМУНІСТАЎ

Еўразійскі саюз, не кажучы пра яго структуры, яшчэ не створаны, а камуністы СНД ужо дзеляць месцы ў яго будучым парламенце. На сустрэчы прадстаўнікоў кампартый краін СНД у рамках пасяджэння выканкаму Саюза камуністычных партый (СКП СССР) у Кішынёве прынялі наступнае рашэнне: «У парламенце новаўтворанага на постсавецкай прасторы адзінага саюза дзяржаў будзе дзейнічаць партыя аб'яднаных еўразійскіх камуністаў». Нагадаем, што ідэя пра стварэнне на постсавецкай прасторы міжнароднага Еўразійскага саюза была агучана ў мінулым годзе тагачасным прэм'ерам Расіі Уладзімірам Пуціным. Пасля ўзнікла ідэя парламенту Еўразійскага саюза. Праўда, ніякай канкрэтыкі наконт таго, як будзе выглядаць структура, ніхто не ведае. Незалежная прэса дружная спісвае ідэю фракцыі еўразійскіх камуністаў на элементарны піяр малдаўскіх і ўкраінскіх камуністаў, якія дабіваюцца прыняцця сваіх краін у склад Мытнага саюза. Пакуль, сапраўды, цяжка ўявіць, што Кампартыя Малдовы або Украіны распусціцца і стане рэспубліканскай секцыяй новага інтэрнацыянала, цэнтр якога будзе ў Маскве. Не кажучы пра тое, што такая схема забароненая мясцовым законам пра партыі.

**Паводле малдаўскай прэсы**

### ВЕНЕСУЭЛА. ХВАРОБА ДАПАМАГЛА ЧАВЕСУ

На думку экспертаў, вельмі эмацыйны акт з боку Чавеса — прызнанне магчымай смерці ад рака — дапамог яму выйграць мясцовыя выбары, якія адбыліся 16 снежня ў Венесуэле. Па выніках кандыдаты на пасады губернатараў ад афіцыйнай Аб'яднанай сацыялістычнай партыі атрымалі перамогу ў 20 з 23 штатаў. Такім чынам апазіцыя страціла 4 штаты, у тым ліку вельмі важны штат Зулія, дзе знаходзіцца цэнт нафтавай індустрыі. Крыўду ад правалу праціўнікам Чавеса трошкі кампенсуе той факт, што апазіцыя захавала штат Міранда, дзе на новы тэрмін пераабралі Энрыке Капрылеса — былога адзінага кандыдата ад апазіцыі на кастрычніцкіх выбарах. Каментуючы вынікі, Капрылес сказаў, што «апазіцыя павінна прызнаць, што перажывае цяжкі момант». Губернатар Міранды таксама бачыць прычыны паразы апазіцыі ў вакханаліі, якую дзяржаўныя СМІ ўзнялі вакол хваробы Уга Чавеса.

**Паводле венесуэльскай прэсы**




КІНО

# ЕЎРАЦЭНТРЫСТ ТОЛКІН

**Алег НОВІКАЎ**

**Выхад на экраны фільма «Хобіт: нечаканае падарожжа» рэжысёра Пітэра Джэксана зноў ажывіў палеміку наконт таго, што вядомы твор Толкіна прапагандуе расізм.**




Гістарычны факт: у 1937 годзе прафесар старажытнай англійскай мовы Джон Рональд Руэл Толкін, які на той час ужо напісаў сваю аповесць «Хобіт, альбо Туды і назад», атрымаў ліст ад нямецкага выдання «Rutten & Loening». Дырэктар выдавецтва пісаў, што яго фірма гатовая купіць у пісьменніка правы на перадрук «Хобіта», аднак спачатку ён мусіў высветліць адну фармальнасць: адпаведна з ужо прынятымі на той час расавымі законамі, у Германіі дазвалялася друкаваць толькі аўтараў, якія мелі арыйскія карані. Пра наяўнасць у Толкіна арыйскай радаслоўнай і пытаў нямецкі выдавец.

Адказ Толкіна быў адначасова іранічным і інтэлектуальным. Ён напісаў, што не варты друкавацца ў фашысцкай Германіі, паколькі не з'яўляецца арыйцам. Як зазначаў Толкін, у яго сямейным дрэве няма ніводнага індуса, цыгана або перса (як вядома, гэтыя народы з'яўляюцца бліжэйшымі да старажытных арыяў). Каб канчаткова дабіць нацысцкае выдавецтва, Толкін напісаў, што ганарыцца тым, што сябруе з яўрэямі.

Аднак сёння, у эру татальнай палітычнай карэктнасці, той жарт з нацыстаў для Толкіна не з'яўляецца алібі. Апошнім часам аўтара «Хобіта» і трылогіі «Уладар пярсцёнкаў», якая пабачыла свет у 1955–1956-м, усё часцей абвінавачваюць у латэнтнай папулярызацыі расісцкіх дактрын.

Абвінавачанне будуецца на аналізе тых самых вышэй згаданых твораў, якія, напэўна, чытаў практычна кожны. А хто не чытаў, дакладна ведае па экранізацыі Пітэра Джэксана. Трылогія «Уладар пярсцёнкаў» стала адным з найбольш камерцыйна паспяховых кінапраектаў нашага часу — пры выдатках на вытворчасць у 280 мільёнаў долараў пракатныя зборы склалі каля 3 мільярдаў, а заключная часта стужкі «Вяртанне караля» ўваходзіць у дзясятку самых касавых фільмаў у гісторыі кіно.

Аднак, аказваецца, што прыгоды хобіта — гэта не проста байка. Па сутнасці Міжзем'е — кантынент, які прыдумаў і апісаў у сваіх кнігах Толкін, ёсць калейдаскоп земляў, на якіх сепаратна жывуць розныя расы. Паміж імі дзейнічае негалосны закон расавай палавой гігіены. Больш таго, некаторыя казачныя народы пад пяром пісьменніка выглядаюць сімпатычна, а некаторыя — адмоўна. Прычым першыя яўна нагадваюць еўрапейцаў і маюць белую скуру, а негатыўныя тыпы падобныя на мангалоідаў і негроідаў.

Возьмем для прыкладу жыхароў Харада — краю, які, адпаведна тэксту кнігі, знаходзіцца на Поўдні. Людзей Харада пісьменнік апісвае наступным чынам: пераважна смуглыя, чарнавалосыя і чарнавокія, а таксама чарнаскурыя. Жыхары Харада — людзі не вельмі добрыя, інакш бы яны не падтрымалі злога чараўніка Саўрона ў яго паходзе супраць добрых рас. З той жа оперы народ істэрлінгі, які на старонках кнігі нагадвае арабаў. Тое, што істэрлінгі — таксама на баку Саўрона — адразу зразумела.

Аднак больш за ўсё не пашанцавала мангалоідным народам. Толкін выявіў іх у кнізе як оркаў — нізкарослых цемнаскурых жудасных пачвараў, якія падпарадкаваныя Цёмнаму ўладару. У Толкіна пра падабенства оркаў і мангалоідных народаў гаворыцца прамым тэкстам. У адным з лістоў ён так іх малюе — «з шырокім плоскім носам, шырокім ротам, вузкімі вачыма — адна з самых дэградаваных версій мангольскай расы».

Што тычыцца антаганістаў оркаў, істэрлінгаў і іншай нечысці, то гэта людзі, эльфы, хобіты і гномы. Дарэчы, прататыпамі гномаў, як пісаў сам Толкін, былі яўрэі.

Адным словам, Толкін сканструяваў расава дэтэрмінаваны свет. Прычым выдуманым ім расам характэрныя калектыўныя маральныя ўстаноўкі. Тыя, хто належыць да добрых рас, нясуць у свет, як правіла, дабро. Затое прадстаўнікоў злых народаў цікавіць выключна зло. Існуе ў кнізе Толкіна і вобраз суперчалавека. Гэта, на думку літаратуразнаўцаў, Арагорн-следапыт, чые выбітныя якасці звязаныя з яго арыстакратычнай радаслоўнай (ён нашчадак аднаго з каралеўскіх родаў).

Пасля гэтага не дзіўна, што цяперашняе кіраўніцтва правай радыкальнай Брытанскай нацыянальнай партыі прыняло рашэнне аб тым, каб знаёміць партыйную моладзь з творчасцю Толкіна. А нямецкія нацысты арганізавалі нават калектыўныя паходы ў кіно, каб пераканацца, як былая цывілізацыя можа ваяваць з навалай ордаў каляровых істотаў, якія, на іх думку, падобныя на эмігрантаў.

Ці значыць гэта, што «Хобіта» трэба забараніць? Праціўнікі такіх радыкальных мераў заклікаюць не спяшацца. Па іх словах, на Толкіна трэба глядзець праз прызму яго эпохі і каштоўнасцяў сацыяльнай групы, да якой ён належаў. Джон Рональд Руэл Толкін быў кансерватарам і, як шматлікія брытанскія кансерватары ў 1930-я гады, вельмі баяўся росту палітычнага радыкалізму левага або правага гатунку. Так, Гітлера ён называў «невукам». З іншага боку, англійскай эліце былі характэрныя шматлікія расавыя тэорыі. Праўда, тэрмін «выбраная раса» яны хутчэй разглядалі ў кантэксце тэорыі Кіплінга пра абавязак белага чалавека несці цывілізацыю па ўсім свеце (натуральна, пры гэтым злачынствы каланіялізму намагаліся не заўважаць).

Цікава, што ў адным з лістоў Толкін увогуле абвінаваціў гітлераўцаў у тым, што яны разбураюць культуру паўночнай расы. Ён пісаў: «Яны (нацысты) разбурылі, знішчылі паўночны дух — самы вялікі ўнёсак у еўрапейскую цывілізацыю, якую я так любіў і намагаўся прадставіць у сапраўдным свеце». З тых жа прычын — абарона культурнай спадчыны — Толкін падтрымаў мяцеж генерала Франка супраць іспанскай рэспублікі. Пісьменнік баяўся, што анархісты — саюзнікі рэспубліканцаў — у атэістычным парыве разбураць усе касцёлы, сярод якіх было шмат помнікаў архітэктуры.

Безумоўна, з гэтай кропкі гледжання Толкін — расіст, які пасіўна абсарбіраваў папулярныя тады канцэпцыі еўрацэнтрызму. Аднак яго твор цяжка назваць расісцкім з улікам ролі, якую сага пра хобіта адыграла ў грамадскай дыскусіі XX стагоддзя. Заслуга Толкіна ў тым, што ён сваім «Хобітам» вывеў жанр фантастыкі на абсалютна новы высокі ўзровень. Пісьменнік выдумаў цэлы штучны свет, са сваёй мовай, міфалогіяй, культурай, гісторыяй.

Гэта дало вялікі імпульс тады яшчэ маладому жанру. Фантасты намагаліся прыдумляць новыя сусветы, у якіх сярод іншага не было расавых межаў. Дастаткова згадаць славуты амерыканскі фантастычны серыял 1970-х гадоў «Зорны шлях», які шакаваў сучаснікаў тым, што адным з пілотаў зорнага лайнера была чарнаскурая жанчына. Шмат каго з афраамерыканскай камуны ЗША гэты вобраз натхніў на тое, каб змагацца за вартае месца ў грамадстве.

Нарэшце, не ўсё так проста з алегорыямі. Як сведчаць даследаванні, шмат хто лічыць, што на аўтара «Уладара пярсцёнкаў» большы ўплыў аказалі рэальныя падзеі, што адбываліся ў тыя часы. Вельмі папулярная версія пра тое, што вайна за пярсцёнак з'яўляецца алегорыяй Другой сусветнай вайны, а царства зла Мордар — не што іншае, як нацысцкая Германія. З гэтым згодныя шматлікія толкіназнаўцы.

ПАРАЛЕЛІ

# НЕВЯДОМЫ ЗАМАХ

Алег НОВІКАЎ

**10 гадоў таму група туркменскіх чыноўнікаў паспрабавала здзейсніць замах на прэзідэнта Сапармурата Ніязава.**



Хаця на постсавецкай прасторы адбывалася і адбываецца шмат экзатычнага і незвычайнага, нават на гэтым фоне прыкметна вылучаўся рэжым, створаны Сапармуратам Ніязавым. Дастаткова згадаць пра тое, што ў 1994–1995 гадах кіраўніцтвам краіны ўсур’ёз разглядалася пытанне пра наданне Ніязаву тытулу «шах» і ператварэнне Туркменістана ў шахства. Амбіцыёзны праект пахавалі некаторыя старэйшыны, якія баяліся, што новы шах Сапармурат будзе рабіць стаўку на канкрэтныя роды, ігнаруючы інтарэсы іншых кланаў.

Напачатку Туркменбашы карыстаўся падтрымкай і насельніцтва, і эліты Туркменістана. Аднак да 2000 года сітуацыя змянілася — незадаволенасць пракралася ў вышэйшыя эшалоны ўлады. Гэта ўсё было следствам эканамічных праблемаў. Беднасць, масавая карупцыя абясцэнілі сацыяльную стабільнасць, якой у дзевяностыя так ганарыліся жыхары Туркменіі. Субсідаваныя кошты на базавыя прадукты, якія дзяржава магла сабе дазволіць дзякуючы продажу газу, ужо не так цешылі насельніцтва. Усю адказнасць князь, як заўсёды, пераклаў на баяр. Пачалася кадравая ліхаманка. Паступова да апазіцыі ў выгнанні, прадстаўленай галоўным чынам інтэлігентамі, дадалася і наменклатурная апазіцыя. Шмат чыноўнікаў папросту стаміліся жыць у страху ад таго, што іх вось-вось зробяць крайнім за нейкі правал у эканоміцы.

Ідэйным натхняльнікам змовы наменклатуры стаў былы міністр замежных спраў і віцэ-прэм’ер Барыс Шыхмурадаў. Па прафесіі журналіст-міжнароднік, Шыхмурадаў вярнуўся ў Туркменістан на пачатку незалежнасці, каб дапамагчы станаўленню туркменскай дыпламатыі. Доўгі час ён быў паплечнікам Ніязава. Па яго словах, быццам, менавіта яму належала ідэя нейтралітэту, якую Ніязаў пасля ўмела выкарыстоўваў для самаізаляцыі краіны і ўмацавання рэжыму асабістай улады.

Аднак пратэкцыя прэзідэнта была нядоўгай. Шыхмурадава адправілі працаваць за мяжу, дзе ён вырашыў далучыцца да апазіцыі. Дарэчы, тагачасны туркменскі афіцыёз лічыў, што для такога радыкальнага кроку былі рэзоны: пракуратура выявіла, што яшчэ ў бытнасць віцэ-прэм’ерам і старшынёй дзяржкамісіі па матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні абарончага комплексу Туркменістана па прамым указанні Шыхмурадава было незаконна прададзена 5 баявых самалётаў СУ–17 і цэлы арсенал зброі і боепрыпасаў. Прыбытак, калі верыць афіцыйным СМІ, пайшоў на рахункі Барыса.

Так ці інакш, Шыхмурадаў развіў актыўную апазіцыйную дзейнасць. За кошт кантактаў у туркменскай эліце ён атрымліваў шмат сакрэтнай інфармацыі. Падчас такіх кантактаў у яго сфармавалася ідэя, што час перавароту прабіў. І сапраўды, скласці кампанію Шыхмурадаву пагадзілася шмат чыноўнікаў. Нарэшце, быў прызначаны дзень Х — 25 лістапада 2002 года.

Цалкам высветліць, як менавіта выглядала спроба перавароту, дагэтуль немагчыма: версіі апазіцыянераў і туркменскіх улад дыяметральна разыходзяцца.

Так, сябры Шыхмурадава, былыя саноўнікі рэжыму, якія перайшлі ў апазіцыю, заўсёды адмаўлялі факт замаху. Яны сцвярджалі, што замах — не што іншае, як ніязаўская інсцэніроўка. У дзень славутага «замаху» машына, у якой сядзелі сам Шыхмурадаў, кіраўнік парламента, міністр замежных спраў і губернатар Ташаўзскага рэгіёна, чакала машыну Ніязава насупраць будынку Меджліса. Ніхто не збіраўся забіваць Ніязава. Гаворка ішла пра арышт і наступнае прымусовае адрачэнне Туркменбашы ад улады. Змоўшчыкі спадзяваліся правесці такое адрачэнне праз парламент. Нечакана машыну, дзе сядзелі путчысты, атачылі людзі ў цывільным. Усіх пасажыраў арыштавалі.

Па іншай версіі, група змоўшчыкаў блакавала на адной з цэнтральных вуліц Ашхабада картэж прэзідэнта і абстраляла яго з аўтаматычнай зброі. Але прэзідэнт не быў нават паранены. Былі паранены толькі чатыры ахоўніка, а выканаўцы замаху былі хутка схоплены. Праўда, самому Шыхмурадаву ўдалося збегчы.

Далей арыштоўваць пачалі ўжо ўсіх. Былі схоплены шматлікія вядомыя людзі: былы начальнік памежных войскаў, лідар туркменскіх камуністаў, журналісты і дыпламаты, начальнік міжнароднага аддзела адміністрацыі прэзідэнта. Агульны лік арыштаваных у сувязі са спробай дзяржаўнага перавароту 25 лістапада склаў больш двухсот чалавек.

Пакутавалі і сем’і арыштаваных. У краіне былі арганізаваны мітынгі, на якіх працоўны люд патрабаваў расправы над ворагамі Туркменбашы. Дзякуючы пераследу родных быў арыштаваны і лідар путчыстаў. Пасля таго, як трапіў у турму малодшы брат Барыса Шыхмурадава — Канстанцін, 25 снежня 2002 года ён добраахвотна здаўся ўладам Туркменістана. Перад тым, як здацца, Барыс паведаміў, што зрабіў гэта, каб не дапусціць далейшых рэпрэсій над сваімі сваякамі і роднымі. Ён таксама папрасіў не верыць усяму, што будзе казаць пазней.

Апазіцыянер меў рацыю. 29 снежня 2002 года па туркменскім тэлебачанні паказалі кадры пакаяння Шыхмурадава. Прызнанне было напісана ў лепшых традыцыях сталінскіх працэсаў 1930-х гадоў. Барыс, напрыклад, казаў: «Мы, пражываючы ў Расіі, займаліся ўжываннем наркотыкаў і ў стане ап’янення вербавалі наймітаў для здзяйснення тэрарыстычнага акту… Мы — мафія, мы ўсё — нікчэмныя людзі».

30 снежня 2002 года Вярхоўны суд Туркменістана прысудзіў Барыса Шыхмурадава да 25 гадоў пазбаўлення волі, але ў той жа дзень гэта пакаранне было заменена на пажыццёвае зняволенне. Адвакат падчас працэсу толькі аднойчы бачыў Шыхмурадава. Астатнія абвінавачаныя атрымалі хто 25 гадоў турмы, хто — пажыццёвае і зніклі ў засценках. Пазней ні родныя, ні прадстаўнікі Чырвонага Крыжа не змаглі дабіцца спаткання ні з адным з асуджаных па гэтай справе. Вырвацца на волю праз пяць месяцаў атрымалася толькі амерыканскаму грамадзяніну Леаніду Камароўскаму, які таксама быў сябрам групы. Ігнаравала прыгавор і Расія, грамадзянінам якой быў Шыхмурадаў.

За апошніх дзесяць год было шмат плётак пра далейшы лес Барыса Шыхмурадава. Па некаторых звестках, ён адбываў пакаранне ў склепе будынка міністэрства нацыянальнай бяспекі, дзе сканаў у 2007 годзе. Аднак у 2007 годзе, выступаючы перад студэнтамі Калумбійскага ўніверсітэта ў ЗША, прэзідэнт Бердымухамедаў, адказваючы на пытанне студэнтаў, нечакана прызнаўся, што Барыс Шыхмурадаў і яго сябра Батыр Бердыеў (таксама адзін з арганізатараў замаху на Туркменбашы) жывыя.

Лёс арганізатараў выступу 25 лістапада 2002 года дасюль застаецца не вядомым, хаця ахвяра замаху Сапармурат Ніязаў памёр яшчэ ў 2006 годзе, а яго імя і спадчыну новая туркменская ўлада намагаецца як мага хутчэй выкрасліць з народнай памяці.

**Артыкул падрыхтаваны па матэрыялах туркменскай апазіцыйнай прэсы**

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### ХАСЭ ІГНАСІА ВЕРТ

Міністр адукацыі Іспаніі аднавіў адзінства каталонскіх незалежнікаў, якія пасля выбараў не могуць сфармаваць адзіны ўрад і разабрацца, як ім дабіцца незалежнасці. Цяпер шансы на адзінства пабольшалі. Усё дзякуючы праекту закона пра лепшую якасць адукацыі (LOMCE), які Верт прапанаваў на разгляд парламентарыяў. Закон, як лічыць Верт, адлюстроўвае неабходнасць скарачэння бюджэтных сродкаў на вывучэнне некаторых прадметаў. Пад закон трапілі так заваныя «суафіцыйный мовы», адной з якіх з’яўляецца каталонская. Цяпер мову будуць вывучаць не як абавязковую, а ў рамках «спецыялізаваных курсаў». Такая рэформа, натуральна, выклікала нянавісць каталонскіх нацыяналістаў. На іх думку, новы закон нагадвае законы супраць ужывання каталонскай мовы, якія мелі месца ў часы дыктатуры Франка. На мінулым тыдні па Каталоніі пракацілася хваля маніфестацый пратэсту супраць ідэй Верта. Акрамя таго, вялікі маштаб набыла кампанія «Keep calm and speak catalan» («Маўчы і размаўляў па-каталонску») па папулярызацыі ўжывання каталонскай мовы ў побыце. Усе каталонскія партыі падтрымалі рашэнне ўраду Артура Маса, які ўзначаліў пратэсты. Напрыклад, Артур Мас сабраў подпісы муніцыпалітэтаў двух трацін мэрый, што дазваляе аспрэчыць LOMCE у іспанскім канстытуцыйным судзе. На думку экспертаў, у выпадку працягу канфлікту каталонцы могуць прыняць рашэнне аб правядзенні рэферэндуму наконт незалежнасці.

### СЯРГЕЙ СЫРБУ




Маладая зорка Кампартыі Малдовы — Сырбу — зрабіў імя на тым, што быў галоўным юрыстам КПРМ і прадстаўляў партыю ва ўсіх судовых інстанцыях, а таксама ў рэспубліканскім выбаркаме. На хвалі папулярнасці маладога юрыста ва ўзросце 31 год абралі дэпутатам парламенту. Сам Варонін — лідар Кампартыі, называў яго ўнукам. І вось 12 снежня Сяргей нечакана заявіў пра выхад з Кампартыі, што выклікала шок у малдаўскім палітыкуме, асабліва сярод камуністаў. Камуністычныя СМІ прапанавалі версію, што Сырбу папросту перакупілі. Больш таго, быццам у асяроддзі дэмакратаў існуе спецыяльная служба, якая займаецца перавярбоўкай перспектыўных камуністаў. Тая служба, быццам, займаецца зборам кампрамату і нават пагражае родным палітыкаў-камуністаў, каб тыя хутчэй выходзілі з партыі. Варта ўзгадаць, што за апошні год цэлы шэраг вельмі аўтарытэтных актывістаў КПРМ паклалі партабілеты на стол. Эксперты не вераць у такія фантастычныя тэорыі. На іх думку, проста шмат каму ў атачэнні Уладзіміра Вароніна некамфортна. Асабліва гэта стала відавочна пасля загаду Вароніна сябрам фракцыі КПРМ байкатаваць сустрэчу з Жазэ Барозу, які нядаўна наведаў Кішынёў.



### ДЭВІД ФОРД

Форд — лідар партыі «Альянс». Гэта партыя дзейнічае ў Паўночнай Ірландыі і спрабуе арыентавацца на пратэстантаў ліберальных поглядаў, якія шукаюць дыялог з ірландцамі-каталікамі. «Альянс» мае 6 месцаў у гарадской радзе Белфаста, і менавіта яго рашэнне стала ракавым. Дэпутаты «Альянсу» падтрымалі ініцыятыву каталіцкай фракцыі ў гарадской радзе — зняць брытанскі сцяг з будынка ратушы. Рашэнне вельмі сімвалічнае. Сцяг над будынкам быў узняты ў 1906 годзе на знак пратэсту супраць спроб ірландцаў атрымаць аўтаномію. Фактычна гэта быў пачатак расколу Ірландыі. Паводле рашэння гарадской рады «Юніян Джэк» мае вісець над будынкам ратушы толькі па святочных днях. Радыкальныя пратэстанты ўспрынялі рашэнне як пагрозу для брытанскай ідэнтычнасці і арганізавалі масавыя вулічныя беспарадкі. Як ні парадаксальна, аднак больш за ўсё дасталася ад экстрэмістаў не каталікам, а менавіта сябрам «Альянсу». Шмат дзе офісы партыі атакаваны з кактэйлямі Молатава. Лідары партыі атрымалі пагрозы ад ананімаў. Што тычыцца Форда і яго прыхільнікаў, то яны не адмовіліся ад свайго рашэння. Больш таго, лічаць, што фразеалогія пра пагрозу для брытанскай ідэнтычнасці — лухта, паколькі часткай ідэнтычнасці брытанцаў з’яўляецца святкаванне Калядаў, якое з-за правакацый аранжыстаў у Белфасце фактычна сарванае.

ЦІКАВА

# КАЛЯДЫ, ЯКІЯ ПРЫПЫНІЛІ ВАЙНУ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Зімой 1914 года на Заходнім фронце адбылася ўнікальная падзея. За тыдзень да Калядаў брытанскія і нямецкія салдаты адмовіліся страляць адзін у аднаго і пачалі абменьвацца каляднымі падарункамі. Такія «калядныя перамір'і» адбываліся і пазней.**



Нямецкі і брытанскі салдаты



Немцы

Пачатак Першай сусветнай вайны быў даволі ўдалым для Германіі. На ўсходзе руская армія, нягледзячы на гераічнае супраціўленне, вымушана была адступаць. На захадзе паспяховы ўдар немцаў праз Бельгію дазволіў падыйсці кайзераўскім войскам да сталіцы Францыі Парыжа. Падчас бітвы пры Эне войскі Антанты былі не ў сілах праврваць нямецкі фронт, і вайна паступова перайшла ў пазіцыйную. На пачатак лістапада паміж французамі і брытанцамі з аднаго боку і немцамі з другога сфармавалася ўстойлівая лінія фронту.

Напярэдадні Калядаў брытанскія назіральнікі ў свае біноклі заўважылі, што немцы каля Іпра пачалі святочна аздабляць свае траншэі. Хутка брытанцы пачулі нямецкую калядную песню «Stille Nacht», а яшчэ праз некаторы час з боку немцаў на ламанай англійскай мове пачулася: «Merry Christmas to you, Englishmen» (Шчаслівых Калядаў вам, англічане). У адказ брытанцы заспявалі «Silent night». Словы ў гэтых песень розныя, але матыў адзін і той жа, і хутка песні зліліся.

Вось як тыя падзеі апісваў адзін з брытанскіх салдат: «Швабы паставілі святочныя елкі перад сваімі траншэямі як бы ў знак добрай волі. І праз хвіліну мы пачулі песню «Stille Nacht». Немцы пачалі выходзіць да нейтральнай паласы без зброі і зваць нас. У іх руках былі каробкі з падарункамі».

Убачыўшы немцаў, з брытанскіх акопаў пачалі выходзіць «томі» (назва брытанскіх салдат — аўт.) і накіроўвацца ў бок варожых пазіцый. Адзін з афіцэраў брытанскай арміі тыя падзеі ўспамінаў так: «Я вызірнуў з акопа і ўбачыў чатырох немцаў, якія выйшлі са сваіх траншэй і ішлі ў наш бок. Я загадаў двум з маіх людзей пайсці і сустрэць «гасцей», але без зброі, бо немцы былі няўзброеныя, і сказаць немцам, каб яны не пераходзілі нічыйную лінію. Але мае хлопцы не пажадалі ісці, таму я пайшоў адзін. Калі немцы падышлі да калючага дроту, я ўбачыў, што гэта былі трое радавых і санітар. Адзін з іх па-англійску сказаў, што ён толькі хацеў павіншаваць нас з Калядамі. Я запытаў, які загад немцы атрымалі ад афіцэраў, калі пайшлі ў наш бок, а яны адказалі, што ніякага загаду не было, і яны пайшлі самастойна.

Мы абмяняліся цыгарэтамі і разышліся. Калі вярнуўся на пазіцыі, то ўбачыў, што ў траншэях нікога няма. Агледзеўшыся, са здзіўленнем заўважыў натоўп прыкладна 100–150 брытанскіх і нямецкіх салдат. Яны смяяліся і святкавалі.

Праз некаторы час я заўважыў двух нямецкіх афіцэраў і праз перакладчыка сказаў ім, што сустракацца трэба на нейтральнай паласе і без зброі. Брытанцы і немцы абменьваліся рознымі сувенірамі, паказвалі сямейныя фота, спявалі песні. Адзін з ворагаў сказаў мне, што марыць пра хуткі канец вайны. Я пагадзіўся з ім».

Афіцэр брытанскай арміі Брус Барнсфатэр таксама быў сведкам «каляднага перамір'я». Вось як ён яго апісваў: «Я заўважыў германскага афіцэра і намякнуў яму, што аблюбаваў яго форменныя гузікі. Немец дазволіў адрэзаць некалькі гузікаў са свайго мундзіру, а я ў замен даў яму некалькі сваіх. Хутка я заўважыў, як адзін з маіх кулямётчыкаў, будучы ў мірным жыцці цырульнікам, стрыжэ немца, які цярпліва стаіць на каленях на зямлі».

«Каляднае перамір'е» выкарысталі і дзеля таго, каб сабраць трупы загінуўшых салдат, якія праляжалі ўжо некалькі месяцаў на полі. Былі нават праведзены сумесныя царкоўныя службы па адпяванні забітых брытанцаў і немцаў.

У 2010 годзе на адным з брытанскіх аўкцыёнаў прадаваўся ліст невядомага брытанскага жаўнера, які пісаў маці пра тое, як адбывалася «каляднае перамір'е» ў Фландрыі. Вось вытрымкі з гэтага паслання: «Пасля абеду мы разыгралі футбольны матч. Некалькі немцаў прыйшло паглядзець на нас. Акрамя гэтага немцы выслалі сваіх санітараў бліжэй да нашых пазіцый, каб тыя пахавалі забітага намі ўчора нямецкага снайпера. Некалькі брытанцаў пайшлі дапамагчы нямецкім санітарам. Перад абедам паразмаўляў з немцамі і абмяняўся з імі рэчамі. Так мы адсвяткавалі свята Божага нараджэння».

Цікава, што футбольныя матчы паміж брытанцамі і немцамі падчас перамір'я здараліся даволі часта. «Швабы», часцей за ўсё, абыгрывалі родапачынальнікаў футбола. Аб тых матчах на поле бою потым пісалі шматлікія брытанскія газеты.

Мала хто ведае, што такія ж падзеі адбываліся і на ўсходнім фронце. У канцы снежня 1914 года нямецка-расійскі фронт затрымаўся на тэрыторыі Каралеўства Польскага на лініі рэк Бзура і Раўка. І ў нямецкай, і ў расійскай арміі было шмат каталікоў. Гісторыкі ўспамінаюць, што падчас бітвы пад Сахачэвам "мазуры" ў нямецкіх шлемах «пікельхаўбах і «мазуры» ў рускіх папахах білі адзін аднаго ў крывавай бітве. Але ў Калядную ноч баі сціхлі і над полем бітвы разнеслася польская песня «Cicha noc». Яе спявалі і «немцы» і «рускія». Бо свята было адно на ўсіх.

У снежні 1914 года на Паўночна-Заходнім фронце былі адзначаны выпадкі так званага каляднага «братання» паміж салдатамі 249-га Дунайскага пяхотнага і 235-га Белебеўскага пяхотнага палкоў рускай арміі і салдат кайзераўскай арміі. У тэлеграме камандуючага 1-й рускай арміі генерала А. Літвінава адзначалася, што немцы ўсё часцей «запрашаюць рускіх у госці». Рускім камандзірам загадвалася супыняць такія «хаджэнні ў госці» і арыштоўваць тых, хто ходзіць да немцаў як здраднікаў. Акрамя гэтага, камандаванне рускай арміі аддала загад адкрываць кулямётны агонь па тых, хто ідзе на братанне.

Але калядныя братанні рускіх салдат з немцамі не спыніліся. Прыйшоў час успомніць і пра беларусаў, бо 20 салдат, 4 унтэр-афіцэры і адзін яфрэйтар 301-га Бабруйскага пяхотнага палка 76-й пяхотнай дывізіі прынялі запрашэнне немцаў наведаць іх і, пакінуўшы свае пазіцыі, пайшлі да «фрыцаў». Падчас аднаго з братанняў рускіх і немцаў адбылося спаборніцтва па спевах. Салдаты мяняліся хлебам, цыгарэтамі, алкагольнымі напоямі, шакаладам.

Калядныя братанні адбываліся і ў снежні 1915 года. У данясенні начальніку штаба Паўночнага фронту генералу М. Бонч-Бруевічу, у прыватнасці, адзначалася, што рускія войскі на некаторых участках фронту ўстанавілі з праціўнікам «сяброўскія адносіны». Напрыклад, салдаты 55-га Сібірскага пяхотнага палка на Заходняй Дзвіне і рускія салдаты ў Форце Франц умовіліся з немцамі «жыць у сяброўстве», не страляць падчас святаў і не браць палонных. Ад немцаў рускія салдаты атрымлівалі каньяк, цыгарэты, а санітарам давалі… медыкаменты. Што самае цікавае, у такіх сяброўскіх адносінах з немцамі былі не толькі радавыя чыны, але ўнтэр-афіцэры і нават афіцэры. Нягледзячы на спробы з боку камандавання спыніць кантакты з праціўнікам, у дні Калядаў і Новага 1916 года рускія і нямецкія салдаты сустракаліся і абменьваліся святочнымі падарункамі.

Як мы ўжо казалі, рэакцыя галоўнага камандавання рускіх войск на факты «каляднага братання» была адмоўнай. Але і брытанцы не былі ў захапленні ад фактаў сяброўства «томі» і «гансаў». Камандзір брытанскага 2-га корпуса, генерал Гарацыя Сміт-Дорэн, даведаўшыся аб фактах братання ў снежні 1914 года брытанцаў з немцамі, раззлаваўся і выдаў жорсткі загад забараніць усе кантакты з праціўнікам. У 1915 годзе спробы каляднага братання жорстка супыняліся брытанскімі афіцэрамі. Аднак абмен падарункамі і спевы калядных песень усё ж здараліся.

Большасць гісторыкаў падкрэслівае, што братанне было выклікана перш за ўсё рэлігійным фактарам. Для заходніх еўрапейцаў свята Божага нараджэння было адным з галоўных, і таму ў 1914 годзе камандаванне пайшло на абвяшчэнне двухдзённага перамір'я. Да таго ж была і практычная неабходнасць пахаваць забітых і памерлых, якія ляжалі на нічыйнай паласе ўжо некалькі месяцаў. Нарэшце, з кожным месяцам вайны адбывалася эрозія прапагандысцкіх клішэ. Непасрэдныя кантакты брытанцаў і рускіх з немцамі прыводзілі іх да думкі, што ім супрацьстаяць такія ж звычайныя людзі, як і яны самі, якія таксама жадаюць жыць. Таму людзі замест смерці выбіралі жыццё.



Брытанцы гуляюць у футбол на полі боя

АГЛЯД

# СВЯТЛО І ЦЕНІ МІНУЛАГА РОК-ГОДА

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Неяк легендарны амерыканскі блюзмэн Бі Бі Кінг паўжартам заўважыў: «Блюз вынайшлі чарнаскурыя музыканты, а самыя вялікія «бабкі» заграбае белы Эрык Клэптан!» Парадаксальна, але пры пэўнай фантазіі, гэтыя словы можна аднесці і да сітуацыі на музычным рынку нашай краіны. Мяркуйце самі...**



За мінулы год адбылося некалькі дзясяткаў паспяховых канцэртаў, якія засведчылі, што беларускі рок у той форме і змесце, якім гэты рух задумваўся яго пачынальнікамі (перш за ўсё — беларускамоўным), паспяхова нарошчваў колькасць сваіх адданых прыхільнікаў, прададзеных дыскаў і мерча (сувеніраў), а таксама атрымаў вартае развіццё ў музыцы больш маладых калектываў.

Прыгадаю толькі ўдалыя канцэрты і прэзентацыі гуртоў «:B:N:», «IQ48», «Крамбамбуля», «ZNICH», «Re1ikt», «Разбітае сэрца пацана», «POMIDOR/OFF», «AKUTE», «BLAGI MAT!!!», салістаў З. Вайцюшкевіча і Л. Вольскага, рэпера Vincent'a, творчасць якіх знайшла адлюстраванне ў новых альбомах і праектах. Праўда, большасць гэтых канцэртаў адбывалася ў клубах ці мела «падпольны» статус. Менавіта канцэрты гэтых беларускіх артыстаў вызначылі музычныя вынікі мінулага года.

Але чаму ж аўтар гэтых радкоў бачыць паралелі з выказваннем Бі Бі Кінга? Толькі таму, што найбольшы камерцыйны поспех у гэтых умовах на ніве «беларускага року», як яго разумеюць мясцовыя рамеснікі ад рок-музыкі, у гэтым годзе меў гурт «Ляпис Трубецкой». Так, пры той напружанай працы, якую вядуць прадстаўнікі беларускамоўнага року па ўсёй краіне, амаль уся ўвага музычнай грамадскасці нашай краіны рознымі сродкамі была перанакіравана на «ляпісаў» і іх апошнюю працу — альбом «Рабкор», які з пафасам прэзентаваўся ў Маскве, Кіеве, Вільні і Празе. Сапраўды, на гэтым дыску маецца некалькі моцных беларускамоўных кампазіцый, у прыватнасці «змагарскі» хіт на словы Я. Купалы «Не быць скотам». Але іншыя песні з гэтага альбому ўяўляюць сабой мешаніну з навязлівых штампаў рускага року, няхай прафесіянальна пададзеных слухачам у рытмах ска-панка. Тое, што гэтая музыка мае другасны гатунак, у мінулым годзе прызналі нават самыя апантаныя апалагеты «Ляписа Трубецкого»: «Рабкор» — альбом, магчыма, і непрыдуманы, але перапоўнены змагарскім пафасам настолькі, што адварочвае пасля першага знаёмства» (С. Будкін, «Тузін гітоў»), ці вось такая ацэнка вартасці гэтага альбома: «Набор лозунгов, прописных истин, вычурных поз, гневных обличений превысил все мыслимые размеры» (Олег Климов, Experty.by). Таму вынік года здаецца нелагічным: адны ўпарта працуюць са слухачамі, іншыя ж стрыгуць купоны камерцыйнага поспеху!

Такое становішча ў беларускай рок-музыцы будзе працягвацца да таго часу, пакуль «Ляписа Трубецкого» не зменіць сапраўдны аўтарытэт з нацыянальнай рок-плыні, пры якім будзе заўважна, што цяперашнія куміры, заняўшы чужое месца пад шыльдай «беларускі рок», — падробка. Магчыма, гэта будзе малады ці зусім не вядомы калектыў, які здолее завяваць увагу беларускіх слухачоў, альбо на гэту ролю высунуцца героі мінулага года — магілёўскі гурт «AKUTE», які з гонарам і адказнасцю прадставіў айчынную рок-плынь на сумесным канцэрце з сусветнай зоркай — гуртом «PLACEBO» ў Мінску. Застаюцца спадзяванні, што адродзяцца старыя аўтарытэты — «N.R.M.», «ULIS» ці «Крама», — хоць гэта ўяўляецца даволі праблематычным з-за бесперапыннага ціску на гэтых музыкантаў з-за прыналежнасці іх да «чорных спісаў». Успомнім, як у мінулым годзе з бюракратычнай упартасцю адмяняліся канцэрты гуртоў «Neuro Dubel», «Крамбамбуля», удзельнікаў праекту «Tuzin unplugged»... Нават юбілейны канцэрт да 20-годдзя гурта «Палац» у Тэатры беларускай драматургіі быў на мяжы зрыву. І толькі аператыўнае ўмяшанне былога міністра культуры Паўла Латушкі выратавала сітуацыю ад чарговай ганьбы забаронаў, на гэты раз у адносінах да знаных у Еўропе выканаўцаў беларускага фальклору.

Неяк незаўважна са сталічнага культурнага ланшафту знікла такая папулярная ў гараджан канцэртна-забаўляльная кропка, як фальварак «Добрыя мыслі», які, як высветлілася, вымушаны быў пераехаць у мяжы сталічнага рэгіёну. Але рэкорд па забаронах і спробах адрадзіцца на новым месцы належыць арганізатарам ужо легендарнага сталічнага культурніцкага асяродка «Арт-сядзіба», якая ў гэтым годзе былі вымушаны з'ехаць са свайго месца аж тры разы! І ў чым правіна ініцыятара «Арт-сядзібы» Паўла Белавуса і яго каманды? А ў тым, што яна стала месцам правядзення творчых сустрэч, літаратурных і музычных вечарын, канцэртаў і праглядаў кінастужак.

А гэта зусім не падабаецца нябачным ахоўнікам «грамадскага парадку і спакою», тым больш што там праводзіліся беларускамоўныя канцэрты, а іх удзельнікі і слухачы размаўляюць па-беларуску. Чым не жахлівы сон чыноўніка! Але Павел Белавус не губляе аптымізму і верыць у тое, што эпоха забаронаў згіне, як дрэнны сон, і тое, што рабілася пры «Арт-сядзібе» ў гэтыя гады, стане для іншых арганізатараў беларускіх музычных і літаратурных сустрэч узорам некамерцыйнай культурна-асветніцкай працы.

На гэтым «чарнаспісачным» фоне яшчэ большую сілу набывалі новыя канцэртныя формы, якія сталі супрацьвагай забаронам і ігнараванню нацыянальнага ў музычным мастацтве. Маю на ўвазе творчыя сустрэчы беларускіх музыкантаў са слухачамі ў межах акцыі «Рок-салідарнасць», у якіх прынялі ўдзел такія выканаўцы, як Кася Камоцкая, Аляксандр Кулінковіч, Вячаслаў Корань, Аляксандр Памідораў, Піт Паўлаў і іншыя айчынныя музыканты. Гэтыя сустрэчы адбываліся не толькі ў сталіцы, але і ў многіх іншых беларускіх гарадах і вёсках. Напрыклад, «кватэрнік» гурта «Голая манашка» з поспехам прайшоў у Вілейцы, кіраўнік гурта «Палац» Алег Хаменка спяваў свае фолк-творы ў Магілёве, а рок-бард Андрэй Плясанаў — на радзіме пісьменніка Васіля Быкава ў вёсцы Бычкі на Віцебшчыне. Многія з гэтых выканаўцаў маглі рэалізаваць свае творчыя планы не толькі на сустрэчах праекта «Рок-салідарнасць», але і на «жывых» канцэртах, якія адбываліся ў вольным фармаце на сталічнай вуліцы К. Маркса. У гэтым годзе тут пад апладысменты гараджан гучалі мелодыі песень гуртоў «Рэха», «Гаротніца», «P.L.A.N.»...

Што тычыцца беларускіх дыскаў і альбомаў, якія пабачылі свет сёлета, то нашу ўвагу прыцягнулі некалькі навінак ад айчынных выканаўцаў. Маю на ўвазе праекты З. Вайцюшкевіча «Ваячак» і Л. Вольскага «Саўка ды Грышка. Сто песень 2010–2012 гадоў», якія даволі яскрава адлюстравалі два накірункі ў беларускай непадцэнзурнай музычнай творчасці: эксперыментальна-авангардны і сатырычны. Але, на маю думку, барацьба за лаўры найлепшага беларускага альбома разгорнецца паміж гуртом «AKUTE» і іх альбомам «Nie isnuje» і музыкантамі «:B:N:», якія ў гэтым годзе прадставілі слухачам доўгачаканы дыск «Крок за крокам». Магчыма, у гэтую спрэчку ўмяшаюцца музыканты гурта «LITVINTROLL», якія падрыхтавалі слухачам сюрпрыз у выглядзе новага альбома «Chornaja Panna». Тут трэба ўзгадаць, што гэты дыск музыканты прысвяцілі так рана адышоўшаму ад нас рок-музыканту, бас-гітарысту гурта «LITVINTROLL» Алегу Клімчанку.

**Сапраўдным рухавіком сёлетняга фестывальнага года ў нашай краіне трэба было б прызнаць кіраўніка гурта «UR'IA» Юрыя Выдронка**

Нельга не ўспомніць і іншыя страты нашай музычнай культуры, якія адбыліся ў 2012 годзе. Гэта і трагічны адыход у лепшы свет музычнага прадзюсера і арганізатара рыцарскага руху Беларусі Арыны Вячоркі. Добрым помнікам яе дзейнасці абавязкова застанецца выдадзены Арынай у гэтым годзе дыск з «Полацкім сшыткам» — унікальным зборам шэдэўраў старадаўняй беларускай музыкі. Ветэраны беларускага рок-руху будуць памятаць і былога кіраўніка «Талакі» Сержука Вітушку, які шмат зрабіў для адраджэння Беларусі і папулярызацыі беларускай рок-музыкі сярод моладзі ў 80–90 гады мінулага стагоддзя. Дыск «Дзінь-дзілінь: пара гуляць у казкі», які з дапамогай партала «Тузін Гітоў» быў выдадзены ў Беларусі, адлюстраваў творчасць Сержука ў апошнія гады яго жыцця. У рэалізацыі гэтага фанаграфічнага праекта прынялі ўдзел многія беларускія артысты: Л. Вольскі, А. Хаменка, З. Вайцюшкевіч, Г. Хітрык, а таксама вядомыя літаратары (А. Глобус, А. Хадановіч), заслужаная артыстка Беларусі З. Бандарэнка, былы амбасадар Швецыі ў Беларусі С. Эрыксан і іншыя.

Калі ўспомніць самыя важныя падзеі фестывальнага руху ў нашай краіне, то, як і ў мінулыя гады, тон задавалі беларускія фолк-выканаўцы, якія ажыццявілі некалькі праектаў еўрапейскага кшталту. Напрыклад, сёлетні фолк-фэст «Камяніца», які прайшоў у Музеі народнай архітэктуры і побыту ў Строчыцах, мог бы зрабіць гонар любому еўрапейскаму гораду, як па якасці выконваемай музыкі, так і па кантынгенту наведвальнікаў. Радасна, што на ім з поспехам аднавіў сваю канцэртную дзейнасць унікальны па інструментальнаму складу і рэпертуару фолк-гурт «Ліцьвіны», які ў апошнія гады не часта можна ўбачыць на канцэртных пляцоўках. Да таго ж, наведвальнікі фэсту пазнаёміліся з творчасцю маладых гуртоў, такіх, як «Vyraj» і «Re1ikt» — перспектыўных выканаўцаў новай хвалі беларускай фолк- і рок-музыкі.

Сапраўдным рухавіком сёлетняга фестывальнага года ў нашай краіне трэба было б прызнаць кіраўніка гурта «UR'IA» Юрыя Выдронка: не паспела восенню адгучаць тэатралізаванае фолк-шоу «Таўкачыкі на Дзяды, ці Halloween па-беларуску», як летам Ю. Выдронак пра падтрымцы Міністэрства культуры з дапамогай мясцовых уладаў правёў фестываль «Таўкачыкі на Купалле» ў Любані. Фестываль ускалыхнуў музычнае жыццё гэтага раённага цэнтра: у фэсце прынялі ўдзел не толькі гурт «UR'IA» і іх сябры з рэгіёнаў, але і дзясяткі мясцовых калектываў і сотні любанскіх аматараў фальклору. Здаецца, уся Любань танчыла і спявала беларускія песні каля Купальскага вогнішча! Гэты год Ю. Выдронак завяршае новым фэстам, «Таўкачыкамі на Калядьі» і першым у Беларусі сольным канцэртам свайго гурта «UR'IA». Будзем спадзявацца, што канцэрт-фэст стане аптымістычнай кодай гэтага супярэчнага, але цікавага года, які стаў яшчэ адной прыступкай у развіцці айчыннай рок-сцэны.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# ПАШТОВЫ БЛОК — 20-ГОДДЗЮ ДЫПЛАМАТЫЧНЫХ АДНОСІН БЕЛАРУСІ З ІЗРАІЛЕМ

Марат ГАРАВЫ

**18 снежня ў Нацыянальным мастацкім музеі адбылася прэзентацыя беларускага паштовага блока, прысвечанага 20-годдзю ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Беларуссю і Ізраілем. Блок наміналам 15 тысяч рублёў з выявай характэрных беларускага і ізраільскага краявідаў выпушчаны Міністэрствам сувязі і інфарматызацыі Беларусі на беларускай мове і іўрыце.**

Як адзначыў начальнік упраўлення Азіі і Афрыкі Міністэрства замежных спраў Беларусі, былы амбасадар Беларусі ў Ізраілі Ігар Ляшчэня, сакрэт добрых міждзяржаўных адносін адначасова і




просты, і складаны. Паводле слоў дыпламата, абодва бакі павінны абапірацца на вобласці ўзаемнага цяпла і дабрыні, узаемных інтарэсаў і выгады. «І тады на нейкім этапе абодва бакі будуць вымушаныя разумець адзін аднаго лепей па тых пытаннях, каторыя яшчэ не вырашаныя. Як чалавек, які нядаўна ўзначальваў амбасаду Беларусі ў Ізраілі, я рады адзначыць, што нашыя адносіны ідуць менавіта такім шляхам, — сказаў Ляшчэня. Выпуск паштовага блока ён назваў «знакавым сведчаннем таго, наколькі разнастайнымі і цёплымі сталі беларуска-ізраільскія адносіны, бо такога кшталту мерапрыемствы праходзяць у Мінску з удзелам няшмат якіх краін.

Амбасадар Ізраіля ў Беларусі Іосіф Шагал падзякаваў беларускі бок за выпуск блока і назваў гэту падзею «вельмі сімвалічным жэстам, які з падзякай успрыняў ізраільскі бок. Паводле слоў дыпламата, ізраільска-беларускія адносіны заўсёды характарызаваліся шчырасцю і цеплынёю. Ізраіль і Беларусь злучаныя надзейным мостам чалавечых лёсаў: сёння на Зямлі Абяцанай жывуць 150 тысяч выхадцаў з Беларусі, у ёй нарадзіліся многія выбітныя асобы, што пакінулі яскравы след у гісторыі Ізраіля, сказаў Шагал.

Міністр сувязі і інфарматызацыі Беларусі Мікалай Панцялей выказаў надзею, што паштовы блок не толькі распавядзе будучым пакаленням пра дружбу і супрацоўніцтва беларускага і ізраільскага народаў напрыканцы XX — на пачатку XXI стагоддзя, але з цягам часу стане і філатэлістычным рарытэтам. Паводле ягоных слоў, народы Беларусі і Ізраіля злучае агульная гісторыя, у якой «нашыя продкі жылі пад адной страхою, сёрбалі адно гора, зведалі цяжкія выпрабаванні і прыгнёт.



Затым Ігар Ляшчэня, Іосіф Шагал і Мікалай Панцялей правялі гашэнне паштовых мініяцюр спецыяльным штэмпелем на канвертах першага дня і пакінулі на іх свае аўтографы.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1333

Падпісана да друку 21.12.2012. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.